# МЕДЫЯ АДУКАЦЫЯ Ў СУЧАСНАЙ ШКОЛЕ

*У дадзены зборнік увайшлі працы беларускіх і чэшскіх педагогаў, якія займаюцца медыяадукацыйнай практыкай ва ўстановах агульнай сярэдняй адуацыі і (або) працуюць з дарослымі – настаўнікамі школ і педагогамі дадатковай адукацыі. Прапанаваныя да ўвагі чытачоў тэксты ахопліваюць разнастайныя тэарэтычныя і практычныя аспекты фарміравання медыяграматнасці вучняў.*

*Дапаможнік адрасуецца настаўнікам, метадыстам, кіраўнікам устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, таксама выкладчыкам універсітэтаў і ўстаноў дадатковай адукацыі педагогаў.*

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Паважаныя калегі!

Сёння ўжо ніяк нельга абараніцца ад уздзеяння медыя, якія ўплываюць на нас кожны дзень з усіх бакоў. Але, калі мы хочам быць асобамі грамадска-свядомымі і хочам разумець сваё асяроддзе, мы не можам сабе дазволіць не ўмець арыентавацца ў медыя альбо не быць здольнымі адэкватна інтэрпрэтаваць інфармацыю, якая прыходзіць да нас праз іх. Таму правільнае разуменне медыякантэнту і ўвогуле агульная арыентацыя ў медыяасяроддзі становіцца непадзельнай часткай агульнай адукацыі. Гэтым кампетэнцыям добры настаўнік, не пабаюся гэтага слова, **павінен** навучыць сваіх вучняў. Падстава для такога моцнага сцверджання ў наступным: я згодны з поглядамі тых, хто кажа, што медыяграматнасць з'яўляецца неабходнай умовай для паўнавартаснага ўключэння асобы ў грамадскае жыццё. Урэшце рэшт, мы жывём у час, насычаны медыя, і не можам нават падумаць, што ў бліжэйшы час будзе іначай. Як, на маю думку, правільна прагучала на адным арганізаваным намі семінары ў другой палове верасня 2015 года ў Беларусі: «Гэта ўжо не пытанне **ці трэба вучыць**, гэта пытанне **як вучыць**». У такім духу канцэптуалізаваны цэлы зборнік артыкулаў, які вы зараз трымаеце ў руках.

У Чэшскай Рэспубліцы мы мэтанакіравана рэалізуем медыяадукацыю ў сярэдніх школах ужо з 2006 года, калі гэтая тэма была згадана ў Агульнай адукацыйнай праграме, якая служыць абавязковым дапаможнікам для ўсіх нашых сярэдніх школ і гімназій. Такім чынам, яна ўплывае на ўсіх вучняў ад 7 да 15 гадоў. У прапанаваным зборніку – артыкулы чэшскіх і беларускіх педагогаў, якія так ці іначай занятыя праблемамі медыяадукацыі і медыяграматнасці ўвогуле. Ён адрасаваны, перш за ўсё, беларускім настаўнікам.

Мы верым, што гэтай публікацыяй мы паглыбім узаемнае супрацоўніцтва паміж педагогамі Чэхіі і Беларусі, і спадзяюся, што гэта толькі адзін з мноства крокаў, якія мы зробім на агульным шляху да ведаў. Жадаю ўсім прыемнага чытання і спадзяюся на добрыя меркаванні адносна медыясправаў.

*Павел Данэк,*
*каардынатар міжнародных праектаў*
*АМО (Чэшская Рэспубліка)*

# АД РЭДАКТАРА

Звычайна зборнікі артыкулаў уяўляюць сабой мікс з рознапланавых матэрыялаў, якія аб’яднаны толькі тым, што маюць дачыненне да адукацыі. Напрыклад, у адной кніжцы могуць быць тэксты і пра грамадзянскае выхаванне, і пра выкладанне асобнай тэмы курса фізікі.

Мы прапануем зборнік, які нельга назваць эклектычным, паколькі, па-першае, усе яго матэрыялы маюць дачыненне да адносна вузкай тэмы; па-другое, праз усе тэксты чырвонай лініяй праходзіць ідэя актуальнасці фарміравання ў педагогаў і вучняў медыйных кампетэнцый; па-трэцяе, яго аўтары (беларускія і чэшскія педагогі) прытрымліваюцца аднолькавых ці вельмі блізкіх пазіцый адносна тэорыі і практыкі медыяадукацыі.

Пад медыяграматнасцю аўтары разумеюць сукупнасць уменняў знаходзіць неабходную інфармацыю, яе аналізаваць, ацэньваць, а таксама ствараць свае медыяпаведамленні ў розных відах, жанрах і формах медыя. Медыяадукацыя разглядаецца ў розных сэнсах: і як сфера дзейнасці людзей, і як кірунак сучаснай педагогікі, і як працэс развіцця асобы з дапамогай і на матэрыяле сродкаў масавай камунікацыі. Прадукт медыяадукацыі – медыйна адукаваны чалавек, у якога сфарміравана культура стасункаў з медыя, выяўлены творчыя і камунікатыўныя здольнасці, развіта крытычнае мысленне, якое забяспечвае ўспрыняцце, аналіз, інтэрпрэтацыю і ацэнку медыятэкстаў.

Кніга пабудавана на падставе кампетэнтнаснага падыходу: аўтары выразна ўказваюць на важныя медыякампетэнцыі і прапануюць метады і сродкі, найбольш прыдатныя для іх фарміравання. Гэта прадстаўлена даволі пераканаўча, паколькі і беларускія, і чэшскія педагогі дэманструюць свой эфектыўны вопыт медыяадуацыйнай дзейнасці і на вучэбных занятках, і ў пазакласнай рабоце. Уражваюць практычныя напрацоўкі чэшскіх калег, якія маюць ужо даволі вялікі досвед фарміравання медыякампетэнцый у сваіх вучняў. Для чэшскага вопыту ўласціва шырокае выкарыстанне праектных і даследчых метадаў навучання, супрацоўніцтва з журналістамі, абавязковае выкарыстанне альтэрнатыўных крыніц інфармацыі.

У нашай краіне медыяадукацыя – адносна новая практыка, але ў зборніку можна пазнаёміцца з цікавым айчынным вопытам далучэння вучняў да аналізу і стварэння медыяпрадуктаў.

*Мікалай Запрудскі,*
*прафесар кафедры педагогікі і менеджмента адукацыі*
*Акадэміі паслядыпломнай адукацыі (Рэспубліка Беларусь)*

# СПІС АЎТАРАЎ

**БУТОРЫНА ІРЫНА**, *метадыст аддзела метадычнага забеспячэння пачатковай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі*

**БЭНЕШ ІРЖЫ**, *настаўнік першай ступені навучання базавай школы Враціслаўска г. Прагі, магістр у галіне спецыяльнай педагогікі і выкладання для першай ступені школ*

**ВАВРАВА ТЭРЭЗА**, *дырэктар грамадскай арганізацыі "Антыкомплекс", магістр у галіне міжнародных адносін і гісторыі нямецкамоўных краін*

**ЗАПРУДСКІ МІКАЛАЙ**, *прафесар кафедры педагогікі і менеджмента адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, кандыдат педагагічных навук, дацэнт*

**КУДЗЕЙКА МІХАСЬ**, *дацэнт кафедры прыватных методык Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, кандыдат педагагічных навук*

**ЛАЗІЦКАЯ АЛА**, *дырэктар сярэдняй школы № 2 г. Століна*

**МАЦКЕВІЧ ТАМАРА**, *намеснік старшыні Таварыства беларускай школы*

**НАЙБЕРТ ЯРАСЛАЎ**, *настаўнік гісторыі, грамадазнаўчых навук і грамадскага выхавання гімназіі «Прыродная школа», Інстытут вывучэння таталітарных рэжымаў, доктар філасофскіх, гістарычных навук*

**ПАЛЕЙКА АЛЕНА**, *метадыст аддзела метадычнага забеспячэння гісторыка-грамадазнаўчай і сацыякультурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі*

**РАДЗЕВІЧ АЛЕНА**, *начальнік цэнтра прафесійнага развіцця і інавацыйнай адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі*

**ТРУНДА ІРЖЫ**, *дырэктар базавай школы Враціслаўска г. Прагі*

**ФОЙСТ УЛАДЗІМІР**, *дырэктар базавай школы г. Пабяжовіцэ*

**1.1.**

# МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ І МЕДЫЯГРАМАТНАСЦЬ

*Тэрэза Ваврава*

Сучаснае грамадства выдатна «медыялізавана» як традыцыйнымі сродкамі масавай камунікацыі (перыядычны друк, радыё, тэлебачанне), так і новымі сеціўнымі медыя. У сучасным свеце амаль што не засталося месца, якое было б не закранута медыя. Акрамя таго, усё больш і больш сацыяльна значнай камунікацыйнай дзейнасці адбываецца праз медыя і з дапамогай іх актыўнага ўдзелу. Яны становяцца вырашальным сацыялізуючым фактарам і спосабам ідэнтыфікацыі чалавека ў грамадстве. Могуць быць розныя меркаванні наконт таго, у якой ступені медыя закранаюць сям›ю і школу, але яны, несумненна, маюць вялікі ўплыў на паводзіны, лад жыцця і, у некаторай ступені, на якасць жыцця. Таму важна і нават неабходна ўмець «счытваць» і адрозніваць, дзе ёсць маніпуляцыя альбо скажонае стаўленне да натуральнай і сацыяльнай рэчаіснасці. Такім чынам, складваецца новая кампетэнцыя – медыяграматнасць. Як з гэтай кампетэнцыяй працуе чэшская школа?

Сучасная адукацыя імкнецца перадаць вучням не толькі фактычныя веды, але таксама некаторыя ўменні і каштоўнасныя ўстаноўкі. Вынікам навучальнага працэсу мае быць кампетэнтны грамадзянін, які арыентуецца ў навакольным свеце і ў стане сябе ў ім рэалізаваць. Пра тое, як менавіта дасягнуць такой мэты, на адукацыйных канферэнцыях вядуцца гарачыя дэбаты, але ва ўсіх падыходах назіраюцца дзве тэндэнцыі. Першая заключаецца ў імкненні выкладчыкаў замяніць традыцыйную перадачу ведаў вучням на іх больш самастойную працу, што, натуральна, прадугледжвае і іх уласную працу з інфармацыйнымі крыніцамі. Далей робіцца акцэнт на распрацоўку аргументаў, развіццё камунікатыўных навыкаў і прэзентацыю ўласнага меркавання.

Другая тэндэнцыя грунтуецца на перакананні, што школьная адукацыя з›яўляецца занадта фактаграфічнай і не забяспечвае навыкамі, карыснымі ў рэальным жыцці.

Акцэнт на практыкаарыентаванасць прадметаў, якія вывучаюцца ў школе, ставіць і Еўрапейская камісія. Па яе рэкамендацыі (у прыватнасці, Еўрапейскага парламенту) важным аспектам адукацыйнага працэсу з›яўляецца сукупнасць ключавых кампетэнцый сучаснага чалавека, у тым ліку “медыяграматнасць”.

Што гэта паняцце азначае? «Медыяграматнасць датычыцца навыкаў, ведаў і разумення, якія дазваляюць эфектыўна і бяспечна выкарыстоўваць медыя. Медыйна дасведчаныя людзі павінны ўмець зрабіць свядомы выбар, разумець характар зместу і паслуг і быць здольнымі скарыстацца поўным спектрам магчымасцяў, якія прапануюць новыя інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі. Яны павінны быць здольнымі лепш абараняць сябе і свае сем'і ад шкоднага або абразлівага матэрыялу» (*Дырэктыва Еўрапарламенту 2007/65 / ЕС. Арт. 37*). Акрамя таго, медыяграматнасць спрыяе крытычнаму мысленню і разуменню свету.

Сёння ў Чэшскай Рэспубліцы абгрунтавана ўключэнне навучання медыяграматнасці ў праграму школьнай і пазашкольнай адукацыі. Навыкі, карысныя ў «сапраўдным жыцці», і веды аб сучасным свеце ў вучэбныя праграмы Чэхіі прыходзяць хоць і крыху позна, але ў кантэксце адукацыйных рэформаў з 2006 года адлюстроўваюцца ў так званых скразных тэмах. Да іх адносіцца і медыяадукацыя[1]. Скразныя тэмы адукацыйных праграм для школ хоць і абавязковыя, але дакладная колькасць гадзін, якія школы павінны прысвяціць гэтай тэме, не вызначана. Медыяадукацыю рэалізоўваюць трыма рознымі спосабамі:

- у якасці асобнага прадмета (вельмі рэдка);
- у рамках праектнага навучання;
- як далучэнне да ўжо існуючых прадметаў.

Вядома, гэтыя спосабы можна сумяшчаць, ажыццяўляючы, напрыклад, медыяадукацыю ў рамках праектаў (такіх, як школьная газета) і адначасова разглядаючы тэму ў межах прадмету (грамадзянскае выхаванне).

Сярод асноўных задач медыяадукацыі наступныя:

- зрабіць зразумелым, як працуюць медыятэксты;
- растлумачыць, як яны прымаюць удзел у стварэнні сэнсаў;
- расказаць, як працуюць медыяарганізацыі;
- апісаць, як аўдыторыя ахопліваецца медыяпрадуктамі, тэхналогіямі і ўстановамі і якое значэнне ім надае.

Вынік медыяадукацыі – медыяграматнасць, яна павінна ахопліваць наступныя навыкі:

- здольнасць арыентавацца ў тэкстах і гутарковых расповедах, адрозніваць у іх асноўную інфармацыю ад другаснай;
- уменне выяўляць схаваныя сэнсы, маніпулятыўныя тэхнікі, недакладную і няпоўную інфармацыю і г.д., а таксама праводзіць крытычную рэфлексію;

- здольнасць адрозніваць сапраўдны тэкст або расповед ад выдуманых гісторый і суб’ектыўных меркаванняў, не падмацаваных фактамі;
- здольнасць дакладна фармуляваць думкі і запісваць іх;
- праяўленне крэатыўнасці пры стварэнні медыятэкстаў.

Аднак які спосаб з’яўляецца найлепшым, каб вырашыць названыя задачы? Напрыклад, размаўляць у школе аб тым, якія тэмы зараз дамінуюць у медыя, аказалася неэфектыўным. Чэшскія настаўнікі часта скардзяцца, што іх вучні не надта цікавяцца навінамі ў СМІ. Пра гэта сведчаць і даследаванні факультэта сацыяльных навук Карлава ўніверсітэта (“Чалавек у нястачы”, 2012 і 2014). Яны паказваюць, што чэшскія школьнікі вельмі мала цікавяцца навінамі ў сродках масавай камунікацыі і не выкарыстоўваюць для пошуку навін ні інтэрнэт, ні іншыя крыніцы. Часцей за ўсё яны тлумачаць гэта так: «гэта нудна», «мне гэта не патрэбна», «гэта пустая трата часу». Аднак праекты ці заняткі, якія развіваюць навыкі крытычнага чытання і ўспрымання медыяінфармацыі, вучаць інтэрпрэтацыям і раскрыццю адносін паміж медыяпаведамленнямі і рэальнасцю, разуменню іх структуры і вызначэнню аўтарскай пазіцыі, з’яўляюцца паспяховымі. Рэакцыя вучняў значна змяняецца: «я пачаў цікавіцца, чаму навіны выглядаюць так, як яны выглядаюць», «я пачаў параўноўваць навіны на тэлевізійных каналах», «я размаўляю аб гэтым з бацькамі», «большасць рэчаў, якія мы вучым у школе, ў рэальным жыцці ніколі не спатрэбяцца. З увядзеннем медыяадукацыі ў мяне такое ўражанне, што гэта крыху змянілася».

З гэтых цытат становіцца ясна, што навучэнцам падабаецца працаваць з медыя, гэта перш за ўсё залежыць ад таго, як канкрэтная школа і настаўнік іх зацікавяць. Падчас увядзення медыяадукацыі ў базавых і сярэдніх школах высветлілася, што часта для школ самы просты спосаб – гэта інтэграцыя тэм ва ўжо існуючыя дысцыпліны, між іншым, таму, што ў некаторыя традыцыйныя прадметы тэмы медыяадукацыі ўжо ўбудаваныя. Традыцыйныя прадметы, такія як чэшская мова і літаратура, грамадзянская адукацыя і гісторыя, з тэмай медыялізацыі і медыя працуюць даволі цесна. Інтэграцыя ў існуючыя прадметы праходзіць, відавочна, самым простым шляхам, асабліва там, дзе тэма медыяадукацыі ўключае ў сябе моцны элемент ведаў, блізкі дадзенаму прадмету.

Якія тэмы і медыязмест можна лёгка і з карысцю выкарыстаць ў традыцыйных прадметах?
Напрыклад:
- Медыя і мы – штодзённасць (грамадазнаўства)
- Сродкі масавай камунікацыі, роля медыя ў міжнародных адносінах (гісторыя)
- Вобразы (стэрэатыпы) у медыя (грамадазнаўства)
- Прапаганда і рэклама (гісторыя)

- Свабода слова (грамадазнаўства)
- Структура медыя (мова і літаратура).

Дзякуючы медыяадукацыі некаторыя прадметы і разглядаемыя тэмы можна зрабіць значна больш прывабнымі. Асяроддзе, галоўным чынам сацыяльных сетак, вучням добра вядома, і ім падабаецца ў ім арыентавацца. У той жа час магчымасць паспрабаваць стварыць які-небудзь медыякантэнт (зняць рэпартаж, адрэдагаваць відэа, прыдумаць рэкламу) ім прапануецца як цікавая задача, але вучню прызначана роля творцы, які павінен вырашыць, што і як ён хоча паказаць гледачам. Менавіта гэты момант настаўнік можа вельмі эфектыўна выкарыстаць для рэфлексіі і крытычнага разважання пра тое, як медыякантэнт працуе на самой справе. У выніку ўключэння медыяадукацыі ў выкладанне сваіх прадметаў, настаўнік можа падвышаць усе тры кампаненты адукацыі: узровень ведаў пра медыя, іх гісторыю; узровень навыкаў стварэння медыякантэнту і, нарэшце, узровень крытычнай ацэнкі ўздзеяння медыяпаведамленняў падчас рэфлексіі.

**1.2.**

# МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ ЯК ІНАВАЦЫЙНАЯ ПРАКТЫКА ПЕДАГОГАЎ І СРОДАК РАЗВІЦЦЯ КРЫТЫЧНАГА МЫСЛЕННЯ ВУЧНЯЎ

*Алена Радзевіч*

## Новыя адукацыйныя рэаліі і задачы: выклікі XXI стагоддзя

Змена маштабаў падзей, якія адбываюцца ў грамадстве, ставіць складаную праблему перад педагогамі, задачай якіх з’яўляецца навучанне і выхаванне дзяцей новага пакалення. Амерыканскі псіхолаг Д. Халперн адзначыла, што адукацыя, разлічаная на перспектыву, павінна будавацца на аснове двух прынцыпаў: уменні хутка арыентавацца ў імклівым патоку інфармацыі і знаходзіць патрэбнае і ўменні асэнсаваць і прымяніць атрыманую інфармацыю.[2]

Што прынесла нам XXI стагоддзе разам са сваімі тэхналогіямі? Было б дзіўна, калі б змены ў грамадстве не закранулі сістэму адукацыі. У адказ на выклікі сучаснага інфармацыйнага свету мяняюцца адукацыйныя тэхналогіі, змяняецца адукацыйная парадыгма ад канцэпцыі класічнай адукацыі да навучання на працягу ўсяго жыцця. Развіваецца дыстанцыйнае і электроннае навучанне (е-навучанне), якое павінна забяспечыць высокі ўзровень граматнасці насельніцтва і рэалізаваць адзін з асноўных адукацыйных прынцыпаў – адукацыя для ўсіх. Веды становяцца адным з рухавікоў эканамічнага развіцця.

Вызначэнне новых падыходаў да адукацыі хвалюе практычна ўсю сусветную супольнасць. Нягледзячы на актыўны пошук новых форм, метадаў і падыходаў да навучання, рэальная педагагічная практыка ў некаторых настаўнікаў па-ранейшаму будуецца на прынцыпе «паслушэнства праз забарону старэйшага» — традыцыйная сістэма паслухмяных выканаўцаў. У сувязі з гэтым узнікае шмат пытанняў:

- Чаму, прыходзячы ў школу, усе першакласнікі актыўныя, цікаўныя, дапытлівыя, а пасля некалькіх гадоў навучання ў школе становяцца пасіўнымі і абыякавымі?

- Чаму некаторыя настаўнікі па-ранейшаму каштоўным лічаць добрую памяць, а не мысленне. Разуменне формул, правіл не так важна, як іх завучванне? Спіс можна працягваць…

Гэтыя ды іншыя праблемныя пытанні ўзнікаюць як супярэчнасці паміж патрабаваннем сучасным грамадствам якасна новага навучання, заснаванага на кампетэнтнасным падыходзе, і нежаданнем многіх настаўнікаў мяняць свае традыцыйныя педагагічныя падыходы, звычкі і стэрэатыпы.

У сувязі з новымі падыходамі да адукацыі XXI стагоддзя ўзнікае пытанне: якімі якасцямі, кампетэнцыямі павінны валодаць вучні, каб быць паспяховымі ў сучасным, зменлівым інфармацыйным грамадстве?
У літаратуры можна сустрэць розныя падыходы да вызначэння найбольш важных якасцяў чалавека XXI стагоддзя, аднак большасць аўтараў адзначаюць, што паспяховы чалавек павінен быць не толькі першакласным спецыялістам, але і паспяховым грамадзянінам, паспяховым бацькам, паспяховым спажыўцом і г.д. Паспяховы грамадзянін разумее, з чаго складаецца ўлада, фінансавая сістэма, грамадзянская супольнасць. Паспяховы бацька ведае правілы выхавання і метады развіцця дзіцяці. Паспяховы спажывец ведае, што яму трэба, як і дзе гэта набыць.

Рашэнне вытворчых, маркетынгавых, сацыяльных і нават побытавых задач ўсё больш патрабуе сістэмнага, міжпрадметнага падыходу, умення аналізаваць, ацэньваць інфармацыю і бачыць аддаленыя наступствы.

Такім чынам, галоўная задача вучняў – стаць медыяадукаванымі грамадзянамі, навучыцца вучыцца і думаць крытычна. У сувязі з гэтым кожнаму педагогу варта прааналізаваць свае метады навучання. Якія з іх спрыяюць развіццю важных для сучаснага чалавека якасцей? З-за вялізнага аб’ёму інфармацыі немагчыма і нават недарэчна меркаваць, што дзяцей у школах можна навучыць усяму сучаснаму інфармацыйнаму зместу. Традыцыйны падручнік ужо не можа выступаць у якасці адзінай крыніцы інфармацыі, тым больш, пакуль ён выйдзе ў свет, ужо паспее ў значнай ступені маральна састарэць. Акрамя таго, інфармацыя, якую настаўнікі ў стане перадаць нашым дзецям, складае толькі малую частку той, якая спатрэбіцца ім на працягу жыцця. Каб быць паспяховым, патрэбныя зусім іншыя веды, кампетэнцыі і іх новае асэнсаванне.

Праблема абцяжарваецца тым, што педагогі павінны навучыць дзяцей жыць у свеце, якога самі не ведаюць, таму што ў цяперашніх рэаліях немагчыма раз і назаўжды даць вучню веды, якія стануць залогам атрымання «добрага» працоўнага месца і прафесійнага развіцця. Немагчыма дакладна прадказаць, якія віды працы стануць актуальнымі ў будучым, дзе будуць працаваць вучні, якія толькі прыйшлі ў пер-

шы клас. Яны могуць працаваць у прамысловасці, у банках, у сферы аховы здароўя, адукацыі і іншых сферах, але, што і як яны будуць рабіць на сваіх працоўных месцах, цяжка сабе сёння ўявіць.

Свет становіцца ўсё больш складаным, на людзей уздзейнічаюць розныя медыя, якія выдаюць супярэчлівую, часам узаемавыключальную інфармацыю пра адныя і тыя ж з'явы, падзеі, навуковыя адкрыцці і актуальныя праблемы сучаснасці. Сярод медыяінфармацыі ёсць праўдзівая, даказаная фактамі; сумнеўная, якая адлюстроўвае толькі пункт гледжання аўтара; адкрыта ілжывая, якая выконвае чыйсьці заказ, або тая, якая з'яўляецца гульнёй фантазіі аўтара. Пазіцыі супярэчаць адна адной, і разабрацца, дзе праўда, а дзе хлусня, чаму верыць, а чаму не, становіцца вельмі няпроста нават даросламу, а што гаварыць пра вучня.

Настаўнік, як правіла, выкладае адзіны пункт гледжання на праблему, падзею, з'яву, прывучае вучняў успрымаць сябе як крыніцу "правільных" меркаванняў, і больш за тое, адзіна "правільных". Усё, як у вядомым анекдоце: "Ёсць два пункты гледжання – няправільны і мой". Часцей гэта адбываецца з-за прафесійнага жадання навучыць добраму і правільнаму і з-за недахопу часу. Але педагог часта супярэчыць іншым медыякрыніцам, даступным вучням. Якім бачыцца выйсце з гэтай складанай сітуацыі? На сённяшні дзень становіцца зразумелым, што настаўнік не можа быць адзінай крыніцай інфармацыі. Неабходна навучыцца выкарыстоўваць патэнцыял сучасных медыякрыніц на ўроках і ў пазаўрочнай дзейнасці, а для гэтага патрэбна мець развітае крытычнае мысленне.

## Што такое крытычнае мысленне і навошта яно сучаснаму чалавеку?

Многія людзі гатовыя карыстацца рэкамендацыямі экспертаў па выбары прадуктаў харчавання, бытавой хіміі або тэхнікі. Для гэтага яны звяртаюцца да розных крыніц інфармацыі, разумеючы, што лепш выдаткаваць час на вывучэнне рынку, чым пакутаваць ад спажывання няякаснага прадукту.

Крытычнае мысленне – такі ж падыход да спажывецкай граматнасці, толькі ў адносінах да інфармацыі. Яно патрэбна не толькі для выбару неабходнага нам прадукту: давярымся тэлевізійнай рэкламе ці дэталёва вывучым спажывецкі рынак, – але і для таго, каб не трапіць у залежнасць ад экспертных ацэнак, інтэрпрэтацый, грамадскага меркавання і маніпулявання СМІ.
Гаворачы аб крытычным мысленні, часта робяць такую памылку: яго прымаюць за прадмет, які павінен выкладацца ў школе, або за набор навыкаў, метадаў, якія можна выпрацаваць і прымяніць. Калі гэта не так, тады што ж такое крытычнае мысленне?

Заснавальнікі тэхналогіі крытычнага мыслення Курт Мерэдзіт, Джыні Сціл і Чарльз Тэмпл прыйшлі да высновы, што крытычнае мысленне – гэта вынік. Гэта кропка апоры для мыслення чалавека, гэта натуральны спосаб зносін з інфармацыяй. Чалавек з развітым крытычным мысленнем знаёміцца з інфармацыяй з розных крыніц, пры гэтым ён успрымае яе з разумнай доляй скептыцызму, супастаўляе з процілеглымі пунктамі гледжання і разглядае яе магчымыя наступствы.

Крытычнае мысленне не можа развіцца ў выніку перадачы парад, рэцэптаў, выканання пэўнага алгарытма на шляху да яго. Гэта складаны разумовы працэс. Таму многія лічаць, што ён даступны толькі навучэнцам старэйшага ўзросту. Гэта не так. Маленькія дзеці цалкам здольныя выконваць складаныя разумовыя аперацыі, адпаведныя ўзроўню іх развіцця. Яны ахвотна ўдзельнічаюць у аналізе праблем і дасягаюць высокага ўзроўню прыняцця рашэнняў.

Д. Халперн вылучае цэлы шэраг якасцяў, якія характарызуюць крытычна думаючага чалавека: 1) гатоўнасць да планавання; 2) гнуткасць; 3) настойлівасць; 4) гатоўнасць выпраўляць свае памылкі; 5) усведамленне і аналіз уласных разважанняў; 6) пошук кампрамісных рашэнняў.
С. Заір-Бек адзначае, што мы стаім перад праблемай выбару інфармацыі. У гэтай сітуацыі неабходны ўменні не толькі авалодаць ёю, але і крытычна ацаніць, асэнсаваць, ужыць. Атрымліваючы новую інфармацыю, вучні павінны навучыцца разглядаць яе з розных пазіцый, рабіць высновы адносна яе дакладнасці і каштоўнасці.

## Элементамі крытычнага мыслення з’яўляюцца

**НАЗІРАННІ** – у выніку назіранняў мы можам вылучыць
**ФАКТЫ**. Ад фактаў ці іх адсутнасці мы можам перайсці да
**ДАПУШЧЭННЯЎ**, праверыўшы іх абгрунтаванасць, мы пераходзім да
**МЕРКАВАННЯЎ,** ад якіх залежаць нашы
**ПЕРАКАНАННІ**. Абапіраючыся на перакананні, мы падбіраем
**АРГУМЕНТЫ**, якія грунтуюцца на
**СЦВЯРДЖЭННІ, ПЕРАДУМОВЕ і ВЫСНОВЕ**.
А калі мы хочам праверыць аргументы, мы абапіраемся на **КРЫТЫЧНЫ АНАЛІЗ**, з дапамогай якога правяраем нашы назіранні, факты, меркаванні, перакананні і аргументы.[3]

## Паспрабуем разабрацца ў тэрміналогіі

**Факт** – гэта інфармацыя, якую мы можам праверыць і засведчыць. Факт, што Зямля сферычная і абяртаецца вакол Сонца. Ён пацвярджаецца назіраннямі і фізічнымі вылічэннямі, якія даводзяць, што гэта праўда. Але цягам гісторыі мы знаходзім прыклады таго, як чалавецтва прымае за факт таксама непацверджаную, часта супярэчную законам фізікі і назіранням інфармацыю проста таму, што яна ўкладаецца ў яго філасофію. Такі падыход, аднак, цалкам супярэчыць крытычнаму мысленню. Як факт можна разглядаць таксама інфармацыю, не заснаваную на сведчаннях, але пры наяўнасці грамадскай дамовы наконт яе. Напрыклад, фактам ёсць тое, што адзін сантыметр складаецца з 10 мм, а ў гадзіне 60 хвілін.

**Дапушчэнне** – гэта сцвярджэнне, якое можа быць праўдай ці не. Напрыклад, калі настаўнікі геаграфіі і беларускай мовы і літаратуры ў вашай школе слухаюць Вівальдзі, можна дапусціць, што ўсе педагогі установы адукацыі слухаюць яго. Аднак, не апытаўшы кожнага, каб праўдзіць сваё дапушчэнне, нельга разглядаць гэта як факт. Нельга заяўляць, што гэта праўда.

**Гіпотэза** падобная да дапушчэння. Навукова абгрунтаванае, але яшчэ канчаткова не даказанае дапушчэнне. Гіпотэза часта сустракаецца пры выкананні вучнёўскай даследчай працы. Напрыклад, калі вучань піша працу, ён павінен спачатку выкласці сваю гіпотэзу, каб затым яе пацвердзіць ці абвергнуць.

**Меркаванне** – сцвярджанне, якое мы лічым за праўдзівае. Яно залежыць ад нашага пункту гледжання, густу або асабістага досведу. Кожны бачыць свет па-рознаму, і таму ёсць розныя меркаванні пра адно і тое ж. Калі вы, напрыклад, кажаце, што жоўты колер прыгожы, гэта ваша меркаванне, а ваш сябра можа любіць зусім іншыя колеры. Меркаванне можа прымаць розныя формы: асабістыя перавагі – чаму аддаем перавагу, што любім; погляд – што лічым правільным/няправільным, добрым/дрэнным; парада – што іншым варта/не варта рабіць (напрыклад: “табе не варта з ёй сустракацца”, “табе варта купіць новы смартфон”); абагульненне – перакананне ў агульных рэчах, не падмацаванае сведчаннямі або аргументамі і часта заснаванае на перадузятасцях ці стэрэатыпах (“Усе людзі ў Афрыцы галадаюць”, “Цыганы не хочуць працаваць”, “Усе мусульмане агрэсіўныя і небяспечныя”). Меркаванне не абавязкова выказвае толькі асабістыя густы, але часта выяўляе даўнія перадузятасці. Мэта крытычнага мыслення – пераадольваць стэрэатыпы.

**Аргумент** – выказванне альбо серыя выказванняў, заяваў ці дапушчэнняў. Мэта аргумента – растлумачыць, пераканаць або давесці штосьці. Змяшчае перадумовы і адну выснову, на іх абгрунтава-

ную. Карэктны аргумент павінен грунтавацца на логіцы і фактах і весці да правільнага рашэння. Аргумент можа абгрунтоўваць пэўнае перакананне, але мы не павінны блытаць яго са звычайным сцвярджэннем.

**Сцвярджэнне** дае аб›ектыўную інфармацыю, але не імкнецца пераканаць. Сказ “Большасць краін у Афрыцы менш развітыя, чым у Еўропе” ёсць сцвярджэнне. Калі б гэта быў аргумент, то гучаў бы так: “Большасць краін у Афрыцы менш развітыя, чым у Еўропе, бо Еўрасаюз выстаўляе высокія мытныя тарыфы на іх прадукцыю. Таму некаторыя афрыканскія прадукты каштуюць даражэй, чым еўрапейскія”.

**Перадумова** – сцвярджэнне, што абумоўлівае выснову з аргументу.

**Выснова** – сцвярджэнне, што грунтуецца на перадумовах, якія яго лагічна абумоўліваюць. Калі хочам атрымаць правільную выснову, трэба працаваць з правільнымі і праверанымі перадумовамі.

Для некрытычнага спажыўца інфармацыя служыць крыніцай таго, што ён лічыць фактамі. Яго веды грунтуюцца на ўспрыманні гэтых “фактаў”. Калі ж чалавек, думае крытычна, то атрыманая інфармацыя для яго ёсць толькі збор канкрэтных фактаў, дапушчэнняў, меркаванняў, так, як іх разумее аўтар. Крытычны спажывец адрознівае не толькі змест інфармацыі, але таксама што яна адлюстроўвае, таму што кожны фрагмент інфармацыі – унікальны твор канкрэтнага аўтара.

Некрытычны спажывец чытае артыкул, навіны ці глядзіць тэлевізар, каб знайсці агульнапрынятае тлумачэнне падзей. Чалавек з развітым крытычным мысленнем чытае той жа артыкул ці глядзіць тэлевізар, каб даведацца, як аўтар тлумачыць пэўныя падзеі, і ацаніць, як у гэтых медыякрыніцах падабраныя факты, здагадкі і меркаванні.

Такім чынам, атрымліваючы інфармацыю з розных медыякрыніц, важна разумець, што ляжыць у аснове таго ці іншага артыкула, выказвання, паведамлення, навіны – факты, дапушчэнні ці толькі меркаванні, – а таксама ведаць, як фармулююцца і з чаго складаюцца аргументы. Таму сёння паняцце “крытычнае мысленне” разглядаецца ў кантэксце агульнай крытычнай граматнасці і медыякампетэнтнасці чалавека.

**Асоба з развітым крытычным мысленнем выкарыстоўвае чатыры асноўныя этапы аналізу інфармацыі:**

1 даведваецца, пра што інфармацыя (напрыклад, праз кароткі пераказ мы можам зразумець, пра што ідзе гаворка ў тэксце арыгінала);

2 высвятляе мэту аўтара;
3 вызначае танальнасць інфармацыі ці ўжытыя элементы пераканання, у тым ліку метады маніпуляцыі;
4 інтэрпрэтуе інфармацыю ў цэлым (робіць аналіз інфармацыі, каб вызначыць яе агульны сэнс).

**Прывядзем прыклад заданняў для працы з артыкулам:**

- Аддзяліце факты, якія паддаюцца праверцы ад інтэрпрэтацый і меркаванняў.
- Вызначце, што ў дадзеным матэрыяле для вас істотна, а што няважна.
- Вылучыце недаказаныя або слаба аргументаваныя сцвярджэнні. У чым вы бачыце прадузятасць і неаб'ектыўнасць аўтара? Чаму вы так вырашылі?
- Наколькі можна давяраць гэтай крыніцы? Што для вас з'яўляецца крытэрыем сапраўднасці?
- У чым заключаецца пункт гледжання аўтара гэтага матэрыялу? Чаму вы так лічыце? Ці можна прасачыць логіку разваг, як аўтар прыходзіць да сваіх высноў?
- Наколькі моцна аргументаваная пазіцыя аўтара? Ці прапануе ён прыняць свае меркаванні на веру? Як вы прыйшлі да такой высновы?
- Наколькі дакладная інфармацыя ў гэтым матэрыяле? Што вы зрабілі для таго, каб пераканацца ў яе дакладнасці?
- Ці прыводзіць аўтар альтэрнатыўныя пункты гледжання? Як ён ставіцца да аргументаў сваіх апанентаў?

## Як знайсці патрэбную нам кветку ў джунглях, або дыдактычныя прынцыпы адбору інфармацыі

Англійскі пісьменнік-фантаст Ніл Гейман, аўтар графічных раманаў, коміксаў і сцэнарыяў фільмаў, у сваім артыкуле "Чаму наша будучыня залежыць ад чытання"[4] наконт прыроды інфармацыі сказаў так: "Інфармацыя мае кошт, а правільная інфармацыя неацэнная. На працягу ўсёй гісторыі чалавецтва мы жылі ў часы недахопу інфармацыі. Інфармацыя была каштоўнай рэччу, і тыя, хто валодалі ёю, маглі разлічваць на ўзнагароджанне. У апошнія гады мы адышлі ад недахопу інфармацыі і падышлі да перанасычэння ёю. Зараз задача складаецца не ў тым, каб знайсці рэдкую кветку ў пустыні, а ў тым, каб адшукаць канкрэтную расліну ў джунглях. Нам патрэбна дапамога ў навігацыі, каб знайсці сярод гэтай інфармацыі тое, што нам сапраўды трэба".

Навучэнцы сёння, асабліва ў старэйшых класах, большую частку інфармацыі атрымліваюць не з кнігі, як гэта было раней, а ў інтэрнэце.

Існуе шмат разнастайных інфармацыйных матэрыялаў, кантэнту і рэсурсаў у інтэрнэце, і ўсе яны адрозніваюцца па ступені дакладнасці, надзейнасці і каштоўнасці. Інфармацыя існуе ў разнастайных формах (напрыклад, тэкст, фота, відэа, малюнак або статыстычныя дадзеныя, электронны або папяровы фармат), якія могуць быць прадстаўлены ў анлайнавых сховішчах і парталах, віртуальных і рэальных бібліятэках, у калекцыях дакументаў, базах дадзеных, архівах, музеях і г. д. Аднак якасць інфармацыі з гэтых крыніц можа быць ад “вельмі добрай” да “вельмі дрэннай”.

Дасведчаны чалавек выбірае некалькі розных тыпаў крыніц і выкарыстоўвае іх у адпаведнасці са сваімі запытамі. Крыніцы інфармацыі можна падзяліць на тры катэгорыі[5]:

1 **першакрыніцы** – гэта арыгінальныя крыніцы, якія не прадугледжваюць інтэрпрэтацыі інфармацыі. Першакрыніцы – гэта тэксты, якія напісаны пра людзей або самімі людзьмі, якія перажылі гістарычныя падзеі, якія зрабілі навуковыя адкрыцці, якія адчулі на сабе іх ўплыў. Да першакрыніц могуць мець дачыненні практычна любыя тэксты, лісты, фатаграфіі, дзённікавыя запісы, чарцяжы або малюнкі. Напрыклад, даследчыя справаздачы, прайс-лісты, тэксты прамоваў, электронныя пасланні, арыгінальныя творы мастацтва, рукапісы, фатаграфіі, дзённікі, асабістыя лісты, вусныя гісторыі/інтэрв’ю або дыпламатычныя дакументы. У многіх сферах і кантэкстах рэкамендуецца выкарыстоўваць, па магчымасці, першакрыніцы;

2 **другасныя крыніцы** прадастаўляюць пастаўшчыкі інфармацыі. У гэтым выпадку інфармацыя падвяргаецца інтэрпрэтацыі, аналізу або абагульненню. За-за інтэрпрэтацый і пераказаў могуць з’яўляцца недакладнасці. Чытач павінен ведаць гэта і быць асцярожным з інфармацыяй з другаснай крыніцы. Другаснымі крыніцамі могуць быць, напрыклад, газетныя рэпартажы аб медыцынскіх даследаваннях атлусцення, напісаныя больш простай, зразумелай для аўдыторыі мовай. Нягледзячы на тое, што рэкамендуецца выкарыстоўваць першакрыніцы, не абавязкова ў іх утрымліваецца больш аўтарытэтная або аб’ектыўная інфармацыя, чым у другасных крыніцах.

3 **трэція крыніцы** – гэта кампіляцыі і іншыя арганізаваныя крыніцы (напрыклад, рэфераты, бібліяграфіі, дапаможнікі, энцыклапедыі, паказальнікі, храналагічныя табліцы, базы дадзеных і т.п.), якія ўтрымліваюць інфармацыю з першасных і другасных крыніц.

Табліца 1. **ПАРАЎНАННЕ ТРОХ КАТЭГОРЫЙ КРЫНІЦ ІНФАРМАЦЫІ**

| **ПРАДМЕТ** | **ПЕРШАКРЫНІЦА** | **ДРУГАСНАЯ КРЫНІЦА** | **ТРЭЦЯЯ КРЫНІЦА** |
|---|---|---|---|
| **“Чалавек і свет» / пачатковыя класы**<br><br>Тэма «Птушкі» | Атлас птушак Беларусі Навукова-практычнага цэнтра НАН па біярэсурсах РБ. | Хрэстаматыя для пазакласнага чытання Артыкулы пра зімуючых у Беларусі птушак у СМІ | Базы дадзеных (Птушкі Беларусі) грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» *http://www.ptushki.org/guide.html* |
| **Гісторыя**<br><br>Тэма “Паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага” | Лісты з-пад шыбеніцы К. Каліноўскага | «Ліст з-пад шыбеніцы». Версія TUT.BY *http://news.tut.by/society/335874.html*; артыкулы ў СМІ, манаграфія пра жыцце і дзейнасць К. Каліноўскага | Рэфераты |
| **Фізіка**<br><br>Тэма “Тэорыя адноснасці” | Дзённік А. Энштэйна | Артыкул акадэміка В. Гінзбурга *http://modcos.com/articles.php?id=184* Манаграфія пра жыцце А. Энштэйна | Слоўнік па тэорыі адноснасці |
| **Геаграфія**<br><br>Тэма “Вялікія геаграфічныя адкрыцці” | “Кніга аб разнастайнасці свету” Марка Пола | Кароткі нарыс жыцця Марка Пола як вялікага італьянскага вандроўцы і прыродазнаўцы | Табліца “Храналогіі вялікіх геаграфічных адкрыццяў” |

Давер да тэксту вышэй, калі там цытуюцца крыніцы з імем аўтара, назвай і годам публікацыі. У інтэрнэце тэксты часта ўтрымліваюць гіперспасылкі на даследаванні, з якіх бяруцца цытаты. Так вучань можа лёгка знайсці зыходную крыніцу інфармацыі. У выпадку сумневаў у надзейнасці інфармацыі ён можа знайсці іншыя незалежныя крыніцы.

Сёння на некаторых традыцыйных ўроках захоўваюцца дзве нязменна аўтарытэтныя крыніцы інфармацыі: настаўнік і падручнік. І гэта ніяк не залежыць ад узроўню тэхнічнага забеспячэння. Аднак настаўнікі могуць павысіць ступень зацікаўленасці навучэнцаў і развіваць іх крытычнае мысленне, пазнаёміўшы з цікавымі першакрыніцамі, якія захоўваюцца ў інтэрнэце.

Уільям Дж. Броза, выкладчык універсітэта імя Джорджа Мэйсана, Фэрфакс, штат Вірджынія, ЗША, у артыкуле “Вэб-квэсты: вучымся, даследуючы першакрыніцы”[6] даў наступныя парады для настаўнікаў па арганізацыі працы вучняў з першакрыніцамі:

- **Уводзіны**. Важна забяспечыць вучняў інфармацыяй пра мэту працы з першакрыніцамі і чаканыя вынікі.
- **Заданні** павінны адпавядаць узроставым псіхалагічным асаблівасцям і кагнітыўным навыкам вучняў, улічваць даступныя рэсурсы. Акрамя таго, яны павінны быць цікавымі для вучняў.
- **Інфармацыйныя медыякрыніцы**. Акрамя вэб-дакументаў, да медыякрыніц могуць адносіцца інтэрнэт-канферэнцыі і мультымедыйныя крыніцы. Для таго каб вучні не згубіліся ў віртуальнай прасторы, настаўнік можа забяспечыць іх спасылкамі на неабходныя сайты.
- **Працэс**. На дадзеным этапе трэба выразна і дэталёва растлумачыць для вучняў, як менавіта яны павінны выконваць заданні. Напрыклад:
  1 вы будзеце працаваць у групах па чатыры чалавекі ў кожнай;
  2 кожны член групы адказвае за прачытанне і/або прагляд адной з першакрыніц;
  3 кожны член групы павінен прааналізаваць сваю крыніцу і коратка прадставіць свой аналіз у пісьмовым выглядзе;
  4 напішыце групавую справаздачу, якая аб’яднае індывідуальныя пісьмовыя паведамленні членаў групы ў цэласную карціну;
  5 абярыце дакладчыка, які прадставіць вашу справаздачу класу.
- **Кіраўніцтва.** Вучням можа спатрэбіцца дапамога ў сістэматызацыі або ў аналізе атрыманай інфармацыі. Педагогі могуць даць практычныя парады і падказкі.
- **Завяршэнне**. На гэтым этапе завяршаецца пошук інфармацыі і праводзіцца “інвентарызацыя” усяго таго, пра што даведаліся вучні.

**Заключнае слова настаўніка можа гучаць прыкладна так:**
“Віншую вас. Дзякуючы выкарыстанню першакрыніц вы маеце больш поўнае ўяўленне аб… Вы таксама навучыліся аналізаваць першакрыніцы як пасведчанні аб тых людзях, якія іх стварылі. Выкарыстоўвайце першакрыніцы ў далейшай вучобе і даследваннях для таго, каб лепш зразумець людзей і падзеі”.
Скарыстаўшыся гэтымі парадамі, педагогі на свае вочы ўбачаць, што вучняў куды больш прыцягваюць і інтрыгуюць першакрыніцы, чым традыцыйная інтэрпрэтацыя тэм ў падручніках.

Прыступаючы да пошуку інфармацыі, варта асэнсаваць, якая менавіта інфармацыя вам патрэбна. Школьнікам можна прапанаваць наступную памятку для пошуку інфармацыі ў Інтэрнэце. Гэты працэс дапаможа выявіць надзейныя інфармацыйныя крыніцы. Перш чым ацэньваць крыніцы інфармацыі, важна вызначыць для сябе мэту атрымання інфармацыі.

**Правілы пошуку інфармацыі:**
- Ніколі нельга спыняцца на адной крыніцы інфармацыі.
- Патрэбна дакладна разумець, якую інфармацыю ты хочаш знайсці.
- Калі пошукавая сістэма прапануе шмат старонак, пажадана падумаць, як звузіць пошук, калі мала, падумаць, як пашырыць.
- Важна знайсці правільныя пошукавыя словы (імёны даследчыкаў, назвы і інш.).

Для **ацэнкі аўтарытэтнасці** крыніц спытайце сябе:
- Ад каго вы атрымалі інфармацыю: ад дасведчанага спецыяліста ў гэтай галіне або ад суседа?
- Якой крыніцай вы карысталіся: блогам незнаёмай асобы або тэкстам з рэцэнзуемых навуковых выданняў?
- Скарысталіся матэрыяламі сайта прыватнай кампаніі? Калі так, то якія інтарэсы ў гэтай кампаніі?

Такім чынам, сёння важна, каб вучань не толькі ведаў, як “гугліць”, але і ўмеў ацаніць атрыманае і прыняць правільнае рашэнне. Гэта можна лічыць адной з актуальных адукацыйных задач.

Асаблівасцю медыяінфармацыі ў адрозненне ад навучальных матэрыялаў у падручніках з’яўляецца шматфункцыянальнасць і многапластовасць медыятэкстаў, якія адрасаваныя адначасова кожнаму і нікому канкрэтна, прадастаўляе выдатны матэрыял для фарміравання сувязі навучання з рэальным жыццём. Адной з асноўных мэтаў школьных урокаў можа быць вызначана навучанне “знаходжанню сэнсаў”, чаго не могуць забяспечыць многія традыцыйныя сродкі навучання.

Магчымасць рознай інтэрпрэтацыі дае велізарны дыдактычны патэнцыял для развіцця медыяграматнасці вучняў. Выкарыстанне рознастайнай медыяінфармацыі на ўроках дазваляе навучыць пэўным адносінам да яе, выяўленню ў ёй схаваных сэнсаў, разуменню светапогляду аўтара. На такіх матэрыялах вельмі зручна навучаць школьнікаў аргументацыі ўласных выказванняў і фарміраваць уменне не толькі слухаць, але і чуць апанента, адным словам, развіваць крытычнае мысленне.

Выкарыстанне ў адным медыятэксце звестак, якія адносяцца да розных абласцей ведаў, дазволяць эфектыўна фарміраваць у школьнікаў перакананне аб адзінстве навук, а прымяненне паведамленняў мас-медыя ў навучанні "працуе" на ўсталяванне трывалых міжпрадметных сувязяў. Медыяінфармацыя, па сутнасці, з'яўляецца пазашкольнай, але, уключаная ў кантэкст урока, яна становіцца вучэбнай і інтэгруецца ў змест навучання.

На ўроку вучні могуць адпрацоўваць тэхналогію пошуку інфармацыі, працу з бібліятэчнымі каталогамі, гіпертэкставымі пошукавымі сістэмамі. Роля настаўніка – карэктаваць працу навучэнцаў, вучыць іх граматна складаць пошукавыя запыты, падбіраць ключавыя словы ды інш. У працэсе аналізу крыніц на прадмет навуковасці, дакладнасці інфармацыі, наяўнасці памылак фарміруецца ўменне крытычна ацэньваць інфармацыю, якая дапаможа падрастаючаму пакаленню арыентавацца ў інфармацыйных патоках, выпрацоўваць устойлівасць супраць медыяманіпуляцый і прымаць незалежныя прадуманыя рашэнні.

Тым з педагогаў, хто вырашыць адказаць на выклікі сучаснага інфармацыйнага свету, хто гатовы да заўтра, прыйдзецца працаваць побач з тымі, каму мілей учора, хто вырашыць пакінуць усё, як было. Гэта зробіць працу больш складанай, але ад гэтага не менш удзячнай і важнай.

1.3.

# СІСТЭМА МЕДЫЯАДУКАЦЫІ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЕ

*Ала Лазіцкая*

Медыяадукацыя ў Беларусі толькі пачынае развівацца як самастойны кірунак педагогікі і набывае ўсё большае значэнне. Ва ўмовах дзейнасці сучаснай нацыянальнай школы гэта адна з магчымасцяў выкарыстоўваць інфармацыйныя і медыйныя рэсурсы і тэхналогіі для навучання і выхавання вучняў шляхам уключэння іх у існуючы культуралагічны і светапоглядны кантэксты. Пры адсутнасці нацыянальнай канцэпцыі медыяадукацыі дзеючыя нарматыўныя акты ствараюць рамачныя ўмовы для ўкаранення медыяадукацыі ў практыку сярэдняй школы.

Эфектыўнасць любой дзейнасці шмат у чым залежыць ад таго, наколькі яна навукова абгрунтаваная, сістэмная і мэтанакіраваная. Даследаваўшы тэорыі медыяадукацыі, якія існуюць у міжнароднай практыцы, прааналізаваўшы дзеючае нарматыўнае поле беларускай адукацыі, мы вылучылі тэорыю крытычнага мыслення, культуралагічную і семіятычную тэорыі. У выніку чаго ў нашай школе была распрацавана **мадэль медыяадукацыі** ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу праз развіццё крытычнага мыслення, якая заснавана на асобасна арыентаваным, сістэмным, культуралагічным, сінэргетычным прынцыпах. Яе ўкараненне дазваляе стварыць сістэму фарміравання медыяграматнасці ва ўмовах дзейнасці ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі, забяспечыць высокі ўзровень інфармацыйнай і медыйнай культуры, крытычнага мыслення вучняў.

Вынік медыяадукацыйнай дзейнасці ў школе – высокі ўзровень медыяграматнасці вучняў, развіцця крытычнага ўспрымання і аналіза медыятэкстаў розных відаў, жанраў; сфарміраваны медыяінфармацыйны светапогляд.

Мадэль укаранення медыяадукацыі складаецца з **пяці змястоўных модуляў**:
- **матывацыйны**: скіраваны на асэнсаванне настаўнікамі і вучнямі неабходнасці ўкаранення медыяадукацыі;

- **падрыхтоўчы**: настаўнікам неабходна набыць разуменне сутнасці напрамкаў дзейнасці, магчымых для выкарыстання формаў, метадаў, прыёмаў інтэграцыі медыяадукацыі;
- **арганізацыйна-дзейнасны**: авалоданне ўдзельнікамі адукацыйнага працэсу прыёмамі, метадамі і спосабамі медыяадукацыі, тэхналогіі развіцця крытычнага мыслення;
- **практычны**: фарміраванне медыяграматнасці ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу, развіццё навыкаў крытычнага ўспрымання і аналізу медыя, у тым ліку медыятэкстаў розных відаў і жанраў.
- **рэфлексіўны**: выяўленне ўмоў і механізмаў эфектыўнай рэалізацыі мадэлі ўкаранення медыяадукацыі на аснове рэфлексіўнага аналізу педагагічнай дзейнасці і вынікаў адукацыйнага працэсу.

Мадэль медыяадукацыі нашай школы ўключае **тры асноўных кампаненты** (малюнак 1):
- **дыягнастычны**;
- **змястоўна-мэтавы** (у тым ліку яго тэарэтычны і практычны складнікі);
- **выніковы**.

Кожны з кампанентаў накіраваны на вырашэнне дзвюх асноўных задач:
1 паэтапнае ўкараненне мадэлі медыяадукацыі;
2 развіццё крытычнага мыслення ў адукацыйным працэсе на матэрыяле медыярэсурсаў.

**Дыягнастычны кампанент** дапамагае вызначыць і канстатаваць узроўні развіцця і ўспрымання твораў медыякультуры навучэнцамі. Асноўныя віды дзейнасці: анкетаванне, тэставанне, назіранне, аналіз творчых работ навучэнцаў.

**У змястоўна-мэтавым кампаненце** вылучаныя два аспекты: **тэарэтычны** і **практычны**. У рамках **тэарэтычнага складніку** вырашаюцца наступныя задачы:
1 знаёмства педагогаў і навучэнцаў з асноўнымі паняццямі медыякультуры, тэрміналогіяй і асноўнымі тэорыямі медыяадукацыі;
2 вывучэнне спосабаў псіхалагічнага маніпулявання;
3 навучанне педагогаў і бацькоў вучняў папярэджанню негатыўнага ўплыву медыя, забеспячэнню інфармацыйна-псіхалагічнай бяспекі пры іх выкарыстанні.

У рамках рэалізацыі **практычнага складніку** неабходна стварыць умовы для развіцця ў педагогаў, вучняў і іх бацькоў ўменне крытычна аналізаваць медыятэксты, адэкватна ўспрымаць іх змест, для авалодання крэатыўнымі ўменнямі стварэння і прэзентацыі асабістых медыятэкстаў. На інфармацыйных, класных гадзінах, вучэбных занятках педагогамі пераважна выкарыстоўваюцца такія формы ўзаемадзеяння, іх

Малюнак 1. **МАДЭЛЬ МЕДЫЯАДУКАЦЫІ ВУЧНЯЎ СРОДКАМІ РАЗВІЦЦЯ КРЫТЫЧНАГА МЫСЛЕННЯ.**

**МЭТА:** высокі ўзровень медыяграматнасці і развіцця крытычнага мыслення вучняў

**ЗАДАЧЫ**

| I СТУПЕНЬ | II СТУПЕНЬ | III СТУПЕНЬ |
| --- | --- | --- |
| Вучні ***ведаюць:***<br>• што крыніцы інфармацыі бываюць розныя, як і інфармацыя ў іх<br>***умеюць:***<br>• шукаць неабходную інфармацыю;<br>• вызначаць галоўную думку (паведамленне)<br>• суадносіць змест звычайнага тэксту і аудыявізуальных тэкстаў | Вучні ***ведаюць:***<br>• асноўныя тэарэтычныя паняцці, віды медыя, спосабы медыяўплыву<br>***умеюць:***<br>• адрозніваць факты ад іх інтэрпрэтацыі<br>• дэкадаваць медыятэксты (у т.л. аўдыявізуальныя) на дастатковым узроўні<br>• ствараць асобныя віды медыятэкстаў | Вучні ***ведаюць:***<br>• тэарэтычныя асновы медыяграматнасці<br>• спосабы медыяўплыву;<br>• спосабы ацэнкі дакладнасці інфармацыі<br>***умеюць:***<br>• працаваць з рознымі крыніцамі інфармацыі;<br>• дэкадаваць медыятэксты на высокім узроўні<br>• ствараць розныя віды медыятэкстаў |

| ДЫЯГНАСТЫЧНЫ КАМПАНЕНТ → | ЗМЕСТАВА-МЭТАВЫ КАМПАНЕНТ → | ВЫНІКОВЫ КАМПАНЕНТ |
| --- | --- | --- |
| • апытанне, тэсціраванне, назіранне і г.д.<br>• канстатацыя ўзроўней медыяграматнасці | • **тэарэтычны складнік**<br>  • навучанне тэорыі<br>  • развіццё матывацыі паводзін<br>• **практычны складнік**<br>  • практычнае навучанне<br>  • творчая дзейнасць | • даследванне ўзроўняў успрыймання медыятэкстаў<br>• выніковае тэставанне ўмення крытычнага аналізу медыятэкстаў |

**ВЫНІКІ:** высокі ўзровень медыяграматнасці вучняў, развіцця крытычнага ўспрымання і аналіза медыятэкстаў розных відаў, жанраў; сфарміраваны медыя-інфармацыйны светапогляд

змястоўнае напаўненне, метады, прыёмы, якія спрыяюць паўнавартаснаму і litрознабаковаму фарміраванню медыякампетэнцый, у тым ліку самага высокага творчага ўзроўню.

Вырашэнне гэтых задач магчыма пры ўключэнні ў навучальныя і іншыя заняткі наступных в**ідаў дзейнасці**:

- стварэнне інфармацыйных паведамленняў, выступаў, вучэбна-даследчых работ па праблемах медыяадукацыі;
- абмеркаванне медыятэкстаў рознага характару (рэклама, кіно, відэаролікі розных жанраў, творы мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, тэлепраграмы, кантэнт выданняў перыядычнага друку, інтэрнэт-публікацыі, творы жывапісу і графікі, музычныя творы і г.д.) з мэтай іх дэкадавання і выяўлення прыёмаў медыйнага ўздзеяння, у тым ліку маніпулятыўнага;
- шматаспектны аналіз медыяпрадуктаў, створаных навучэнцамі і педагогамі;
- навучанне інтэрпрэтацыі медыятэкстаў (аналіз мэты, мэтазгоднасць абранага сюжэту, вызначэнне мэтавай аўдыторыі, этычнасць, кампазіцыйнасць, змястоўнасць, інфарматыўнасць і г.д.);
- вызначэнне крытэрыяў і параметраў крытычнага аналізу медыятэкстаў, у тым ліку іх лінгвістычнай структуры;
- эстэтычны аналіз структуры і зместу медыяматэрыялаў, выяўленне ступені іх уздзеяння на інтэлектуальна-творчае і эмацыйна-валявое развіццё асобы, выяўленне прыёмаў эмацыйнага і іншага ўздзеяння на аўдыторыю, у тым ліку маніпулятыўнага;
- трэнінгі для вучняў, іх бацькоў, педагогаў і ўдзел у іх.

**Выніковы кампанент** мадэлі медыяадукацыі мяркуе дыягностыку ўзроўню медыяграматнасці, развіцця крытычнага мыслення педагогаў, вучняў, іх бацькоў, выяўленне тэндэнцый у працэсе іх фарміравання і развіцця, канстатацыю вынікаў інтэграцыі медыяадукацыі.

Вызначаныя для кожнага з этапаў задачы дапамагаюць сфакусаваць намаганні для іх рэалізацыі і вызначыць змест канкрэтнай мэтанакіраванай дзейнасці.

**На падрыхтоўчым этапе:**

- фарміраваць і развіваць сістэму кіравання ўстановай адукацыі ў рэжыме ўкаранення мадэлі медыяадукацыі;
- матываваць педагогаў на медыяадукацыйную дзейнасць;
- стварыць навукова-метадычнае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне рэалізацыі праекта.

**На дыягнастычным этапе:**

- вывучыць гатоўнасць і матывацыю педагогаў да медыяадукацыйнай дзейнасці, правесці ўзроўневую дыягностыку прафесійнай кампетэнтнасці педагогаў у сферы медыяадукацыі;
- дыягнаставаць здольнасці навучэнцаў да крытычнага мыслення, узровень іх медыяграматнасці.

**На практычным этапе:**

- забяспечыць павышэнне кваліфікацыйнага ўзроўню педагогаў на аснове прыцыпаў бесперапыннай асобасна-арыентаванай адукацыі праз самаадукацыю, практычныя семінары, трэнінгі на ўзроўні ўстановы адукацыі, а таксама ва ўстановах дадатковай адукацыі дарослых, патэнцыял нефармальнай адукацыі;
- арганізаваць узаемадзеянне з бацькамі навучэнцаў праз ангажаванне іх да сумеснай дзейнасці па павышэнню ўзроўню медыяграматнасці і развіццю крытычнага мыслення навучэнцаў і саміх бацькоў;
- ажыццяўляць інтэграцыю медыяадукацыі ў навучальныя прадметы;
- сфарміраваць эфектыўную педагагічную практыку рэалізацыі прынцыпаў медыяадукацыі на вучэбных занятках і ў пазаўрочнай дзейнасці.

З мэтай паспяховага ўкаранення мадэлі медыяадукацыі ў школе ствараецца **сістэма эфектыўнага кіравання** гэтай дзейнасцю, дзякуючы гэтаму значная частка педагагічнага калектыву ўключана ў працэс інтэграцыі медыяадукацыі.
Яе кампаненты:

- савет школы;
- педагагічны савет;
- метадычны савет;
- школьныя вучэбна-метадычныя аб’яднанні настаўнікаў;
- творчая група педагогаў;
- знешні і ўнутраны кансалтынг;
- унутраны аўдыт.

Асноватворны прынцып кіраўніцкай дзейнасці – прынцып дэлегавання кіраўніцкіх паўнамоцтваў удзельнікам праекта. Да эфектыўных механізмаў уключэння педагогаў у кіраўніцкую дзейнасць варта аднесці самакантроль, калегіяльнае прыняцце рашэнняў, пераход да дэцэнтралізацыі кіравання.

Вызначальнымі **канцэптуальнымі падыходамі** ў стварэнні сістэмы кіравання ўкараненнем мадэлі медыяадукацыі з’яўляюцца сістэмны, праблемны, кампетэнтнасны і арганізацыйна-дзейнасны. Фарміра-

ванне кіраўніцкай каманды дазваляе стварыць спрыяльнае арганізацыйнае і псіхалагічнае асяроддзе, якое характарызуецца актыўным узаемадзеяннем ўсіх удзельнікаў працэсу.

Псіхолага-педагагічнае суправаджэнне інавацыйнай дзейнасці ажыццяўляецца педагогам-псіхолагам і прадстаўлена комплексам мерапрыемстваў дыягнастычнага, навучальнага, даследчага характару (метадычная дапамога настаўнікам і класным кіраўнікам, дыягностыка ўзроўню іх кампетэнтнасці, асвета педагогаў, вучняў, іх бацькоў).

На нашу думку, адна з найважнейшых умоў эфектыўнай сістэмы медыяадукацыі – стварэнне творчай групы медыяпедагогаў, вызначэнне мэтаў і кірункаў дзейнасці кожнага з іх, размеркаванне паміж імі абавязкаў на прынцыпах добраахвотнасці, калегіяльнасці, мэтазгоднасці з улікам індывідуальных адукацыйных запытаў.

Сістэмная медыяадукацыйная дзейнасць дазваляе эфектыўна і мэтанакіравана яе арганізаваць, вызначыць змест, актуальныя формы і метады працы, павысіць узровень інфармацыйнай і медыйнай культуры, развіцця крытычнага мыслення ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу, сфарміраваць адпаведную педагагічную практыку.

Сістэма медыяадукацыі ў школе з’яўляецца адным з важных складнікаў дзейнасці педагагічнага калектыву: ствараюцца аптымальныя ўмовы для прафесійнага развіцця кожнага педагога ў адпаведнасці з зонай яго бліжэйшага развіцця як ў медыяадукацыйным кантэксце, так і ў агульнапедагагічным, што спрыяе павышэнню якасці адукацыйнага працэсу ў цэлым. Таму што, акрамя вышэйпералічанага, у працэсе ўкаранення мадэлі медыяадукацыі адбываецца змена тыпу педагагічнага мыслення занятых у гэтай дзейнасці настаўнікаў ад рэпрадуктыўнага да прадуктыўнага, ад выканальніцкага да творчага, ад скіраванасці на трансляцыю ведаў да самастойнага канструявання адукацыйнага дыялогу.

Мэтазгоднасць інтэграцыі медыяадукацыі ў адукацыйны працэс ва ўмовах дзейнасці сучаснай ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі з’яўляецца ўжо бясспрэчнай ісцінай і надзённай патрэбай.

**1.4.**

# АСНОЎНЫЯ НАКІРУНКІ ФАРМІРАВАННЯ МЕДЫЯГРАМАТНАСЦІ БЕЛАРУСКІХ НАСТАЎНІКАЎ

*Тамара Мацкевіч*

Медыяграматнасць стала выклікам не толькі для беларускай школы, але для ўсяго беларускага грамадства. І тут у нас няма часу на раскачку. Таму за працу трэба брацца ўсім мірам, не чакаючы, калі зверху прыйдзе загад, ці калі "нізы" нарэшце зразумеюць, што пытанне стаіць пра жыццё і смерць, а не пра чарговую моду ў адукацыі.

Патлумачу. Калі XX стагоддзе было стагоддзем бітвы за доступ да інфармацыі, за свабоду слова, то XXI стала стагоддзем злоўжывання інфармацыяй. Прычым тыя, хто раней забаранялі свабоду слова, хутка пераключыліся на маніпуляванне з дапамогай медыя: неабмежаваны распаўсюд дэзінфармацыі, прапаганды, выкарыстанне рэкламных паведамленняў, схаваных у псеўданавуковыя ці сацыяльныя тэмы. У XXI стагоддзі з дапамогай медыя рыхтуюцца рэвалюцыі і войны. Грамадствы цэлых краінаў знаходзяцца ў стане аб'екту інфармацыйных войнаў, што вядуць на іхнай медыяпрасторы дзяржавы, улада якіх не падзяляе дэмакратычныя каштоўнасці. Беларусы таксама жывуць у стадыі інфармацыйнай вайны, і ёсць адзіны спосаб, каб за ёй не пачалася вайна са зброяй і кроўю – гэта медыяадукацыя насельніцтва.

Такі самы выклік стаіць перад усёй Еўропай: чэхі хутка ствараюць праграму супрацьдзеяння расійскай прапагандзе ў СМІ, палякі з жахам чакаюць выхаду на экраны фільма "Валынь", мэта якога распаліць нянавісць паміж палякамі і ўкраінцамі, а ўкраінцы хутка будуюць сваю медыйную прастору, каб аб'яднаць нацыю і спыніць вайну на ўсходзе.

Беларускія адукатары даўно ведаюць, якую важную ролю маюць медыя, і на практыцы адчулі іх уплыў на вучняў, бацькоў і на грамадскую думку агулам.

Нашы дзеці ў тэхнічным плане авалодалі доступам да ўсіх сховаў інтэрнэту, аднак хібы савецкай спадчыны нашай школы, слабы метадычны ўзровень адукацыі настаўнікаў не дазваляюць развіваць кры-

тычнае мысленне навучэнцаў да такой ступені, каб дзеці маглі свабодна арыентавацца ў медыйным полі, вызначаць надзейнасць крыніц інфармацыі, умець адрозніваць праўду ад падману, выкрываць схаваныя мэты маніпулятыўных паведамленняў. Нашы дзеці могуць стаць лёгкай здабычай і нават зброяй у руках тых, хто кіруе медыяпрасторай.

У сітуацыі, калі дзяржава пакуль не ў стане справіцца з задачай медыяадукацыі самастойна і хутка, ёй на дапамогу прыходзіць усё грамадства: валанцёры, журналісты, грамадскія арганізацыі і ініцыятывы. Такі спосаб арганізацыі грамадства называецца грамадзянскай супольнасцю, і так пабудаваны дэмакратычны свет. Прыемна, што беларускае грамадства таксама мае дэмакратыю сярод традыцыйных каштоўнасцяў: талака – найлепшы прыклад і доказ нашай еўрапейскай цывілізацыйнай арыентацыі і дэмакратычнай самаарганізацыі. Вось зараз задачы медыяадукацыі вырашаюцца талакой – гэта значыць усімі намі.

Як ужо было зазначана вышэй, часу у нас мала, таму трэба выбіраць найбольш эфектыўныя шляхі медыяадукацыі ў школе.

**АДУКАЦЫЯ ДЛЯ МЕДЫЯАДУКАТАРАЎ.** Першае, што мы можам зрабіць і робім – гэта пашырэнне ведаў сярод тых, хто ўмее навучыць іншых – сярод настаўнікаў. Менавіта яны здольныя стварыць эфект снежнага кома – перадаць свае веды вучням, калегам, бацькам. Кожны настаўнік мае навучальныя стасункі прыблізна са 100 асобамі. Семінары для настаўнікаў ладзяцца і ў Нацыянальным інстытуце адукацыі, і ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, і магчымасцямі грамадскіх арганізацый (Таварыствам беларускай школы, Беларускай асацыяцыяй журналістаў і інш.) З 2014 года працуе пастаянна дзейны семінар на базе Цэнтра праблем развіцця адукацыі БДУ. Медыяадукацыі быў прысвечаны адзін з летнікаў у вядомай Альхоўцы, дзе штогод збіраецца педагагічная эліта краіны для метадычнага навучання.

**АДАПТАЦЫЯ МІЖНАРОДНАГА ДОСВЕДУ.** Каб не вынаходзіць веласіпед, трэба ўважліва паглядзець, што і як робяць іншыя. Пілотным праектам у беларускай медыяадукацыі стаў дыск, сумесна створаны беларускімі і чэшскімі педагогамі “Відэаматэрыялы ў дапамогу настаўніку”[7]. Пасля серыі семінараў з удзелам чэшскіх педагогаў беларускія калегі наведалі чэшскія школы, прывезлі адтуль матэрыялы, методыкі і зрабілі дапаможнік, куды ўвайшлі як медыйныя файлы для працы на ўроках і выхавання, так і метадычныя рэкамендацыі да іх. Была створана і папяровая кніга-дапаможнік са сцэнарамі гатовых заняткаў[8].

З 2013 года, дзякуючы падтрымцы інстытута FOJO, які працуе пры шведскім універсітэце імя Карла Лінэя, беларускія настаўнікі мелі магчымасць паўдзельнічаць у 3-х летніх міжнародных школах па ме-

дыяадукацыі ў г. Кальмар (Швецыя), наведаць навучальныя ўстановы. У Беларусь з трэнінгамі прыязджалі шведскія медыяпедагогі, ўкраінскія і армянскія калегі. Некаторыя метадычныя напрацоўкі беларусы пазычылі ў славакаў, аднак самай карыснай для разумення ролі і месца медыяадукацыі ў школе стала кніга-дапаможнік амерыканскіх педагогаў Сіндзі Шэйбэ і Фэйт Рогаў “Медыяграматнасць: крытычнае мысленне ў мультымедыйным свеце”[9], перакладзеная ўкраінскімі калегамі. Ідэі інтэграцыйнага падыходу да медыяадукацыі, прапанаваныя там, сталі асновай беларускай мадэлі медыяадукацыі.

**ПАДТРЫМКА ПРАЗ ІНТЭРНЭТ: ВУЧЫМ ТАМУ, З ДАПАМОГАЙ ЧАГО ВУЧЫМ.** Як жа вучыць медыяграматнасці, без выкарыстання сучасных медыйных магчымасцяў?! Вядома, што навучанне і дыстанцыйную падтрымку тых, хто толькі пачынае рабіць першыя крокі ў навучанні медыяграматнасці лепш за ўсё арганізаваць праз інтэрнэт. Тут настаўнікі, якія прайшлі навучанне і самі паспрабавалі нешта зрабіць на практыцы, самаарганізаваліся вакол сайта nastaunik.info і стварылі свой уласны курс дыстанцыйнага навучання для калег-навічкоў “Медыяадукацыя ў школе”[10]. Курс арганізаваны на бясплатнай платформе moodle і дазваляе адначасова працаваць з вялікай колькасцю школ.  Курс мае 5 модуляў і доўжыцца 4 месяцы. Ён арганізаваны так, каб кожны настаўнік раз на 2-3 тыдні атрымліваў невялікі тэарэтычны матэрыял і заданне, якое ён павінен выканаць у класе з вучнямі, ці правесці трэнінг для калег, бацькоў. Пры гэтым кожны студэнт курса мае свайго ментара – калегу з большым досведам працы, які кансультуе, дапамагае парадамі. Такім чынам, за 4 месяцы кожны студэнт курса не толькі знаёміцца з тэарэтычнымі асновамі медыяграматнасці, але і пачынае адчуваць “смак” практычнага выкарыстання медыя ў адукацыйным і выхаваўчым працэсе. Даволі працяглы тэрмін курса дазваляе ўбачыць і ацаніць змены, якія адбываюцца ў свядомасці вучняў, прасачыць працэс развіцця навыкаў аналізу інфармацыі, крытычнага стаўлення да паведамленняў СМІ, спробаў самастойнага і адказнага выкарыстання медыйнай прасторы.

**СУЧАСНЫЯ МЕТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ: ПІШАМ САМІ.** Праблема добрых падручнікаў і дапаможнікаў заўсёды выклікае шмат эмоцый і меркаванняў. Аднак медыяадукацыя ўзнікла ў тым ліку і таму, што падручнік не можа быць адзінай крыніцай інфармацыі. Розныя медыя паступова пераймаюць на сябе функцыю навучальных дапаможнікаў як у фармальнай, так і ў нефармальнай адукацыі. Якім жа якасцям павінен адпавядаць сучасны падручнік? Па-першае, сучасны падручнік – гэта навігатар, г. зн. яго форма прадугледжвае дадатковыя гіперспасылкі на інтэрнэт-рэсурсы. Менавіта такі дапаможнік для настаўнікаў па медыяадукацыі ўжо напісаны і хутка пабачыць свет. Кожны настаўнік зможа стаць яго аўтарам нават пасля выхаду дапаможніка. Прыкладам, старонка “медыяадукацыя на ўроках фізікі” будзе пастаянна папаўняцца новымі ідэямі і матэрыяламі, якія кожны можа даслаць на адмысловую інтэрнэт-старонку. Такім чынам, змест дапаможніка будзе змяняцца, папаўняцца і ўдасканальвацца.

Па-другое, падручнік павінен быць напісаны практыкамі, каб быць зразумелым і актуальным для калег. Па-трэцяе, мова дапаможніка мае быць простай і не павінна нагадваць навуковы трактат. Усе тыпалогіі, класіфікацыі, як паказвае практыка, толькі засмечваюць прастору і адцягваюць увагу ад сутнасці. Напісанне падручніка па медыяадукацыі – гэта таксама справа грамадства.

**КАНЦЭПЦЫІ СТВАРАЕМ ПА ХОДУ...** Медыяадукацыя – параўнальна новы кірунак у адукацыі, які стаў адказам на выклікі бурнага развіцця інфармацыйных тэхналогій. Таму не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце няма непарушных канцэпцый развіцця медаяадукацыі, канчатковага спісу медыяінфармацыйных кампетэнцый, якімі патрэбна валодаць чалавеку, каб быць медыяграматным. Інфармацыйныя тэхналогіі развіваюцца хутка, і медыярынак падкідвае адукатарам новыя і новыя рызыкі і магчымасці. Таму ўсе канцэпцыі, методыкі і прыёмы вымушаны мяняцца, каб адпавядаць зменам у галіне тэлекамунікацый. Пад эгідай ЮНЕСКА былі зроблены спробы абагульніць розныя падыходы да медыяадукацыі і выпрацаваць агульную праграму[11]. Аднак, як і ўсе міжнарожныя дакументы, яна патрабуе дэталізацыі ў адпаведнасці са спецыфікай кожнай краіны. Так, у Беларусі быў праведзены шэраг круглых сталоў па праблемах медыяадукацыі, у выніку якіх паўстала аналітычная запіска “Медыяадукацыя. Еўрапейскія практыкі і беларуская рэчаіснасць”[12]. У прыватнасці, у ёй указваецца, што пры адноснай свабодзе інтэрнэту ў Беларусі абмежаваныя моўныя кампетэнцыі большасці беларусаў не дазваляюць ім атрымліваць альтэрнатыўную інфармацыю з аўтарытэтных міжнародных крыніц, таму моўная кампетэнцыя (валоданне замежнымі мовамі) павінна быць уключана ў спіс медыяінфармацыйных кампетэнцый. Гэтаксама ў нашых умовах трэба зважаць, што штучна запаволены працэс фарміравання беларускай нацыі пазбаўляе многіх беларусаў імунітэту супраць палітычнай прапаганды і маніпулявання масавай свядомасцю.

**САМААДУКАЦЫЯ І ІНІЦЫЯТЫВЫ ЗНІЗУ.** У канцэпцыі адукацыі цягам усяго жыцця прадугледжваецца, што сучаснаму чалавеку прыйдзецца вучыцца ўвесь час, таму праграмам нефармальнай і інфармальнай адукацыі ў Еўропе надаецца вялікая ўвага. Кожны настаўнік можа пачаць з сябе: прачытаць матэрыялы раздзела “Медыякомпас” сайта nastaunik.info, далучыцца да групы “Медыяадукатар” у сацыяльных сетках на фэйсбуку ці Google+, запісацца на дыстанцыйны курс навучання “Медыяадукацыя ў школе” ці самастойна зрабіць падборку матэрыялаў для самаадукацыі, каб навучыцца распазнаваць фэйкі, дэкадаваць медыятэксты, вызначаць і заўважаць маркеры прапаганды і маніпуляцый СМІ. Гэта не толькі карысна, але і цікава. Амерыканскія педагогі разглядаюць адукацыю як працэс для задавальнення, а не як цяжкую працу. Яны даюць дзецям устаноўку, што вучыцца трэба, каб атрымліваць асалоду ад інфармаванасці, быць упэўненым, што цябе не падманваюць. Таму там дзеці любяць хадзіць у школу. Калі такі падыход пераняць беларусам, стаўленне да школы і да працы настаўніка можа

змяніцца ў лепшы бок. Прынамсі, ёсць шмат прыкладаў беларускіх педагогаў, якія інавацыйную дзейнасць разглядаюць не як прымус, а як шлях да самаразвіцця і самапавагі. Менавіта таму як ініцыятывы "знізу" ўзніклі і працуюць 27 інавацыйных пляцовак па медыяадукацыйнай тэматыцы ў розных школах. Заўсёды можна да іх далучыцца або самастойна выкарыстоўваць інструменты медыяадукацыі на ўроку і па-за ім: уводзіць у выкладанне прадмета актуальныя навіны і на гэтым матэрыяле фарміраваць крытычнае мысленне, вучыць арыентавацца ў плыні інфармацыі.

Такім чынам, сістэматычнае і паслядоўнае ўключэнне медыяадукацыі ва ўсе ўзроўні сістэмы адукацыі – гэта патрабаванне часу. Менавіта грамадскія арганізацыі, журналісты і педагогі як асобы ў бліжэйшы час будуць адыгрываць асноўную ролю ў фарміраванні і падтрымцы медыяінфармацыйнай граматнасці новага пакалення беларусаў. Існуюць эфектыўныя шляхі і механізмы ўкаранення прынцыпаў медыяадукацыі ў навучальны працэс, якія патрабуюць ініцыятывы і самаарганізацыі ўсіх суб'ектаў грамадзянскай супольнасці.

**2.1.**

# МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ Ў ШКОЛАХ ЧЭХІІ

*Іржы Трунда*

Пра медыяадукацыю ў школе як пра канцэпцыю мы пачалі думаць каля 2000 году, за некалькі год да таго, як медыяадукацыя стала абавязковай часткай адукацыі ў Чэхіі. Да таго часу мы рэалізоўвалі некаторыя праекты, звязаныя са сродкамі масавай камунікацыі, выкарыстоўвалі іх. Напрыклад, на занятках па чэшскай мове (пры абмеркаванні эсэ на тэму азнаямлення з жыццём і творчасцю некаторых вядомых пісьменнікаў, творчасць якіх была прысвечана і журналісцкай працы – напрыклад, Яна Нэруды або Карэла Чапека). Гэта не было канцэптуальнай працай з пункту гледжання медыяадукацыі, гэта быў спосаб рэалізацыі тэм у некаторых іншых адукацыйных абласцях. Імпульсы да ўтварэння мэтанакіраванай канцэпцыі медыяадукацыі прайшлі ў некалькі этапаў.

На мяжы новага тысячагоддзя стала ясна, што нашы школьнікі праводзяць з медыя і медыяпаведамленнямі вельмі шмат часу, што, у першую чаргу, не на карысць фізічнай актыўнасці. Медыялізаваная рэчаіснасць становіцца ўсё больш папулярным прадметам абмеркавання і інтарэсу нават у малодшых класах. Зразумела, што сродкі масавай камунікацыі ўплываюць на школьнікаў значна больш, чым гэта было ў папярэдніх пакаленняў, гэта істотны фактар, які ўплывае на іх развіццё, і ён не мог не адбіцца на школьнай адукацыі.

Мы заўважылі, напрыклад, што школьнікі могуць не толькі даслоўна цытаваць дзясяткі рэкламных ролікаў, але, верагодна, з-за іх частага паўтарэння, без усялякай крытыкі, аўтаматычна ўспрымаць іх змест як факт.

Адным з самых удалых праектаў, якія адбыліся ў той час і які можа з поспехам выкарыстоўвацца і цяпер, з’яўляецца дакладная рэалізацыя таго, што паказваецца ў рэкламе. Напрыклад, у адной рэкламе пральнага парашку было паказана, як узялі насоўку, аблілі яе чарнілами, потым наўмысна запэцкалі і паклалі ў нагрудную кішэню кашулі, якую потым завязалі і кінулі ў пральную машыну. Вядома, што тут быў выкарыстаны новы “чароўны” мыйны сродак і пральная машына ўключана “усяго толькі на 40°C”. Выпраную кашулю развязваюць і дастаюць хусцінку, якая аказваецца абсалютна чыстай. Мы зрабілі

тое ж самае ў нашай школе (выкарыстоўвалі звычайную пральную машыну, у якой у школе мыюць школьную форму). Зразумела, вынік быў зусім не такі, як у рэкламе – насоўка засталася вельмі бруднай. Нягледзячы на тое, што гэта быў вельмі просты дослед (вучні ўспрымаюць увесь працэс як эксперымент), для некаторых школьнікаў адкрыццё таго, што паказанае па тэлевізары як сапраўдны факт, не абавязкова з'яўляецца праўдай, было вялікім дзівам.

Яшчэ адной праблемай інфармацыйнага грамадства з'яўляецца тое, што інфармацыі было (і ёсць) столькі, што вучні перастаюць звяртаць увагу на яе якасць. Пасля дэманстрацыі таго, што не ўсё, што прадстаўлена ў сродках масавай інфармацыі, з'яўляецца праўдай, мы пачалі развіваць разуменне вучнямі неабходнасці праверкі інфармацыі. Мы паказалі нашым школьнікам, што ў крыніцах мас-медыя часта чыесьці думкі і асабістыя погляды сфармуляваны як факты. Гэты аспект сам па сабе парушае імкненне школы будаваць сістэму навуковых, набытых аб'ектыўнымі метадамі і праверыных ведаў як важнага элемента выхавання любога вучня.[13]

Гэтая дзейнасць была, перш за ўсё, скіравана на канцэпцыю этычных пытанняў медыяадукацыі. Мы павінны былі растлумачыць вучням, што кожны чалавек, безумоўна, мае права на сваю думку, але меркаванне, што абапіраецца, напрыклад, толькі на аднакратны асабісты вопыт або інфармацыю "з чутак" (напрыклад, ад іншых школьнікаў), не мае такой каштоўнасці, як думка, заснаваная на вывучэнні прафесійнай літаратуры, навуковага эксперыменту або даследавання.

У якасці прыкладу працы са СМІ на дадзеным этапе нашага шляху да канцэпцыі медыяадукацыі разгледзім тэму глабальнага пацяплення. Гэта было, калі тагачасны прэзідэнт Чэхіі некалькі разоў у сродках масавай інфармацыі заяўляў аб тым, што глабальнае пацяпленне, проста кажучы, глупства і гэта вымысел эколагаў[14]. У чэшскай грамадскасці на працягу нейкага часу яго погляд стаў прадметам дыскусій як у друкаваных, так і ў электронных сродках масавай інфармацыі, а таксама ў сацыяльных сетках. Са школьнікамі да гэтай тэмы мы падыйшлі з двух бакоў. Па-першае, мы даручылі вучням знайсці як мага больш інфармацыі аб тым, што звычайна называюць глабальным пацяпленнем, і, калі гэта магчыма, не толькі на чэшскай мове, але і на англійскай, грэцкай, сербскай, славацкай, рускай, нямецкай[15]. На падставе даследавання гэтых крыніц, вучні сфармулявалі свае думкі па пытанні глабальнага пацяплення ў выглядзе артыкулаў у школьнай газеце. Мы пакінулі ім, у той жа час, права выбару жанра публікацыі (інтэрв'ю, эсэ, нарыс, спецыяльны рэпартаж ці нават апавяданне і г.д.). Другі падыход заключаўся ў аналізе артыкулаў у інтэрнэце, якія былі прысвечаны поглядам прэзідэнта на глабальнае пацяпленне. Прадметам нашага сумеснага даследавання былі не толькі самі артыкулы, але таксама і каментары, якія пад артыкуламі пакінулі карыстальнікі сайтаў.

Мы абмяркоўвалі як станоўчыя водгукі, так і тыя, што не супалі з агульным меркаваннем. Мы звярнулі ўвагу на тое, якія словы выбралі школьнікі з абедзвюх груп (прыхільнікі і апаненты думкі Вацлава Клаўса), негатыўна або саркастычна сфармулявалі яны назву артыкула і г.д. Нашай мэтай было не навязаць вучням прыхільнасць да нейкага канкрэтнага меркавання аб глабальным пацяпленні, а вызначыць, якія рэсурсы выкарыстоўваюцца пры перадачы цалкам супрацьлеглых поглядаў. У ходзе гэтай работы школьнікі самі паступова сталі адрозніваць асобныя неаргументаваныя праявы, якія часта толькі выказваюць чыюсьці прыхільнасць або, наадварот, антыпатыю да меркавання Вацлава Клаўса. Калі ў старэйшых класах мы абмяркоўвалі якасць аргументаў, школьнікі заявілі, што аб'ектыўнага матэрыялу на абодвух баках дыскусіі было значна менш, чым таго, што было неістотным для прадмета абмеркавання. У спалучэнні з першым падыходам мы спрабавалі параіць, як працягнуць аргументаваную дыскусію, якія довады памылковыя і як з імі працаваць.

На наш погляд, медыяадукацыя развівалася і развіваецца не толькі на аснове бесперапыннага адлюстравання выступленняў нашых вучняў і падзей, што адбываюцца ў больш шырокім кантэксце адукацыі, але і на аснове працэсаў, якія ўплываюць на ўсё чэшскае грамадства, і нават пытанняў агульнаеўрапейскіх і сусветных. У гэтым навучальным годзе адной з тэм медыяадукацыі будзе новая эміграцыйная хваля, якая закранула Еўрапейскі Саюз, а таксама іншыя бягучыя падзеі. Відавочна, вельмі важным для пошуку формы рэалізацыі медыяадукацыі было ўключэнне яе ў абавязковы вучэбны змест і вызначэнне яе абавязковых вынікаў ужо ў 2005 годзе.

На аснове назіранняў за рэалізацыяй медыяадукацыі не толькі ў нашай, але і іншых школах[16], я хацеў бы прадставіць магчымую мадэль канцэпцыі медыяадукацыі ў Чэхіі. Лічу, што тут узаемадзейнічаюць два аспекты (глядзі мал. 1). Па-першае, у цэнтры ўвагі знаходзяцца прадуктыўны або карыстальніцкі бок, а па-другое, медыяадукацыя як самастойная, даволі выразна акрэсленая адукацыйная сфера – школьны прадмет або скразная тэма.

З таго, што я сказаў вышэй, я думаю, відавочна, што наша школа засяроджваецца на тых аспектах медыяадукацыі, якія скіраваны на вучня як на карыстальніка або спажыўца медыяпаведамленняў, а таксама на стварэнні медыяпаведамленняў у якасці інструмента для разумення іх прызначэння з пункту гледжання карыстальніка, напрыклад, для выяўлення маніпулятыўных сродкаў медыятэкста.

Што датычыцца другой восі мадэлі, ў цяперашні час мы рэалізуем медыяадукацыю адназначна як скразную тэму.

Малюнак *2.* **МАДЭЛЬ МАГЧЫМЫХ ПАДЫХОДАЎ ДА РЭАЛІЗАЦЫІ МЕДЫЯАДУКАЦЫІ**




У якасці скразной тэмы медыяадукацыя цяпер уключана ў абавязковую вучэбную праграму для ўсіх базавых школ. Гэта азначае, што на нацыянальным узроўні ўстаноўлены абавязковы змест і сфармуляваныя чаканыя перавагі медыяадукацыі, кожная школа з улікам мясцовых асаблівасцяў вырашае, ці варта рэалізоўваць медыяадукацыю як асобны вучэбны прадмет, або як тэму для абмеркавання ў кантэксце розных дысцыплін, або як камбінацыю двух падыходаў.

У нашай школе частка школьнай адукацыйнай праграмы, што тычыцца медыяадукацыі, зараз выглядае так:

**Крытычнае чытанне і разуменне медыяпаведамленняў:**
- фарміраванне крытычнага падыходу да навін і рэкламы – 4-5 класы, чэшская мова і літаратура;
- фарміраванне крытычнага падыходу да навін і рэкламы, адрозненне забаўляльных элементаў ад інфарматыўных і сацыяльна важных элементаў паведамлення, пошук адрозненняў паміж інфарматыўнымі, забаўляльнымі і рэкламнымі паведамленнямі, разуменне сутнасці медыяпаведамленняў, ідэнтыфікацыя арыентуючых элементаў у тэксце – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура.

**Інтэрпрэтацыя суадносін паміж медыяпаведамленнямі і рэальнасцю:**
- розныя тыпы паведамленняў, іх дыферэнцыяцыя і функцыі – 1-3 класы, культура духа і цела;
- розныя тыпы паведамленняў, іх дыферэнцыяцыя і функцыі; адрозненне паміж рэкламай і навінамі, паміж фактычным і выдуманым зместам, галоўныя рысы рэпрэзентатыўнасці, адносіны медыяпаведамленняў і сацыяльнага вопыту, выяўленне сацыяльна значных каштоўнасцяў у тэксце, выяўленне спрошчаных медыяпаведамленняў, паўторнае выкарыстанне сродкаў – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура;
- выкарыстанне візуальных элементаў у сродках масавай інфармацыі, творчы аспект медыяпаведамленняў – 8-9 класы, эстэтычнае выхаванне;
- розныя тыпы паведамленняў, іх адрозненне і функцыі – 5 клас, музыка, выяўленчае мастацтва.

**Структура медыяпаведамленняў:**

- прыклады перыядычнасці ў размяшчэнні медыяпаведамленняў, прынцыпы складання навін і іх ідэнтыфікацыя, станоўчыя прынцыпы, забаўляльныя прынцыпы, прыклады стварэння і ўпарадкавання навін і іншых медыяпаведамленняў – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура;
- музычны/аўдыё- складнік медыяпаведамленняў – 7 клас, музыка;
- мастацкі кампанент медыяпаведамленняў – 6 клас, выяўленчае мастацтва.

**Аўтарскае ўспрыманне медыяпаведамленняў:**

- выяўленне поглядаў і меркаванняў аўтара паведамлення, сродкі выразнасці і іх выкарыстанне для тлумачэння/дэвуалявання думак і поглядаў, выбар і спалучэнне слоў у залежнасці ад намераў і якаснага значэння – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура.

**Функцыянаванне і ўздзеянне медыя ў грамадстве:**

- арганізацыя і становішча медыя ў грамадстве, фактары, якія ўплываюць на медыя, інтэрпрэтацыя ўплыву на іх развіццё, спосабы фінансавання СМІ, уплыў СМІ на паўсядзённае жыццё, уздзеянне медыя на арганізацыю кола надзённых тэм для абмеркавання, роля медыя ў палітычным жыцці, іх уплыў на культуру, роля ў палітычных зменах – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура.

**Стварэнне медыяпаведамленняў:**

- выкарыстанне і выбар сродкаў выражэння і іх камбінацый для стварэння адпаведных паведамленняў, стварэнне медыяпаведамленняў для школьнага часопісу, тэхнічныя магчымасці і абмежаванні – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура;
- прэзентацыя візуальных паведамленняў – 8-9 класы, эстэтычнае выхаванне;
- выкарыстанне магчымасцяў сучасных інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій у стварэнні прэс-рэлізаў, прэзентацый у межах сайта школы – 6 клас, інфарматыка.

**Праца ў творчай камандзе:**

- рэдагаванне школьнага часопіса, стварэнне каманды, важнасць розных узроставых і сацыяльных груп для ўзбагачэння каманды, сувязі і сумесная праца ў камандзе, пастаноўка мэтаў, стварэнне графікаў працы і размеркаванне заданняў, фактары, якія ўплываюць на працу ў камандзе, рэгулярнасць медыяпрадукцыі – 8-9 класы, чэшская мова і літаратура;
- рэдагаванне вучнёўскіх старонак на сайце школы – 6 клас, інфарматыка.

2.2.

# МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ НА ПЕРШАЙ СТУПЕНІ АДУКАЦЫІ Ў БАЗАВАЙ ШКОЛЕ ВРАЦІСЛАЎСКА

*Іржы Бэнеш*

Школа – гэта месца, якое павінна падрыхтаваць сваіх вучняў да жыцця. Таму школа павінна адлюстроўваць сацыяльныя тэндэнцыі і належным чынам акцэнтаваць зместы, якія яна перадае сваім навучэнцам. Сёння, калі наша жыццё непадзельна звязана з сучаснымі тэхналогіямі і кожны з нас можа быць дваццаць чатыры гадзіны анлайн, вельмі важна ўмець больш упэўнена арыентавацца ў хаосе сучаснага свету. Кожны момант, калі мы анлайн, на нас льецца безліч як патрэбнай, так і непажаданай інфармацыі. Школа павінна прапанаваць інструменты, каб працаваць з інфармацыяй і эфектыўна выкарыстоўваць яе.

У школьным асяроддзі мы бачым, як нават самыя малодшыя вучні хутка асвойваюць сучасныя тэхналогіі, як камунікуюць у віртуальным свеце, як прымаюць і перадаюць інфармацыю людзям у сваім наваколлі. Гэта зразумелая падстава для таго, каб як мага хутчэй пачалося выхаванне дзяцей у галіне сучасных тэхналогій, медыя і інфармацыі.

У нашай школе на ўроках чэшскай мовы ў рамках праектнага навучання мы пачалі ўключаць аспекты медыяадукацыі ўжо на першым годзе навучання. Вучні ўжо ў першых класах здольныя пачаць працаваць з адэкватнай інфармацыяй і з дапамогай крытычнага мыслення гэтую інфармацыю ацаніць, параўнаць і структураваць. Адзін з праектаў, якія адбыліся ў нашай школе і яшчэ рэалізоўваюцца ў рамках медыяадукацыі, – гэта падрыхтоўка да працы з рознымі відамі інфармацыйных і медыярэсурсаў.

## Медыя – якія яны?

Асноўнай задачай праекту было пазнаёміць дзяцей з магчымасцю параўнаць і зразумець перавагу асобных медыя, іх моцныя і слабыя бакі, спасцігнуць магчымасці, якія прапаноўваюць некаторыя з медыя.

Першым крокам праекту было параўнанне анімаванай казкі і яе кніжнага варыянта. Спачатку класу паказалі мультфільм поводле казкі (“Крот на Калядах”), вучні спрабавалі запомніць дзеянне і комплексна зразумець апрацоўку цэлай казкі. Пасля клас прачытаў кніжны варыянт гэтай казкі. У далейшай дыскусіі дзеці спачатку павінны былі параўнаць інфармацыю, якую яны атрымалі з розных медыя: ці прапаноўваюць яны адну і тую ж інфармацыю, ці мяняюцца некаторыя моманты. Вучні павінны былі апісаць, што ў фільме ці ў кніжным варыянце ёсць, а чаго няма.

**Прыклады параўнання анімацыйнага фільма і кнігі, якія атрымаліся падчас дзіцячай дыскусіі:**

| **Фільм** | **Кніга** |
|---|---|
| • Няма ўступнага моманту сустрэчы мышы і кроціка<br>• Штучная ялінка зрабіла крату шмат праблем<br>• Атрыманне ялінкі адбываецца па-іншаму | • Няма сцэн з варонай<br>• У зверанятаў ёсць толькі адна ялінка<br>• Атрыманне ялінкі адбываецца па-іншаму |

Вынік дыскусіі аб атрыманай інфармацыі паслужыў асновай для разбору медыяасяроддзя, у якім адбывалася гісторыя. Дзеці пасля задумаліся і паспрабавалі абгрунтаваць, чаму ў мультфільме ці ў кнізе пэўнай інфармацыі было больш або чаму ў адным з медыятэкстаў яе не было. Важным аспектам было і акцэнтаванне, якім спосабам перададзена інфармацыя ў асобных медыя.

**Прыклады параўнанняў мультфільма і кнігі, якія атрымаліся падчас дзіцячай дыскусіі:**

| **Фільм** | **Кніга** |
|---|---|
| • Зверaняты выдаюць толькі гукі<br>• У мульціку больш дзеяння, зверaняты больш дзейнічаюць<br>• Малюнак і гук | • Зверaняты ўмеюць размаўляць<br>• Больш апісваецца месца дзеяння<br>• Зверaняты і прадметы менш дзейнічаюць<br>• Апісанне зверанятаў і асяроддзя |

Фінальнай фазай параўнання мультфільма і кніжнага варыянту казкі была спроба вылучыць моцныя і слабыя бакі медыя, якія параўноўвалі дзеці. Вучні павінны былі выказацца наконт праблематыкі перадачы інфармацыі, эфектыўнасці іх перадачы і аб'ёму інфармацыі.

**Прыклады параўнанняў мультфільма і кнігі, якія атрымаліся падчас дыскусіі дзяцей:**

| Фільм | Кніга |
|---|---|
| • Інфармацыя падаецца вельмі хутка<br>• Вельмі проста нешта не заўважыць<br>• Інфармацыі вельмі шмат<br>• Створаны вельмі канкрэтныя ўяўленні, як што выглядае і што адбываецца<br>• Ідэальна для хуткага прагляду<br>• Складана выбраць важную інфармацыю | • Інфармацыі менш<br>• Інфармацыю можна лепш апрацаваць, яна менш страчваецца<br>• Чытач павінен сам стварыць асяроддзе<br>• Вельмі добра для атрымання важнай інфармацыі<br>• Атрыманне інфармацыі адбываецца даўжэй |

Вынікі далейшых дыскусій былі запісаны ў табліцы, якая абагульняла ход асобных дэбатаў і фіксавала адрозненні паміж асобнымі відамі тэксту і сродкамі, якія выкарыстоўвалі медыя. Дзеці напрыканцы ацанілі абодва тыпы медыя і намагаліся вырашыць, для якіх сітуацый што падыходзіць лепш і на што звяртаць увагу пры іх выкарыстанні, якія перавагі маюць розныя медыятэксты. Анімаваны варыянт, па меркаванні першакласнікаў, лепш падыходзіць для хуткага прагляду цэлай сітуацыі, а таксама стварэння вельмі канкрэтнага ўяўлення пра тэму. Аднак гэта ўсе зроблена коштам высокай верагоднасці страты ці непазначэння некаторай, часам і вельмі важнай, інфармацыі. Кніжнаму варыянту дзеці выставілі станоўчыя балы за паўнату інфармацыі, эфектыўнасць яе передачы, адносную вольнасць і меншае навязванне пунктаў гледжання пры ўтварэнні выяў. Недахопы дзеці бачылі ў тым, што кніжны варыянт забірае шмат часу, стварае менш дакладнае ўяўленне выявы, якое, ў той жа час, вельмі суб'ектыўныя.

Далейшымі крокамі праекту, які яшчэ працягваецца, будуць параўнанні інтэрнэту, радыё, кніг і аўдыявізуальных медыя. Гэта будзе адбывацца наступным чынам. Вучні павінны будуць параўноўваць інфармацыю, якую яны змогуць знайсці ў інтэрнэце і ў кнігах, з той, што атрымаюць у выглядзе тэлевізійных ці радыёдакументаў або навін.

Вынікам цэлага праекту павінна стаць уяўленне дзяцей пра кожнае медыя, іх погляд будзе адлюстраваны ў табліцы. Ацэнка іх моцных і слабых бакоў дазволіць дзецям зразумець, у які момант які від медыя ўжыць і якая існуе рызыка (нявыгада), звязаная з ужываннем кожнага з пэўных рэсурсаў. Гэты праект ужо на першай ступені павінен стварыць у дзяцей уяўленне, якія медыя ёсць, якія іх перавагі і недахопы і што можна чакаць ад кожнага з іх. Пажаданым вынікам таксама павінна стаць аснова для далейшай працы ў вобласці медыяадукацыі, калі дзеці ўжо будуць працаваць з рознай інфармацыяй і даследваць яе рэлевантнасць для стварэння аб'ектыўнага пункта гледжання на сітуацыю ў навакольным свеце.

**2.3.**

# АСАБЛІВАСЦІ І ПЕДАГАГІЧНЫЯ ЎМОВЫ МЕДЫЯАДУКАЦЫІ НА ПЕРШАЙ СТУПЕНІ АГУЛЬНАЙ СЯРЭДНЯЙ АДУКАЦЫІ

*Ірына Буторына*

Дынамізм жыцця сучаснага грамадства (імклівае павелічэнне аб'ёмаў інфармацыі, развіццё сродкаў масавай камунікацыі, пашырэнне маштабаў пазнавальнай дзейнасці людзей і інш.) з дзяцінства "ўключае" чалавека ў насычанае інфармацыйнае асяроддзе, узаемадзеянне з якім фарміруе ў вучня своеасаблівы інфармацыйны лад жыцця. Уменні арыентавацца ў медыяпрасторы, асэнсавана спажываць медыяінфармацыю, ствараць уласныя інфармацыйныя паведамленні сталі апошнім часам адным з найважнейшых жыццёвых кампетэнцый сучаснага чалавека.

Інфармацыя, якая паступае да аўдыторыі па каналах сродкаў масавай камунікацыі, па словах А.В. Сакалова, ёсць "рух сэнсаў у сацыяльным часе і прасторы", абавязковай умовай ажыццяўлення якой з'яўляецца наяўнасць камунікантаў і рэцыпіентаў інфармацыі[17]. У працэсе медыяадукацыі на І ступені агульнай сярэдняй адукацыі неабходна ўлічваць псіхолага-педагагічныя асаблівасці вучняў пачатковых класаў як рэцыпіентаў інфармацыі. У гэтым узросце інтэнсіўна развіваюцца ўсе пазнавальныя працэсы, назіраецца актыўнасць і дапытлівасць у спасціжэнні навакольнага свету. Разам з тым, вучням уласцівыя няўстойлівасць увагі, рухомасць інтарэсаў, нераўнамернасць у запамінанні асобных частак артыкула, кінафільма, тэлепраграмы (запамінаюцца найбольш эмацыйна афарбаваныя фрагменты медыятэкстаў). Успрыманне інфармацыі ў большасці выпадкаў характарызуецца павярхоўнасцю, фрагментарнасцю, выбіральнасцю, мае сітуатыўны характар. У час успрымання прадметаў і з'яў навакольнай рэчаіснасці вучні робяць памылкі ў вызначэнні іх падабенства і адрознення, часта акцэнтуюць увагу на другасных дэталях, не заўважаюць істотных прымет, часам памылкова класіфікуюць прадметы па розных падставах.

Паводзіны і ўчынкі вучняў у значнай ступені маюць імітацыйны характар: дзеці капіруюць мадэль паводзін вядомых герояў мультыплікацыйных і мастацкіх фільмаў, тэлепраграм, рэкламных ролікаў. У значнай ступені асаблівасці ўспрымання і выкарыстання інфармацыі вучнямі малодшага школьнага

ўзросту абумоўлена абмежаванасцю іх жыццёвага досведу, недастатковай ступенню развіцця слоўна-лагічнага мыслення, крытэрыяў маральна-этычнай ацэнкі паводзін і ўчынкаў.

Паступова ў вучняў фарміруецца ўнутраны план дзеянняў, здольнасць да рэфлексіўнай ацэнкі сваіх паводзін і эмацыйнага стану. Унутраны план дазваляе загадзя ставіць і вырашаць пэўныя задачы, планаваць ход выканання дзеянняў, аналізаваць атрыманыя вынікі. Вучні, якія валодаюць у дастатковай ступені сфарміраванымі рэфлексіўнымі ўменнямі, здольныя аналізаваць, аднаўляць не толькі схему ўласных дзеянняў, але і іх магчымыя вынікі.

Сярод характарыстык малодшага школьнага ўзросту трэба назваць і імкненне да творчасці. Шматлікія і разнастайныя праекты і конкурсы, якія прапануюцца сродкамі масавай камунікацыі (у радыёэфіры, на старонках дзіцячай перыёдыкі і інш.), могуць садзейнічаць развіццю творчых здольнасцей дзяцей, стымуляваць развіццё іх фантазіі, а таксама падказаць педагогу цікавыя формы працы з вучнямі рознай ступені навучанасці.

У кантэксце сучаснага адукацыйнага працэсу паняцце “медыяадукацыя” мае шырокі спектр значэнняў і разумеецца, у тым ліку, як педагагічная навука, якая вывучае ўплыў сродкаў масавай камунікацыі на дзяцей і падлеткаў, распрацоўвае тэарэтычныя пытанні падрыхтоўкі навучэнцаў да “сустрэчы” з імі; як практычная сумесная дзейнасць настаўніка і вучняў, накіраваная на падрыхтоўку навучэнцаў да выкарыстання інфармацыі і медыя ў штодзённым жыцці, разуменне ролі сродкаў масавай камунікацыі ў культуры і спасціжэнне законаў навакольнага свету; як адукацыйная вобласць, зместам якой з’яўляецца выпрацоўка на аснове атрыманых ведаў пра асаблівасці і ролю медыя ўменняў эфектыўнай работы з інфармацыяй розных відаў[18].

Выкарыстанне форм і метадаў медыяадукацыі ў вучэбнай і пазавучэбнай дзейнасці патрабуе выяўлення педагагічнага патэнцыялу сродкаў медыяадукацыі. На нашу думку, у шырокім сэнсе педагагічны патэнцыял сродкаў медыя заключаецца ў магчымасці стварэння выхоўваючага інфармацыйна-камунікацыйнага асяроддзя, заснаванага на асабіста значнай дзейнасці вучняў з інфармацыяй друкаваных, аўдыявізуальных і электронных сродкаў масавай камунікацыі. Пры гэтым адбываецца пашырэнне і паглыбленне ведаў (разумення) вучняў пачатковых класаў пра асаблівасці прад’яўлення інфармацыі сучаснымі сродкамі масавай камунікацыі; фарміраванне і ўдасканаленне інфармацыйных уменняў (уменняў пастаноўкі мэты ў час працы з інфармацыяй, агульнаінтэлектуальных, матывацыйных, камунікатыўных, рэфлексіўных уменняў, а таксама ўменняў творчай самарэалізацыі); развіццё крытычнага і творчага мыслення, выхаванне эстэтычнага густу, культуры чытача, гледача, слухача, інтэрнэт-карыстальніка.

Комплекс педагагічных умоў, якія забяспечваюць фарміраванне інфармацыйнай культуры вучняў пачатковых класаў сродкамі медыяадукацыі, уключае змястоўна-мэтавыя, працэсуальныя, інструментальныя ўмовы.

Змястоўна-мэтавыя ўмовы дазваляюць ажыццявіць узаемасувязь паміж мэтай працэса фарміравання інфармацыйнай культуры асобы вучня сродкамі медыяадукацыі і зместам гэтага працэсу.

**Змястоўна-мэтавыя ўмовы ўключаюць:**

- улік у працэсе фарміравання інфармацыйных уменняў узроставых, гендарных, індывідуальна-псіхалагічных асаблівасцей успрымання інфармацыі вучнямі;
- стварэнне выхоўваючага інфармацыйна-камунікацыйнага асяроддзя;
- павышэнне матывацыі вучняў да самастойнага крытычнага аналізу інфармацыі ў вольны час без непасрэднага кантролю з боку бацькоў і педагогаў.

*Працэсуальныя ўмовы* актуалізуюць знешнія і ўнутраныя рэсурсы вучэбнай і пазавучэбнай дзейнасці, якія дазваляюць выкарыстоўваць медыятэксты ў залежнасці ад канкрэтых мэтаў і задач, якія рашаюцца ў дадзены момант.

**Працэсуальныя ўмовы ўключаюць:**

- накіраванасць дзейнасці вучняў на бесперапыннае комплекснае фарміраванне кагнітыўнага, эмацыянальна-каштоўнаснага і паводзінскага кампанентаў інфармацыйнай культуры асобы;
- павышэнне прафесійнай кампетэнтнасці сучаснага педагога (развіццё медыяадукацыйных уменняў: матывацыйных, інфармацыйных, практыка-аперацыйных, творчых).

*Інструментальныя ўмовы* рэгламентуюць выкарыстанне форм, метадаў і прыёмаў дзейнасці, аптымальнае спалучэнне тэарэтычных і практычных аспектаў дзейнасці вучняў.

**Інструментальныя ўмовы ўключаюць:**

- спалучэнне ў адукацыным працэсе як агульнадыдактычных метадаў навучання і выхавання, так і спецыфічных метадаў медыяадукацыі;
- фарміраванне адказных адносінаў да ўласнага фізічнага і псіхічнага здароўя і здароўя іншых людзей (улік санітарна-гігіенічных патрабаванняў да працы з друкаванай, аўдыявізуальнай інфармацыяй, прафілактыка гіпадынаміі і інш.).

Неабходна адзначыць, што фарміраванне медыяадукацыйных уменняў вучняў пачатковых класаў ажыццяўляецца паралельна з фарміраваннем агульнавучэбных уменняў. Напрыклад, фарміраванне чытацкай самастойнасці вучняў уключае пашырэнне кругагляду, узбагачэнне чытацкага вопыту срод-

камі чытання кніг і дзіцячых перыядычных выданняў. У час працы з дзіцячай перыёдыкай удасканальваюцца ўменні і навыкі добрага чытання (правільнасць, асэнсаванасць, бегласць, выразнасць), пашыраецца пералік чытацкіх уменняў, якія набываюць вучні (знаходжанне галоўнай і другаснай інфармацыі, аналіз фотаздымкаў і малюнкаў, якія суправаджаюць тэкст, праца з загалоўкам артыкула, вызначэнне пад кіраўніцтвам настаўніка галоўнай думкі тэксту, выказванне асабістага стаўлення да прачытанага і інш.); узбагачаецца слоўнікавы запас, развіваюцца камунікатыўныя ўменні, творчыя здольнасці вучняў. Значную ролю ў гэтым выконваюць перыядычныя выданні ад складання вершаў, апавяданняў, казак, стварэння творчых вырабаў з розных матэрыялаў па прыкладзе размешчаных на старонках часопісаў і газет дзіцячых работ да калектыўнага стварэння школьных газет, альманахаў (насценных, электронных і інш.). Стварэнне сучасных школьных часопісаў і газет Ю.А. Агафонава называе асноўнай педагагічнай тэхналогіяй медыяадукацыі, у аснове якой знаходзіцца арганізаваная інтэрактыўная медыядзейнасць дзяцей і падлеткаў па стварэнні сацыяльна значнага інфармацыйнага прадукту, у працэсе якой удасканальваюцца ўменні канструяваць тэкставыя паведамленні на розныя тэмы, складаць кароткі анонс, план выдання, адбываецца выкарыстанне ведаў, атрыманых на розных вучэбных прадметах у рэальных жыццёвых умовах, фарміруюцца не толькі чытацкія ўменні, але і ўменні стваральніка медыятэксту, стымулюецца пазнавальны вопыт зносін з аднагодкамі ў сітуацыі абмеркавання атрыманай і стварэння новай інфармацыі[19].

Інтэграцыя рознапланавых, адпаведных узросту медыяпаведамленняў у змест вучэбных заняткаў дазволіць павысіць матывацыю да вучэбнай дзейнасці, прадэманструе шляхі і спосабы выкарыстання ведаў у штодзённым жыцці. Так, у час падрыхтоўкі да вывучэння новай тэмы па большасці вучэбных прадметаў медыяінфармацыя можа быць пададзена ў выглядзе праблемнай сітуацыі, вырашэнне якой дазволіць вучням зрабіць новыя веды іх уласным, самастойна адкрытым набыткам.

Практыка самастойнага выкарыстання навучэнцамі інфармацыйных уменняў ажыццяўляецца больш за ўсё ў пазавучэбнай дзейнасці, напрыклад, падчас выбару для прагляду пэўнай тэлепраграмы, мастацкага ці мультыплікацыйнага фільма, сістэматычнага ўдумлівага чытання ў вольны час часопісаў і газет ці наўмыснага пазбягання іх выкарыстання і інш. Паўнавартаснае ажыццяўленне пазавучэбнай дзейнасці дазваляе настаўніку надаць выхаваўчы характар інфармацыйнаму асяроддзю, у якім кожны дзень знаходзяцца вучні, прадугледзець магчымасць уключэння навучэнцаў у розныя віды дзейнасці, якія спрыяюць выяўленню індывідуальных інтарэсаў і здольнасцей, узбагачэнню асабістага вопыту ўзаемаадносін з інфармацыяй, ствараюць неабходныя ўмовы для сацыялізацыі асобы. Разнастайныя формы пазавучэбнай дзейнасці з выкарыстаннем сродкаў медыяадукцыі могуць быць арганізаваны пасля вучэбных заняткаў, у шосты школьны дзень (суботу) або ў перыяд школьных канікул.

Спецыфіка арганізацыі пазавучэбнай дзейнасці заключаецца ў добраахвотнасці выбару вучнямі яе відаў, дамініраванні эмацыйнага аспекту над рацыянальным, максімальнай разнастайнасці зместу заняткаў пры сацыяльнай каштоўнасна арыентаванай накіраванасці ўсіх відаў дзейнасці. Вучань выступае суб’ектам пазавучэбнай дзейнасці: ён удзельнічае ў абмеркаванні яе магчымых форм, адборы зместу, праводзіць рэфлексіўную ацэнку ўласнай інфармацыйнай дзейнасці і эмацыйнага стану. У той жа час вучань з’яўляецца і аб’ектам пазавучэбнай дзейнасці: пад кіраўніцтвам настаўніка яму неабходна авалодаць асноўнымі напрамкамі асобасна значнай інфармацыйнай дзейнасці, сфарміраваць матывацыю да самастойнага крытычнага аналізу зместу інфармацыйных паведамленняў.

Асаблівасцю ажыццяўлення медыяадукацыі ў пазавучэбнай дзейнасці таксама можна лічыць той факт, што мерапрыемствы могуць быць арганізаваны не толькі ў школе, але і ў рэдакцыях дзіцячых перыядычных выданняў, радыё- і тэлестудыі, іншых сацыяльна-культурных установах. Па словах З.Тэла, творы кінамастацтва, мультыплікацыі, кінематографа, тэлебачання маюць міждысцыплінарны і мультыдысцыплінарны характар[20]. Добраахвотны характар заняткаў дазволіць запрасіць да ўдзелу не толькі вялікія групы навучэнцаў, але і арганізаваць мерапрыемствы па паглыбленым вывучэнні асаблівасцей інфармацыі з розных сродкаў масавай камунікацыі для тых вучняў, якія выказваюць асаблівы інтарэс да гэтай дзейнасці. Варта асобна адзначыць магчымасці развіцця творчай сферы асобы вучняў шляхам стварэння калектыўных і індывідуальных работ з мэтай удзелу ў конкурсах друкаваных выданняў, стварэнне літаратурных і мастацкіх твораў па прыкладзе надрукаваных у дзіцячых часопісах і газетах, стварэнне пад кіраўніцтвам педагогаў і бацькоў рэкламных ролікаў сацыяльнай накіраванасці, распрацоўку міні-сцэнарыяў мультыплікацыйных фільмаў паводле прачытаных мастацкіх твораў, удзел у сюжэтна-ролевых гульнях “Наш радыётэатр”, “Ствараем пазнавальную тэлепраграму для дзяцей” і інш.

У час працы па фарміраванні ўменняў пошуку, асэнсавання, перапрацоўкі, трансляцыі інфармацыі часта без увагі застаюцца маральна-этычныя аспекты жыццядзейнасці. Аднак, асаблівасці сучаснага інфармацыйнага соцыуму дазваляюць адзначыць, што “этычны запас трываласці” асобы павінен быць значна вышэйшым, чым у традыцыйнай культуры[21]. Метады і прыёмы працы з медыяінфармацыяй дазваляюць праводзіць выхаваўчую работу на патрэбным наглядным узроўні, але без залішняй назідальнасці з боку педагога. Напрыклад, абмеркаванне ўчынкаў герояў вядомых мультфільмаў, выяўленча-выразных сродкаў, з дапамогай якіх аўтар уздзейнічае на ўспрыманне гледача ці слухача, аналіз мовы персанажаў, вызначэнне тэмы і галоўнай думкі газетнага артыкула, фарміраванне ўяўленняў аб разнастайнасці аўтарскіх трактовак вобразаў з абавязковым улікам маральнай афарбоўкі, пастаноўка вучняў у сітуацыю маральнага выбару разам з героямі фільмаў і інш. Месца і час абмеркавання маральных

аспектаў медыяінфармацыі павінны быць дасканала прадуманыя педагогам, таму што максімальнага выхаваўчага эфекту магчыма дасягнуць толькі ў тым выпадку, калі гэты этап заняткаў будзе асобасна значным для кожнага вучня.

Неабходна адзначыць шырокія магчымасці медыяадукацыі ва ўзаемадзеянні сям’і і школы. Такія напрамкі дзейнасці, як сістэматычная псіхолага-педагагічная работа з сям’ёй, інфармацыйна-асветніцкія дыскусіі на бацькоўскіх сходах, арганізацыя калектыўных кінапраглядаў і абмеркавання якасных твораў дзіцячага кінематографа, тэлепраграм, змест якіх накіраваны на гарманічнае развіццё асобы дзіцяці, сумесная творчасць бацькоў і дзяцей дазваляюць праводзіць мэтанакіраваную працу па фарміраванні і ўдасканаленні інфармацыйнай культуры кожнай сям’і, выхаванні чулых і добразычлівых адносін паміж яе членамі.

Адной з форм пазавучэбнай дзейнасці з’яўляюцца факультатыўныя заняткі. Сярод пераваг такіх заняткаў можна пералічыць адсутнасць традыцыйнай ацэначнай сістэмы, большую варыятыўнасць у выбары метадычных прыёмаў, магчымасць карэкціроўкі плана правядзення заняткаў з мэтай найбольш эфектыўнага дасягнення мэтаў і задач. Псіхалагічна камфортная атмасфера, створаная на факультатыўных занятках, дапамагае вучням лепш даведацца пра інтарэсы аднакласнікаў, што будзе перадумовай згуртавання класнага калектыву, з аднаго боку, і развіцця творчых здольнасцей, індывідуальнасці кожнага вучня – з другога.

У цяперашні час ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі Рэспублікі Беларусь з беларускай і рускай мовай навучання дзейнічае вучэбная праграма факультатыўных заняткаў “Інфармацыйны навігатар” для вучняў 3(4) класаў.

Мэтай факультатыўных заняткаў “Інфармацыйны навігатар” з’яўляецца фарміраванне ў вучняў пачатковых класаў асноў інфармацыйнай культуры як важнай часткі агульнай культуры асобы сродкамі медыяадукацыі. Праграма факультатыўных заняткаў складаецца з 3-х раздзелаў: “Бязмежныя гарызонты інфармацыі”, “Інфармацыйныя лабірынты”, “Мой інфармацыйны канструктар”. Праграма разлічана на 35 гадзін пры правядзенні заняткаў 1 раз на тыдзень.

Змест факультатыўных заняткаў “Інфармацыйны навігатар” распрацаваны з улікам асноўных патрабаванняў да арганізацыі выхаваўчага працэсу, выкладзеных ў Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адукацыі[22]: забеспячэнне рэалізацыі праграм выхавання; рэалізацыя сістэмнасці і адзінства педагагічных патрабаванняў; адпаведнасць зместу, форм і метадаў выхавання яго мэтам і задачам; рэалізацыя асобасна

арыентаванага падыходу; стварэнне ўмоў для развіцця творчых здольнасцей выхаванцаў, уключэння іх у розныя віды сацыяльна значнай дзейнасці і інш. Зместавая лінія факультатыўных заняткаў цалкам адпавядае напрамкам выхаваўчай дзейнаці, грунтоўна акрэсленых у “Канцэпцыі бесперапыннага выхавання дзяцей і вучнёўскай моладзі ў Рэспубліцы Беларусь”[23]. Тэматычнае напаўненне факультатыўных заняткаў цесна звязана з такімі галінамі гуманітарных ведаў, як культуралогія, мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыя сусветнай і айчыннай мастацкай культуры і мастацтва, псіхалогія развіцця асобы, мастацкага ўспрымання рэчаіснасці, псіхалогія творчасці і інш., што дазваляе рэалізаваць міжпрадметныя сувязі на I ступені агульнай сярэдняй адукацыі.

Структура кожнага занятка мае гульнёвую аснову і камбінаваны характар, у іх змесце прадугледжана знаёмства вучняў з даступнымі ўзросту тэарэтычнымі звесткамі пра гісторыю стварэння і асаблівасці прад’яўлення інфармацыі празнымі сродкамі масавай камунікацыі і замацаванне атрыманых ведаў у час выканання практычных заданняў.

Такім чынам, медыяадукацыйная дзейнасць настаўніка і вучняў у адукацыйным працэсе пачатковай школы паспяхова можа суправаджаць як вучэбную, так і пазавучэбную дзейнасць. Яна заснавана на каштоўнасна арыентаванай інфармацыйнай дзейнасці вучняў, у працэсе якой адбываецца ўдасканаленне інфармацыйных уменняў вучняў, усведамленне і засваенне імі маральных норм і правілаў, узрастае ступень эмацыянальна-валявога рэгулявання ўласных паводзін, працягваецца развіццё культуры чытача, гледача, слухача, інтэрнэт-карыстальніка, што адлюстроўваецца ў рэальнай дзейнасці вучняў і накіравана на паспяховую рэалізацыю асобы ў будучым.

**2.4.**

# АБ ПРАЕКТАВАННІ ЎРОКА, СКІРАВАНАГА НА ФАРМІРАВАННЕ МЕДЫЙНАЙ КАМПЕТЭНТНАСЦІ ВУЧНЯЎ

*Мікалай Запрудскі*

*Уступная заўвага для чэшскіх чытачоў. У вучэбных планах беларускіх школ адсутнічае спецыяльны медыяадукацыйны вучэбны прадмет. Ні ў адным з прадметаў няма скразной тэмы, прысвечанай фарміраванню ў вучняў медыякампетэнтнасці. Таму мы бачым і выкарыстоўваем дзве іншыя магчымасці – ажыццяўляем медыяадукацыю на ўроках і ў пазакласнай рабоце з вучнямі.*

У артыкуле настаўнікам дадзены рэкамендацыі аб тым, як уводзіць ва ўрок медыйны змест, як арганізоўваць вучэбныя заняткі з максімльным эфектам у сэнсе набыцця вучнямі медыйных кампетэнцый. Адразу заўважым, што гэта не так проста, паколькі, па-першае, перагружаныя вучэбныя праграмы часта не пакідаюць часу на гуманітарныя аспекты адукацыі; па-другое, склаліся стэрэатыпы працы толькі з арыентацыяй на вучэбную паспяховасць вучняў. (Да месца заўважыць, што тлумачальныя запіскі вучэбных праграм 2015 і 2016 гадоў ужо ўтрымліваюць задачы фарміравання ў вучняў ключавых кампетэнцый, да якіх, вядома ж, адносяцца і медыйныя).

Кампетэнтнасны падыход у аспекце фарміравання медыяграматнасці вучняў рэалізуецца на падставе наступных прынцыпаў:

1 **Прынцып мадэльнага прадстаўлення аб выпускніку.** Гэты прынцып патрабуе канкрэтнага ўяўлення асобным педагогам, а лепш усім школьным калектывам аб узроўні кампетэнтнасці выпускніка, г.зн. выдзялення набора актуальных прадметных і ключавых кампетэнцый, якія па сутнасці з'яўляецца для педагогаў адукацыйнай мэтай. Неабходным кампанентам мадэлі выпускніка павінна быць яго медыяграматнасць. У дапамогу педагогам распрацаваны рэкамендацыі па ставарэнні кампетэнтнаснай мадэлі выпускніка.[24]

2 **Прынцып пашыранага разумення зместу адукацыі.** Гэта не толькі прадметныя веды і ўменні, але і ключавыя кампетэнцыі, у склад якіх уваходзяць матывацыйны, зместавы, дзейнасны і каштоўнасна-сэнсавы аспекты медыяграматнасці.

3 **Прынцып праектавання дзейнасці па фарміраванню кампетэнцый.** Прынцып патрабуе вызначэння неабходнага і дастатковага набора вучэбных задач-сітуацый, у працэсе вырашэння якіх у вучняў, з некаторай верагоднасцю, фарміруюцца адпаведныя медыйныя кампетэнцыіі, каштоўнасці, веды і ўменні.
4 **Прынцып увядзення ў адукацыйны працэс задач-сітуацый,** якія ствараюць умовы для фарміравання і развіцця кампетэнцый (у тым ліку медыйных).
5 **Прынцып аналізу і ацэнкі паспяховасці фарміравання кампетэнцый.** Ацэнка вынікаў навучання заснавана на аналізе ўзроўню адукаванасці, якога дасягнулі вучні ў сэнсе валодання вызначанымі кампетэнцыямі (у прыватнасці, сэнсы, каштоўнасці, веды і ўменні, што складаюць медыякампетэнтнасць), якія выступаюць мэтай адукацыйнага працэсу.

Урок, скіраваны, акрамя фарміравання прадметных ведаў і ўменняў, на медыякампетэнтнасць вучняў, мае істотныя асаблівасці. Разгледзім іх праз прызму дзейнасці настаўніка пры падрыхтоўцы яго да ўрока (табл.)

Табліца 2. **АСАБЛІВАСЦІ ДЗЕЙНАСЦІ НАСТАЎНІКА ПРЫ ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА “МЕДЫЙНАГА” ЎРОКА**

| **Кампаненты ўрока** | **Дзейнасць настаўніка пры праектаванні вучэбных заняткаў, арыентаваных на фарміраванне прадметных ведаў і уменняў** | **Дзейнасць настаўніка пры праектаванні вучэбных заняткаў, арыентаваных на фарміраванне медыякампетэнтнасці вучняў** |
|---|---|---|
| Пастаноўка мэты | Складае спіс дзеянняў вучняў па ўзнаўленню і прымяненню праграмных ведаў, якія яны павінны ўмець выконваць у канцы ўрока | Дадаткова: указвае сваю задачу па фарміраванню ў вучняў пэўных медыйный уменняў |
| Адбор зместу ўрока | Абмяжоўваецца матэрыялам з падручніка | Дадаткова знаходзіць матэрыялы з іншых крыніц, магчыма/пажадана з альтэрнатыўнымі поглядамі і спосабам падачы інфармацыі |

| | | |
|---|---|---|
| Планаванне арганізацыі працэсу | Плануе прымяненне форм, метадаў і сродкаў навучання, якія забяспечваюць засваенне аднаго правільнага метаду, спосабу рашэння задачы, правільнай высновы па трактоўцы ідэйнага зместу мастацкага твора і г.д. | Плануе вучэбныя сітуацыі, у якіх вучні ўспрымаюць інфармацыю, аналізуюць яе, крытэрыяльна ацэньваюць і прымяняюць для стварэння сваіх медыятэкстаў (не абавязкова ўсе з названага, на адным ўроку) |
| Кантроль і ацэнка | Плануе выхадны кантроль, скіраваны на праверку засваення тых ведаў і ўменняў, якія пазначаны ў мэце ўрока | Дадаткова плануе ацэнку вучнямі таго, наколькі ўзрасла іх медыякампетэнтнасць |

Разгледзім дзеянні, якія настаўніку важна прадпрымаць пры праектаванні навучальных заняткаў, арыентаваных, акрамя прадметных ведаў і уменняў, на медыякампетэнтнасць вучняў. Пры гэтым пакінем за дужкамі бок урока, звязаны з забеспячэннем засваення навучэнцамі традыцыйных праграмных патрабаванняў.

1 Ацаніце магчымасці вучэбнага матэрыялу для фарміравання медыяграматнасці вучняў. Такія магчымасці ёсць заўсёды, паколькі вучні працуюць з друкаванымі або электроннымі тэкстамі, а іх разуменне – адно з медыяінфармацыйных уменняў. Больш таго, ёсць тэмы, у якіх заключаны вялікі патэнцыял для развіцця крытычнага мыслення і медыяграматнасці ў цэлым. Напрыклад, па матэматыцы – працэнты, па фізіцы – атамная энергетыка, па біялогіі – пытанні аховы навакольнага асяроддзя, па хіміі – карыстанне мыйнымі сродкамі, па грамадазнаўству і літаратуры – маральныя каштоўнасці і г.д.
2 Звярніцеся да кампетэнтнаснай мадэлі выпускніка (далей – КМВ), у якой, у ліку іншых, пазначаныя аспекты медыяграматнасці. Зыходзім з таго, што такая мадэль у школе ёсць. Калі яе няма, то ў настаўніка ёсць наступныя магчымасці:
   1 ініцыяваць стварэнне мадэлі;
   2 сфарміраваць уласнае ўяўленне аб ведах і ўменнях вучняў па медыяграматнасці на выхадзе са школы, выпрацаваць уласнае каштоўнаснае стаўленне да яе;

3 звярнуцца да тлумачальнай запіскі вучэбнай праграмы. За аснову можа быць ўзяты каталог уменняў медыяадукаванага вучня[25]. Гэты матэрыял падрыхтаваны Фондам «Сучасная Польшча» (Fundacja Nowoczesna Polska) у рамках рэалізацыі Праграмы ЮНЕСКА "Інфармацыя для ўсіх". Структурна ён пабудаваны ў выглядзе табліцы, у якой пералічаны медыйныя і інфармацыйныя ўменні адносна ступеняў навучання: ад дашкольнага ўзросту да адукацыі дарослых людзей. Пры гэтым кожнае ўменне падаецца на трох узроўнях: базавым, сярэднім і высокім. Дадзены каталог – надзвычай карысны матэрыял, паколькі ён не толькі дае магчымасць мець ідэальнае ўяўленне аб выпускніку школы, але і паказвае пажаданы вынік фарміравання медыяграматнасці на ступенях навучання. Гэта дае адказ на пытанне: што з медыяграматанасці і ў якім класе фарміраваць?

Заўважым, што мэтазгодна, карыстаючыся ўзгаданым каталогам, дамовіцца з калегамі, якія працуюць у тым жа класе ці паралелі аб тым, на якія медыйныя ўменні будуць працаваць настаўнікі гуманітарных прадметаў, на якія – прыродазнаўчых дысцыплін. Гэта прадухіліць дубліраванне і дазволіць не пакінуць па-за ўвагай важныя аспекты медыяграматнасці. Адпаведная работа, на наш погляд, можа адбыцца як па ініцыятыве адміністрацыі, так і па жаданні саміх настаўнікаў. У бягучым навучальным годзе сказанае асабліва актуальна для настаўнікаў 5, 6, 10 і 11 класаў, паколькі вучэбныя праграмы для гэтых паралеляў, як адзначалася, ужо ўтрымліваюць рэкамендацыі па выкарыстанні кампетэнтнаснага падыходу да зместу і арганізацыі адукацыйнага працэса.

3 Выберыце з КМВ (або з каталога медыйных ўменняў для вучняў адпаведнага ўзросту, з тлумачальнай запіскі вучэбнай праграмы) тое ўменне, якім, па-першае, навучэнцы класа валодаюць недастаткова або не валодаюць зусім, па-другое, якое можа паспяхова развівацца ў працэсе працы менавіта з запланаваным для вывучэння вучэбным матэрыялам. Напрыклад, калі вучні класа не разумеюць наступствы адсутнасці крытычнага стаўлення да інфармацыйных крыніц, а тэма ўрока звязана з магчымасцю разгляду альтэрнатыўных пунктаў гледжання на сітуацыю, то дадзенае ўменне можа стаць адным з кампанентаў зместу навучання на гэтым ўроку.
4 Вызначце адпаведную педагагічную, у дадзеным выпадку "медыякампетэнтнасную", задачу на ўрок. Напрыклад, навучэнцы не зусім валодаюць ўменнямі рабіць самастойныя высновы з прачытанага тэксту, а гэтае ўменне зафіксавана ў КМВ, навучальны матэрыял дае магчымасць для яго фарміравання. Тады задача на ўрок можа быць такой: садзейнічаць развіццю ўменняў рабіць самастойныя і аргументаваныя высновы з прачытанага тэксту.
5 Выберыце тыя метады і сродкі для ўрока, якія найбольш падыходзяць для вырашэння пастаўленай задачы. Выбар залежыць ад многіх фактараў:
   - ад ступені валодання вучнямі вызначаным уменнем;

- ад таго, наколькі метад і сродак адпавядаюць стылю педагагічнай дзейнасці настаўніка і стылю пазнавальнай дзейнасці вучняў, іх узросту;
- ад таго, колькі часу спатрэбіцца на іх прымяненне (сапраўды, 45 хвілін – гэта немнога, паколькі патрэбна і фарміраваць у вучняў прадметныя веды і ўменні, і ствараць магчымасці для іх выхавання і развіцця) і г.д.

Асаблівасці метадаў і сродкаў, якія рэкамендуецца прымяняць, – гэта іх інтэрактыўнасць, магчымасць з іх дапамогай уключаць вучняў у стасункі і з настаўнікам, і з аднакласнікамі, і са сродкамі масавай інфармацыі. Гэтаму патрабаванню адпавядаюць розныя варыянты групавой работы, а таксама метады тэхналогіі развіцця крытычнага маслення, метады, якія прыведзены ў раздзеле “Педагогические методы преподавания и изучения МИГ: программа обучения в действии” кнігі[26].

Для ацэнкі медыйнай выніковасці ўрока прымяняюцца розныя сродкі:
1 пытанні настаўніка вучням адносна іх стаўлення да інфармацыі, да розных яе крыніц;
2 пытанні вучняў настаўніку;
3 заданні па пошуку патрэбнай інфармацыі ў інтэрнэце;
4 сітуацыі выбару;
5 узаемаацэнка вучнямі выкананых заданняў па акрэсленых крытэрыях;
6 напісанне вучнямі невялікіх медыятэкстаў і інш.

Такім чынам, у межах звычайных урокаў настаўнік мае магчымасці для фарміравання медыяграматнасці вучняў. Для гэтага ёсць неабходныя метады і сродкі. Але ўрок, скіраваны на выхаванне медыяграматных спажыўцоў і аўтараў медыяінфармацыі, мае пэўную спецыфіку. Для яго неабходна спецыяльна рыхтавацца. Пры гэтым патрэбна кiравацца логікай: актуальнае для фарміравання медыйнае ўменне, магчымасці вучэбнага матэрыялу, адпаведная задача настаўніка, адэкватныя метады і сродкі навучання, якія дапамагаюць вырашыць задачу. Гэтыя метады і сродкі адпавядаюць формуле: “Вучым таму, з дапамогай чаго вучым”. Напрыклад, калі вучым пісаць медыяпаведмленні, то гэта робім практыкай іх напісання; калі вучым інтэрпрэтацыі тэкстаў, то вучні на ўроку робяць свае тлумачэнні тэкстаў і г.д. Узоры адпаведнага вопыту беларускіх настаўнікаў можна бачыць на старонцы “Медыякомпас” на сайце *http://www.nastaunik.info/media.*

**2.5.**

# МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ ЯК НЕАД’ЕМНАЯ ЧАСТКА ЖЫЦЦЯ БАЗАВАЙ ШКОЛЫ Ў ПАБЯЖОВІЦЭ

*Уладзімір Фойст*

Базавая школа Пабяжовіце знаходзіцца ў памежным раёне на захадзе Чэшскай Рэспублікі. Яе наведвае 250 вучняў з самых розных населеных пунктаў. Школа дае базавую адукацыю ўсім дзецям, незалежна ад іх этнічнага паходжання, стану здароўя або сацыяльных умоў сям’і. У кантэксце ўключэння рэалізуе індывідуальную падтрымку больш чым сямі дзясяткам дзяцей з асаблівымі адукацыйнымі патрэбамі. Часткай сістэмы агульнай адукацыі стала і медыяадукацыя, асноўнай задачай якой ў школе Пабяжовіцэ з’яўляецца стварэнне і ўмацаванне сувязі школьнікаў з родным краем і грамадствам, у якім яны жывуць і з якім можа быць звязана іх будучыня. З 2009 года ў школе ствараецца метадычная структура медыяадукацыі, якая, як правіла, уключана ў якасці скразной тэмы ў школьную праграму.

Акрамя гэтага, ёсць некалькі рабочых груп навучэнцаў і настаўнікаў, якія прысвячаюць сваю працу стварэнню прафесійных навін ў супрацоўніцтве з тэлерадыёкампаніямі. У перыяд супрацоўніцтва з гэтымі кампаніямі ўзнікла больш за сотню відэадакументаў, што адлюстроўваюць жыццё ў школе і падзеі ў рэгіёне. Медыяадукацыя стала часткай паўсядзённага школьнага жыцця, і яе вынікі адлюстроўваюцца ў бацькоўскай суполцы і прадастаўляюцца на агляд шырокай публіцы.

У вобласці медыйнай адукацыі Пабяжовіцкая школа вырашыла знайсці ўласны шлях, перш за ўсё, дзякуючы магчымасці праверыць магчымасць дасягнення жаданых мэтаў шляхам рэалізацыі адукацыйных праектаў. Аднаўленне праграмы медыяадукацыі адбылося ў канцы 2009 года і вылілася ў грамадскі тэлевізійны праект на чэшскім тэлебачанні. Праект назвалі “Digináves”, і адной з яго галоўных мэт стала падтрымка рэпарцёраў школьных навін. На першым этапе ў рэалізацыі прынялі ўдзел 14 школ з усёй Чэшскай Рэспублікі. Наша школа скарысталася прапанаванай магчымасцю для таго, каб стварыць платформу, якая стане яшчэ адным сувязным звяном паміж школай, вучнямі і грамадскасцю. Дзякуючы “Digináves”, школа змагла абсталяваць рэдакцыйныя памяшканні неабходнай тэхнікай і інсталяваць праграмнае забеспячэнне. Акрамя таго, спецыялісты з рэдакцый навін гарантавалі школам

метадычную і тэхнічную дапамогу. Непасрэдна ў школе быў праведзены семінар для настаўнікаў і вучняў, дзе яны навучыліся працаваць з камерай і перад камерай.

Удзельнікі даведаліся пра патрабаванні да рэдактарскай працы і этыцы медыя і змаглі запусціць першы самастойна зроблены рэпартаж. Іх тэмай стаў калядны кірмаш школы. Перад тым як рэпартаж быў завершаны, было праведзена некалькі кансультацый з метадычным саветам праекту, які займаецца рэдагаваннем, субтытрамі і зместам. Праект два гады меў поўную падтрымку Чэшскага тэлебачання, і на працягу гэтага часу цікавая форма медыяадукацыі трывала замацавалася ў школьнай праграме. Да гэтага дня было апублікавана 124 рэпартажы, і ў знак прызнання дзейнасці школы ёй была дадзена магчымасць зрабіць адзін “вялікі” рэпартаж прама ў студыі Чэшскай тэлерадыёкампаніі.

Рэпартажы аб жыцці школы і рэгіёна Пабяжовіцэ рэгулярна публікуюцца на сайце чэшскага тэлебачання, час ад часу некаторыя нават перадаюцца на нацыянальны канал навін, таму каманда школы Пабяжовіцэ набыла вядомасць у грамадстве. Апублікаваныя сюжэты былі сімвалічна ўзнагароджаны, што дало магчымасць набыць больш абсталявання і падтрымаць каманды. Зараз у школе актыўна працуюць тры рэдакцыйныя групы. Праект працягваецца без фінансавай падтрымкі з боку Чэшскага тэлебачання, але па-ранейшаму працуе ў вельмі цесным супрацоўніцтве паміж аматарамі і прафесіяналамі.

Кожная каманда складаецца з пяці школьнікаў: рэдактар, яго намеснік, асістэнт і два аператары. Метадычнае кіраўніцтва і тэхнічную дапамогу ажыццяўляюць два вопытных педагогі і прафесіянал у галіне інфармацыйных тэхналогій. Разам з вучнямі яны рыхтуюць план і праграму, кантралююць ход здымак. Самі рэпартажы афармляюцца падчас заняткаў інфарматыкі або працоўнага выхавання, на добраахвотных пазакласных мерапрыемствах або падчас тэматычных праектных дзён. Вучні маюць базавае тэхнічнае абсталяванне – камеру са штатывам і выступам для мікрафона, прынтэр, камп’ютар і фотаапарат. Завяршаючая праца – нарэзка і ўстаўка тытраў ажыццяўляецца з дапамогай праграмы “Pinnacle Studio”. Адсутнае прафесійнае абсталяванне замяняе інтэрактыўная дошка, якая дае магчымасць назіраць за зменамі, зробленымі членамі каманды. Пад кіраўніцтвам выкладчыкаў школьнікі надаюць рэпартажам канчатковую форму на аснове ўзаемнай дэмакратычнай дыскусіі.

Медыяадукацыя з’яўляецца скразной тэмай, што ўключана, перш за ўсё, у грамадскае выхаванне, але вучнёўскія рэпартажы ахопліваюць усе складнікі школьнага жыцця. Праца юных журналісаў стала звычайнай з’явай падчас правядзення розных праектаў, цікавых заняткаў, школьных і пазашкольных мерапрыемстваў. Створаныя матэрыялы штотыдзень паказваліся для навучэнцаў на вялікім экране ў галоўным калідоры школы. Гэты экран школа атрымала ад іншага, але тэматычна звязанага праекта

“Школьны інфармацыйны канал”, дзе вучням, акрамя сваёй галоўнай працы, падчас перапынкаў прапанавалі назіраць цікавыя кароткія відэа, якія, напрыклад, папярэджваюць нездавальняючыя паводзіны або асвятляюць сусветную грамадскую тэматыку. Дзейнасць праекта таксама дапаўняецца і асноўнымі заняткамі (напрыклад, медыцынская падрыхтоўка, чытанне і г.д.).

Праект “Digináves” свабодна пашыраецца іншымі відамі актыўнай дзейнасці, звязанымі з медыяадукацыяй. Напрыклад, школа стала адным з удзельнікаў еўрапейскага маштабнага праекта пад назвай “Чэшскі лес – месца, дзе жывуць”, задачай якога з’яўляецца падрыхтоўка навучальнага матэрыялу ў рэгіёне, набліжаным да канкрэтнай сітуацыі. Адным з вынікаў праекта, да якога далучыліся тры суседнія школы, з’яўляецца стварэнне аўтарскіх дакументальных фільмаў аб гарадах зоны дзейнасці школы. План праекта быў распрацаваны так, каб удзельнічаць у яго ажыццяўленні магло як мага больш школьнікаў і каб фільм ахапіў шырокае кола пытанняў. Сярод рэдактараў прайшоў конкурс, у якім каманды з кожнай школы наведвалі адна адну ў майстэрнях. А падчас фінальнай канферэнцыі вучні прадставілі вынікі сваёй працы, і медыяадукацыя тут стала злучальным звяном з навакольным асяроддзем, культурай, гісторыяй, спортам і сацыяльнымі пытаннямі.

Магчымасць публічна прадставіць вынікі сваёй працы ў галіне медыяадукацыі вучыць нашых школьнікаў не толькі працаваць са сродкамі масавай інфармацыі, але і дазваляе ім быць добра арыентаванымі ў праблематыцы СМІ, удакладняць свае густы, умацоўваць адказнасць і пачуццё ўласнай годнасці, а таксама адыгрывае важную ролю ў фарміраванні асобы і ўласнай будучыні вучняў. Створаныя матэрыялы ўяўляюць сабой каштоўную хроніку важнага, пераўтвараючага этапу школы і значны ўклад у паглыбленне цікавасці грамадскасці, і асабліва бацькоў, да таго, што адбываецца ў школе.

**2.6.**

# ВЫКЛАДАННЕ ГІСТОРЫІ І МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ Ў ГІМНАЗІІ «ПРЫРОДНАЯ ШКОЛА» Ў ПРАЗЕ: ВАЕННЫ ЎЧАСТАК РАЛЬСКО 1968-1991

*Яраслаў Найберт*

## Як і навошта займацца медыяадукацыяй праз гісторыю?

Медыяадукацыя неабавязкова павінна быць рэалізавана як асобны прадмет, але яна можа быць паспяхова інтэгравана ў звычайныя прадметы, такія як гісторыя, чэшская мова або мастацкае выхаванне. У сваім артыкуле я прапаную канкрэтныя ідэі для мерапрыемстваў, з дапамогай якіх у нашай школе развіваюцца медыянавыкі пры вывучэнні сучаснай гісторыі.

Мы зыходзім з шматгадовага вопыту, з якога вынікае, што навучанне можа быць вельмі эфектыўным і значным, калі настаўнік пакідае вучням прастору для актыўнай і творчай працы, а таксама не ўспрымае іх як пасіўных атрымальнікаў інфармацыі. Галоўныя мэты медыяадукацыі ў Чэхіі сфармуляваны не толькі з пункту гледжання набыцця ведаў (напрыклад, тэмы “Гісторыя сродкаў масавай інфармацыі”, “Спецыфіка жанраў СМІ”), але і ў плане развіцця ўменняў. У ідэале вучні павінны разумець, як узнікае паведамленне СМІ, чым вылучаюцца асобныя паведамленні, якія распрацоўваюцца на крытычнай адлегласці ад таго, што прадстаўлюць нам СМІ як праўдзівую інфармацыю.

Гісторыя, па сваёй прыродзе, ідэальны прадмет для ажыццяўлення мэтаў медыяадукацыі. Гісторыкі заўсёды рэканструююць мінулае на падставе гістарычнай інфармацыі, якую для сучаснікаў захавалі розныя віды сродкаў масавай інфармацыі – сведчанне помнікаў, газетных артыкулаў, фатаграфій або хронік. У нашай школе, мы мяркуем, калі вучні будуць паступовa адпрацоўваць гэтыя ўменні пры праходжанні актуальных пытанняў сучаснай гісторыі, яны будуць здольныя выкарыстоўваць гэта ў падобных сітуацыях у жыцці нават пасля заканчэння школы.

Таксама як і супярэчлівая інфармацыя ў СМІ (кожны рэсурс, як правіла, мае сваё меркаванне пра тое, хто выклікаў якую-небудзь міжнародную крызісную сітуацыю), тэмы сучаснай гісторыі і яе ацэнкі могуць быць супярэчлівымі. Усё часцей здаецца, што традыцыйная канцэпцыя гісторыі як гісторыі зразумелай, якая праўдзіва апісвае ў падручніку, як усё адбылося на самой справе, састарэла.

Адпраўной кропкай выкладання гісторыі ў Чэшскай Рэспубліцы, таксама як і ў Заходняй Еўропе, з'яўляецца мультыперспектыўнасць – па словах брытанскага дыдактыка Роберта Стрэдлінга, "здольнасць і гатоўнасць ацаніць сітуацыю з розных пунктаў гледжання"[27]. Роберт Стрэдлінг звяртае ўвагу на неабходнасць развіцця ў вучняў сістэмных і доўгатэрміновых аналітычных навыкаў, спосабаў мыслення і здольнасці да гістарычнай эмпатыі.

Асноўным метадалагічным прынцыпам мультыперспектывы з'яўляецца выкарыстанне сведчанняў аб гістарычных падзеях з розных крыніц, якія дапаўняюць адно аднаго або нават калі-нікалі супярэчаць адно аднаму. Менавіта такі падыход мы выкарысталі ў нашым праекце, каб паспрабаваць адказаць на пытанне аб жыцці на ваенным палігоне Ральско, дзе была размешчана савецкая армія ў 1968-1991 гады. Больш за дваццацігадовае знаходжанне там савецкіх войскаў пачалося 21 жніўня 1968 года ў адказ на чэхаславацкі рэфарматарскі рух, т.зв. Пражскую вясну, што прынцыпова паўплывала і працягвае ўплываць на фарміраванне грамадскай думкі грамадзян Чэхіі аб Савецкім Саюзе і Расіі.

## Вучні ў ролі даследчыкаў

Наша гімназія "Прыродная школа" мае спецыяльную вучэбную праграму, якая дазваляе настаўнікам і вучням навучанне праз аднадзённыя і шматдзённыя праекты. Праект з назвай "Экспедыцыя", падчас якога мы ў 2013 годзе адправіліся на былы ваенны палігон на поўнач ад Прагі, заняў некалькі тыдняў. Пасля таго як група з дзесяці вучняў (ва ўзросце ад 11 да 18 гадоў) прайшла падрыхтоўку ў школе, яны на працягу двух тыдняў жылі ў адным з рэгіёнаў Чэхіі і збіралі інфармацыю, якая на наступным тыдні апрацоўвалася ў школе і прадстаўлялася грамадскасці. Прыродная школа з яе 100 навучэнцамі з'яўляецца ўнікальнай сярэдняй школай ў Чэшскай Рэспубліцы, і падобныя формы навучання цяжка рэалізаваць у звычайных вялікіх школах. Асобныя працэсы і віды дзейнасці звычайна можна звязаць з традыцыйнымі метадамі адукацыі ў класе або ажыццявіць у рамках школьнага гуртка.

На пачатку працы, падчас якой вучні прымаюць актыўны удзел у стварэнні выступленняў, неабходна вызначыць адукацыйныя мэты, як правіла, у выглядзе навукова-даследчых пытанняў. Тэма паўсядзён-

нага жыцця салдат і жыхароў мястэчка ў закрытай зоне ваеннага гарадка Ральско была вельмі цікавай, таму што яна дагэтуль гісторыкамі прафесійна не вывучалася. У вучняў было адчуванне, што яны робяць нешта значнае. З самага пачатку яны сутыкнуліся з праблемай, якую павінны былі вырашыць сумесна. Адказы яны не маглі атрымаць у падручніках, а павінны былі самі знайсці іх падчас стасавання з людзьмі і з гістарычных крыніц. Разам мы склалі наступныя пытанні:

- Як выглядала жыццё ў закрытай ваеннай зоне?
- Як праходзіла сустрэча салдат з мясцовым насельніцтвам?
- Як гэта тэма прадстаўлена ў розных сродках масавай інфармацыі?
- Што людзі думаюць сёння, калі ўзгадваюць савецкіх салдат?

## Медыявобраз і медыяаналіз

Асноўны метад працы з медыя, які звычайна выкарыстоўваецца і ў нашай школе, – стварэнне так званага медыявобразу падзеі ці асобы. Яго мэта – аналіз агульнага ўражання ад усіх прапанаваных чытачам паведамленняў па тэме. Медыявобраз не варта блытаць з рэальнасцю, нават калі вучні маюць натуральную тэндэнцыю давяраць паведамленням СМІ, якія, аднак, ніколі не змогуць ахапіць рэальнасць ва ўсіх яе дэталях. Некаторыя заўсёды публікуюць інфармацыю, у той час як іншыя (наўмысна ці ненаўмысна) яе хаваюць. Гэта, вядома, скажае рэальнасць, і агульную карціну, якую яны прапануюць, як правіла, неабходна дапаўняць інфармацыяй з іншых крыніц.

Каб даступна растлумачыць школьнікам гэты від медыяманіпуляцыі, яны атрымалі заданне пабудаваць два медыявобразы савецкіх салдат: адзін на аснове бягучых інтэрнэт-артыкулаў, а другі – на аснове гістарычнага друку і архіўных матэрыялаў 1968-1990 гадоў (рэгіянальная газета Камуністычнай партыі горада Млада Баляслаў “Саюз чэхаславацка-савецкага сяброўства”).

У наплыве артыкулаў трэба пазбягаць непатрэбнай інфармацыйнай перагрузкі, таму мы ўводзім ключавыя словы або выкарыстоўваем метад часовых зондаў. У нашым выпадку, мы, напрыклад, абралі старыя газетныя артыкулы, якія былі прысвечаны важным падзеям, такім, як вызваленне Чэхаславакіі ў 1945 годзе ці месяцу чэхаславацка-савецкага сяброўства ў лістападзе. Для аналізу зместу паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі прапануецца некалькі простых пытанняў:

- Калі і навошта ўзнікла гэтая крыніца?
- Хто з’яўляецца аўтарам артыкула і чаму ён яго напісаў?
- Што ў дакументах было зменена і аб чым, наадварот, замоўчана?

- У чым яны супярэчаць адзін аднаму?
- Якія эмоцыі і пачуцці яны выклікаюць у нас?

Натуральна, вучні былі здзіўлены тым, наколькі адрозніваліся два медыявобразы. Наглядна адрозненні паказаны ў табліцы 1. У той час як сучасныя артыкулы падкрэсліваюць негатыўныя аспекты (забойства грамадзян, экалагічная шкода на мільярды даляраў) і ўвесь тэрмін знаходжання савецкіх салдат лічаць за акупацыю, гістарычныя матэрыялы пазбягалі ярлыка “акупацыя” і заўсёды казалі пра “братэрскую дапамогу” у барацьбе з контррэвалюцыяй. Пераважаў вобраз дружбы і падзякі за дапамогу і сяброўства паміж дзвюма краінамі без негатыўных паведамленняў.

Табліца 3: **САВЕЦКІЯ ВОЙСКІ Ў ЧЭХАСЛАВАКІІ Ў 1968-1991 ГГ.: ПАРАЎНАННЕ ДВУХ МЕДЫЯВОБРАЗАЎ.**

| Сучасныя СМІ<br>**(глабальныя інфармацыйныя серверы, чэшскае тэлебачанне, адукацыйныя матэрыялы)** | Гістарычныя СМІ<br>**(газеты, у т.л. “Саюз чэхаславацка-савецкага сяброўства”, хронікі)** |
|---|---|
| • Пераважае негатыўная ацэнка<br>• Пражская вясна і 21 жніўня 1968, танкі на вуліцах Прагі<br>• Акупацыйныя войскі<br>• Забойства грамадзян (290)<br>• Вымушаная згода аб часовым знаходжанні<br>• “Ідзі дадому, Іван”<br>• Экалагічныя праблемы (мільярды крон шкоды)<br>• Палёгка пасля вываду войскаў | • Адсутнасць негатыўнай ацэнкі<br>• Вызваленне ад нацысцкай акупацыі ў 1945 годзе<br>• Братэрская дапамога – абарона падчас контррэвалюцыі ў 1968 годзе<br>• Ваенная абарона і саюзніцтва<br>• Нечаканае сяброўства і супрацоўніцтва<br>• Перыядычныя маніфестацыі ў доказ сяброўства і ўдзячнасці |

Тыповым прыкладам сучаснай ацэнкі было інтэрв’ю на чэшскім радыё украінскага баксёра Віталя Клічко, чый бацька служыў афіцэрам у Чэхаславакіі ў 80-х:
Пытанне: Як вы бачыце сітуацыю сёння, ужо будучы дарослым, адукаваным, дасведчаным чалавекам, які ведае гісторыю? Ці можаце вы прызнаць, што гэта было ўварванне, акупацыя?

*- Гэта была акупацыя, але не расійская, а Савецкага Саюза. Гэта была палітычная акупацыя савецкай сістэмы. Наяўнасць ваеннага кантынгенту была проста стратэгіяй КПСС. І сёння я перад вашай краінай вельмі выбачаюся.*[28]

## Жывое сведчанне ў якасці крыніцы інфармацыі

Асноўным напрамкам дзейнасці вучняў пры вывучэнні артыкулаў была дакументацыя ўспамінаў відавочцаў. Мы ўзялі інтэрв'ю ў 60 чалавек, некаторыя з размоў доўжыліся 10 хвілін, іншыя, са спецыфічнымі сведкамі (такімі, як былы грамадзянскі служачы ў ваеннай галіне, летапісец вёскі) спакойна маглі цягнуцца на працягу дзвюх гадзін. Калі сведкі адмаўляліся ад запісу, вучань рабіў нататкі.

Многія мясцовыя сведкі гэты этап не ўспрымалі як унікальны (гэта было часткай іх паўсядзённага жыцця), сваю сарамлівасць пасля нашых просьб хутка пераадольвалі і распавядалі пра свой вопыт. З успамінаў выплывала, што 21 жніўня 1968 года і наступныя гады шматлікія сведкі звязваюць з псіхалагічнымі траўмамі, непрыемнымі ўспамінамі. Яны прынялі ўдзел у антыакупацыйных забастоўках і петыцыях, але з часам былі вымушаныя зміріцца з сітуацыяй і навучыцца жыць з салдатамі.

У цэлым можна вылучыць два асноўных тыпы сведкаў. Адныя ўспаміналі не баючыся, таму што ўспаміны гэтых людзей, у прынцыпе, не супярэчылі меркаванням, з якімі мы сустрэліся ў сродках масавай інфармацыі. Гэтыя людзі апісвалі штодзённыя сустрэчы, вымушаныя сяброўствы падчас штогадовых урачыстасцяў, крытыку заступніцтва, пыхлівыя паводзіны жонак афіцэраў у крамах або канфлікты з вайскоўцамі на танцах. Аднак аказалася, што іншая група сведкаў, пасля таго як мы атрымалі іх давер, апісвала некалькі іншыя гісторыі. Яны казалі аб масавым гандлі на чорным рынку ваеннай тэхнікай і алкаголем, як савецкія афіцэры находзілі кліентаў з мясцовых камуністаў, пасылалі салдат на будоўлі дамоў ці на збор ўраджаю. Знаходжанне савецкай арміі звязвалася са станоўчымі аспектамі (знаходзілася праца для людзей, рамантаваліся дарогі) і выклікала спачуванне простым салдатам.

## Аналіз і інтэрпрэтацыя адносін паміж СМІ і рэальнасцю

Сітуацыя, калі ні сродкі масавай інфармацыі, ні сведкі не пагадзіліся на ацэнку нашай тэмы, адкрыла для мяне, як для настаўніка, ідэальную прастору для інтэрпрэтацыі адносін паміж паведамленнямі СМІ і рэчаіснасцю.

Вядома, студэнты праявілі тэндэнцыю да ўспрымання старых газеты як ілжывых (выкарыстоўваўся выраз “камуністычная прапаганда”, цэнзура забараняла называць нашэсце 1968 года сапраўдным імем “акупацыя”), і яны не могуць падвяргаць сумневу тую карціну, якую СМІ прапануюць ім сёння. Тым не менш пасля дыскусій мы прыйшлі да высновы, што ні адзін сучасны малюнак не з’яўляецца цалкам дакладным, таму што выбар тэмы і ацэнкі навязаў нам тое, што мы павінны думаць пра савецкіх салдатаў (яны былі “акупантамі”, якія хочуць “спустошыць” нашу краіну). Таму істотным крокам было пагутарыць з тымі, каму прыходзілася мець рэгулярныя стасункі з салдатамі, каб паведамленні СМІ маглі дапоўніцца сведчаннямі канкрэтных людзей.

Улічваючы праблематыку ўспамінаў як гістарычнай крыніцы, мы прыйшлі да высновы, што некаторыя з гісторый былі скажоныя з-за ідэалізацыі або з-за праблемных абставін размяшчэння войск (асабліва “прымусовы” удзел у развіцці чэхаславацка-савецкіх адносін можа быць растлумачаны як форма “супрацоўніцтва з акупантамі”, а наша памяць мае звычку “забываць” непрыемны вопыт). Тым не менш, мы павінны былі зрабіць выснову, што ўспаміны, якія адрозніваюцца ад афіцыйных малюнкаў у сродках масавай інфармацыі, не з’яўляюцца ілжывымі і маюць значную вагу і праўдзівыя сведчанні.

Мы вылучылі гіпотэзу, згодна якой некаторая нявызначанасць сведкаў у тым, што яны памятаюць, абумоўлена тым, што ў рэгіёне не хапае афіцыйных дзяржаўных святаў або рытуалаў, якія запэўнілі б грамадзян у тым, якія на самой справе гэтыя афіцыйныя рамкі успамінаў. Падчас існавання камуністычнага рэжыму да 1989 года праводзіліся масавыя мітынгі, у якіх прымала ўдзел вялікая частка насельніцтва. Кожны год падмацоўвалася меркаванне аб тым, як людзі павінны ўзгадваць савецкіх салдат (гэта былі “вызваліцелі” 1945 года, а не “акупанты” года 1968). Фарміраванне агульнай памяці ў цяперашні час праходзіць часткова ў іншых формах, і яно не звязана цэнзурай і масіўным палітычным ціскам адной палітычнай партыі.

## Вучні як стваральнікі медыяпрадуктаў

Апошні крок, які нас чакаў, быў стварэннем уласных медыяпрадуктаў, праз якія вучні папулярызавалі б усё, што ўбачылі. Ідэальнай формай для гэтага прапанаваўся ўласны часопіс. Ён даступны для спампоўкі на інтэрнэт-старонках нашай школы і можа служыць у якасці натхняльніка нават з графічнага пункту гледжання.[29] Для гэтага мы скарысталіся агульнадаступнай праграмай Microsoft Office Publisher. Часопіс мы прапанавалі бацькам, сведкам і адправілі ў турысцкія цэнтры ў рэгіёнах былога ваеннага ўчастку.

Усе вучні працавалі тымі ж метадамі, як гісторыкі ці журналісты на месцы падзей; рэдакцыйную працу падзялілі па асабістых інтарэсах. Некаторыя з іх былі журналістамі і пісалі артыкулы ў розных жанрах, такіх як навіны або рэпартаж (“Афіцыйны вобраз салдат”, “Саюз чэхаславацка-савецкага сяброўства”, “Чорны рынак” і г.д.), некаторыя стваралі ілюстрацыі або складалі крыжаванкі з гістарычнымі паняццямі.

Пры стварэнні часопіса варта думаць пра важныя прынцыпы. Мы павінны паслядоўна заахвочваць вучняў да працы з крыніцамі інфармацыі. Малодшыя школьнікі часам аддаюць перавагу кароткім рэплікам і прымяняюць іх у кантэксце, вельмі адрозным ад сапраўдных думак сведкаў. Акрамя таго, яны, як правіла, спрашчаюць і абагульняюць сцверджанні, і часта вопыт аднаго сведкі, які здаецца самым цікавым, прадстаўляецца ў якасці агульнага вопыту тагачаснага насельніцтва. Абагульненае сцвярджэнне ў гэтым выпадку настаўнік не прымае і вяртае вучняў да запісаных размоў. Вучань павінен быць у стане пацвердзіць кожнае сцвярджэнне сваімі ўласнымі даследаваннямі або адпаведнай крыніцай і паказаць, што розныя людзі перажылі дадзеную сітуацыю па-свойму.

Найбольш важнае сцвярджэнне вучань павінен прадэманстраваць у артыкуле як сапраўдны ўрывак з інтэрв’ю. Акрамя таго, тут замацоўваецца важная здольнасць адрозніваць фактычную інфармацыю ад уражанняў, бо ўспрыманне меркаванняў і ўражанняў за сапраўдныя факты з’яўляецца вельмі дрэннай звычкай палітыкаў і ўсіх тых, хто імкнецца маніпуляваць грамадскай думкай. Поспех такіх маніпуляцый заключаецца ў тым, што людзі не ў стане або проста не жадаюць крытычна ўспрымаць заявы СМІ і аспрэчваць іх уяўную прадузятасць.

Тым, хто не мае таленту да творчай пісьмовай працы, было прапанавана дапамагаць з графічным дызайнам і размяшчэннем тэкстаў на старонцы сайта. Акрамя таго, мы стварылі невялікі сшытак гумарыстычных апавяданняў, у які ўключылі цікавыя падзеі з расповедаў відавочцаў (напрыклад, пераслед дэзерціраў на чыгуначным вакзале).

У той жа час мы дадалі артыкул аб ваенным участку Ральско ў Вікіпедыю. Праз гэты прыклад вучні зразумелі, як узнікае змест анлайн-энцыклапедыі, якую яны звыклі выкарыстоўваць у якасці крыніцы інфармацыі, напрыклад, для дамашняй работы, не будучы асцярожныя з тым, хто з’яўляецца аўтарам артыкулаў, ці пацвярджаюцца яго словы якімі-небудзь крыніцамі.

Увесь праект быў завершаны прэзентацыяй для бацькоў і грамадскасці ў канцы навучальнага года. Калі некаторыя настаўнікі не адважыліся стварыць свой уласны часопіс (мая парада: пакіньце працу ў часо-

пісе дзецям), па меншай меры, невялікая прэзентацыя для школьнікаў будзе мець вялікую карысць. Не толькі тым, што будзе матываваць іх да працы (яны змогуць “пахваліцца” тым, што зрабілі), але падагульняючая прэзентацыя прымусіць вучняў сваімі словамі сфармуляваць, пра што яны даведаліся. Для настаўнікаў важна праверыць, чаму школьнікі навучыліся, ці зразумелі яны тое, што рабілі. У той жа час гэта свята сумеснай творчай працы, якое дазваляе не толькі настаўнікам адчуць, што школа з’яўляецца месцам, дзе адбываюцца значныя і карысныя для жыцця рэчы.

**2.7.**

# МЕДЫЯАДУКАЦЫЙНЫЯ СКЛАДНІКІ ШКОЛЬНАЙ ГІСТОРЫКА-ГРАМАДАЗНАЎЧАЙ АДУКАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ

*Алена Палейка*

## Праблемныя аспекты навучання гісторыі і грамадазнаўству ў школе

Высокі медыяадукацыйны патэнцыял гісторыі як вучэбнага прадмета лепш за ўсё можна праілюстраваць словамі брытанскага гісторыка Роберта Стрэдлінга[30]: "большасць гістарычных з'яў, калі не ўсе яны, могуць быць інтэрпрэтаваныя і рэканструяваныя з розных пунктаў гледжання, у розных перспектывах, зададзеных і абмежаванасцю сведчанняў, і суб'ектыўнымі інтарэсамі інтэрпрэтатараў, і зменлівымі культурнымі ўплывамі, якія ў пэўнай ступені таксама прадвызначаюць, што менавіта здаецца істотным у мінулым кожнаму новаму пакаленню".

Прытрымлівацца названых прынцыпаў мультыперспектыўнасці як асновы адпаведнай дыдактыкі, пабудаванай на дасягненнях развіцця сучаснай гістарычнай навукі, і паўнавартасна ажыццяўляць іх у педагагічнай практыцы перашкаджаюць наступныя школьныя рэаліі:

- змястоўная насычанасць вучэбнай праграмы, калі за абмежаваны час трэба "прайсці" шмат тэм;
- існуючая практыка напісання падручнікаў, аўтары якіх звычайна ілюструюць пэўны пункт гледжання гатовымі вытрымкамі з розных гістарычных крыніц, не прапануючы вучням адмыслова іх аналізаваць з наступнай інтэрпрэтацыяй;
- падручнік утрымлівае гатовую для "засваення" цэласную карціну мінулага ці сучаснасці (адмыслова адабраная нагляднасць працуе як надзейнае сведчанне "правільнасці", нават кананічнасці гэтай карціны-"іконы");
- устаноўка настаўніка на трансляцыю ведаў, непадрыхтаванасць і нежаданне шырока і вольна агляддаць гістарычныя падзеі і з'явы з розных пунктаў гледжання;
- пераважаючая ацэнка і кантроль вынікаў вучэбнай дзейнасці шляхам тэсціравання па зместу школьнага падручніка.

Адзначым як станоўчае, што ў цяперашні час у нашай краіне для навукова-метадычнага забеспячэння рэалізацыі кампетэнтнаснага падыходу да навучання абнаўляюцца вучэбныя праграмы і на конкурснай аснове ствараюцца новыя вучэбныя дапаможнікі. Гэта складаны працэс, падчас якога не толькі інтэнсіўна вывучаецца замежны досвед, але і разгортваюцца гарачыя дыскусіі па айчынных падручніках гісторыі і грамадазнаўства як у навуковым і педагагічным асяроддзях, так і ў шырокіх грамадскіх колах.

Крытыка дзеючых вучэбных дапаможнікаў тычыцца, ў першую чаргу, адпаведнага адлюстравання ў іх ролі гісторыі і грамадазнаўства разам з літаратурамі як “нацыятворчых прадметаў”, што “павінны спрыяць укладанню каштоўнаснай іерархіі, закладаць у свядомасць вучняў спосабы і стэрэатыпы ўспрымання культуры і гісторыі на ўсё жыццё, неабходнасці трактоўкі падзей гісторыі Беларусі з беларускага гледзішча”[31], адмаўлення ў айчынных падручніках па сусветнай гісторыі ад “расейскацэнтрычнага погляду на гісторыю і на свет”[32], пераадолення “фрагментарнага прадстаўлення беларускай спецыфікі”[33] ў айчынных падручніках па грамадазнаўству, дзе “фактычна маем русскій міръ, пісаны беларускімі літарамі”.[34]

Неабходна дадаць, што цяпер ў большасці школ нашай краіны гісторыя Беларусі выкладаецца на рускай мове, што ва ўмовах дамініравання рускамоўнага кантэнту ў медыях (у тым ліку айчынных) мае выразна акрэсленыя негатыўныя наступствы на перспектыву ў выкананні нацыятворчай місіі школьнай гістарычнай адукацыяй.

## Медыяінфармацыйныя кампетэнцыі як вынікі вучэбнай дзейнасці па гісторыі і грамадазнаўству

Яшчэ ў 2012 годзе даследчыкі з Цэнтра праблем развіцця адукацыі БДУ адзначалі, што “рэакцыя беларускай інстытуцыянальнай адукацыі на медыятрансфармацыі культуры выглядае, па-першае, як хранічна запозненая і, па-другое, як частковая (якая вылучае пераважна тэхнічныя аспекты)”.[35] У 2016 годзе сітуацыя істотна не змянілася, аб чым сведчыць змест Рэспубліканскага каардынацыйнага плана мерапрыемстваў дадатковай адукацыі педагогаў[36]. У гэтым міністэрскім загадзе адзін з дзевяці раздзелаў, які ўключае 25 семінараў з 198, называецца “Навукова-метадычнае забеспячэнне медыякампетэнтнасці ў адукацыйным працэсе”.

Вылучым станоўчае – у нас з’явіўся сам тэрмін “медыякампетэнтнасць”, але ёсць і другі бок медалю – большасць семінараў у гэтай намінацыі прысвечана выкарыстанню інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій (ІКТ) у адукацыйным працэсе і стварэнню электронных адукацыйных рэсурсаў. Такім чынам, калі разглядаць медыяадукацыю як працэс, а медыякампетэнтнасць як вынік адпаведнай адукацыйнай практыкі, то мы і ў 2016 годзе маем яшчэ агульнае разуменне медыякампетэнтнасці як узроўня валодання ІКТ. Адразу адзначым, што гэта вузкае, частковае разуменне, але цяпер назіраюцца значныя зрухі ў магістральным кірунку медыяадукацыі, прыярытэтам якога з’яўляецца развіццё крытычнага мыслення школьнікаў і, адпаведна, здольнасцей дэкадаваць медыяпаведамленні, створаныя ў розных відах і жанрах медыя.

У абноўленых у 2015-2016 гг. вучэбных праграмах па розных прадметах з’явіліся плануемыя вынікі вучэбнай дзейнасці вучняў, сфармуляваныя як асобасныя, метапрадметныя і прадметныя кампетэнцыі. Напрыклад, у абноўленай вучэбнай праграме па грамадазнаўству для 11 класа[37] можна вылучыць як запланаваныя вынікі вучэбнай дзейнасці медыяінфармацыйныя кампетэнцыі (метапрадметныя):

## здольнасць вучняў самастойна працаваць з рознымі крыніцамі інфармацыі, уключаючы ўменні:

- арыентавацца ў розных крыніцах інфармацыі;
- крытычна ацэньваць і адэкватна інтэрпрэтаваць атрыманую з розных крыніц інфармацыю;
- адрозніваць факты, аргументы, ацэначныя меркаванні;
- аддзяляць асноўную інфармацыю ад другаснай;
- перадаваць змест інфармацыі адэкватна пастаўленай мэце (сціснута, поўна, выбарачна);
- перакладаць інфармацыю з адной знакавай сістэмы ў іншую (з тэксту ў табліцу, з тэксту ў схему і інш.);
- выкарыстоўваць сродкі інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій пры вырашэнні кагнітыўных, камунікатыўных і арганізацыйных задач з захаваннем прававых і этычных нормаў, нормаў інфармацыйнай бяспекі;
- авалодаць рознымі відамі публічных выступаў (даклад, паведамленне, выступленне), прытрымлівацца этычных нормаў і правілаў вядзення дыялогу.

У абноўленай вучэбнай праграме ў якасці рэкамендаваных форм і метадаў навучання і выхавання ёсць рашэнне вучэбна-пазнавальных і практычных задач з выкарыстаннем розных крыніц сацыяльна-гуманітарнай інфармацыі (у тым ліку матэрыялаў электронных і друкаваных СМІ).

Пералічаныя вышэй новаўводзіны маюць адпаведныя наступствы:

- змест вучэбнага прадмета, перанасычаны факталогіяй і навуковай тэрміналогіяй, адыходзіць на другі план;
- настаўнікі вучацца фармуляваць мэты ўрокаў, арыентуючыся на кампетэнцыі, адпаведныя ўзросту навучэнцаў;
- настаўнікамі запатрабаваныя актыўнае навучанне і адпаведныя методыкі.

## Асноўны метад – дэканструкцыя медыяпаведамлення

З улікам запатрабаванасці педагогамі метадычнага забеспячэння рэалізацыі кампетэнтнаснага падыходу ў навучанні адпаведна абноўленым вучэбным праграмам складваюцца спрыяльныя ўмовы для інтэграцыі медыяадукацыі ў навучанне гісторыі і грамадазнаўству ў школе. Адзначым, што гэты працэс можа адбывацца праз наступныя змены наяўнай педагагічнай практыкі: неабходна працаваць так, каб вучні пастаянна мелі магчымасць аналізу і сінтэзу інфармацыі з розных крыніц і абмеркавання розных, у тым ліку альтэрнатыўных, нават канфліктных поглядаў на гістарычныя і сучасныя з’явы і падзеі.

Вядома, што прадуктам медыя з’яўляюцца медыятэксты.[38] Ключавыя пытанні для аналізу медыятэкстаў забяспечаць навучэнцаў неабходнай аналітычнай структурай і дапамогуць крытычна мысліць не толькі пра гістарычныя дакументы ў кантэксце пэўнай эпохі, але і пра сучасную моцна медыялізаваную рэальнасць. Адмовіўшыся ад ролі простых інфарматараў і транслятараў гатовых ведаў з падручніка, настаўнікам неабходна самім авалодаць гэтымі ўменнямі, каб зразумець, што ўсе медыяпаведамленні сканструяваныя. Кожны медыятэкст створаны адмыслова для перадачы мэсыджу (пасыла або паведамлення). Кожны мэсыдж ствараецца чалавекам ці групай людзей для дасягнення пэўнай мэты: утрымлівае пэўны пункт гледжання або сістэму каштоўнасцяў, выкарыстоўваецца для атрымання кантролю над думкамі, рашэннямі, выбарам медыяспажыўца. Аналіз медыяпаведамлення (дэканструкцыя) робіцца асноўным метадам, які выкарыстоўваецца педагогамі незалежна ад віда медыятэкстаў.

## Пытанні для аналізу медыятэксту[39]

- Хто напісаў / зняў / зрабіў гэта? Хто за гэта заплаціў?
- Для каго гэта напісана / знята / выраблена?
- Якія прыёмы прымяняюцца, каб перадаць інфармацыю?

- Якія ідэі, каштоўнасці, пункты гледжання даносяцца?
- Што важнае засталося па-за паведамленнем?
- Калі, дзе і як гэты мэсыдж выйшаў на людзей?
- Гэта факт, пункт гледжання ці нешта іншае?
- Ці можна давяраць гэтай крыніцы?
- Як розныя людзі могуць гэта інтэрпрэтаваць?
- Хто выйграе, а каму пашкодзіць гэты мэсыдж?
- Якая мая інтэрпрэтацыя гэтага мэсыджу?
- Якія мае дзеянні ў адказ на гэты мэсыдж?

Гэтыя пытанні дапамогуць прааналізаваць любы медыятэкст на ўроку ці дома – навіну, рэкламу, фільм, газетны артыкул, карыкатуру, фота, плакат, гістарычны дакумент, тэкст школьнага падручніка, літаратурны твор. На думку брытанскага даследчыка Д. Букінгэма[40], падчас навучання гісторыі настаўніку неабходна стварыць ўмовы для разумення вучнямі:

- як гістарычныя падзеі і перыяды могуць быць прадстаўлены ў розных жанрах медыятэкстаў (дакументальных і мастацкіх);
- як медыятэксты выкарыстоўваюцца ў якасці прыкладаў пры вывучэнні гісторыі;
- як аб’ядноўваліся розныя крыніцы і сведкі для маніпулявання медыйнай рэпрэзентацыяй мінулага;
- як і якія гістарычныя персаналіі выкарыстоўваліся медыя ў мэтах уладаў ці іншага ўплыву.

Адзначым, што калектыўная праца, якую выконвае цэлая група, значна больш эфектыўная, чым індывідуальная. У такой сумеснай працы настаўнік накіроўвае працэс аналізу і абмеркавання з дапамогай пытанняў. Суправаджэнне групы навучэнцаў без навязвання свайго бачання дазваляе настаўніку ацаніць узровень разумення, выправіць фактычныя памылкі, прадставіць дадатковую інфармацыю па тэме, калі ёсць такая неабходнасць, і разабрацца з праблемамі, якія могуць паўстаць, калі вучні даюць розныя тлумачэнні аднаго і таго ж мэсыджу.

Важна таксама ўсведамляць, што ўменне аналізаваць медыятэксты з’яўляецца не проста складнікам школьнай гістарычнай адукацыі, а робіць яе практыкаарыентаванай: спрыяе разуменню спосабаў, якімі карыстаюцца сучасныя медыя, каб аказваць уплыў на людзей (маніпуляцыя, прапаганда, стэрэатып, фэйк).

**МАНІПУЛЯЦЫЯ** – схаванае псіхалагічнае ўздзеянне, спосаб камунікацыі, мэта якога – змяніць успрыманне або паводзіны чалавека. Маніпулятары выкарыстоўваюць лагічныя памылкі ў разважаннях, апу-

скаюць частку інфармацыі, выбіраюць толькі патрэбную, параўноўваюць непараўнальнае, падмяняюць паняцці, выкарыстоўваюць страх, забабоны, ліслівасць, убудаваныя моўныя каманды, інфармацыйны калейдаскоп і інш.

**ФЭЙК** – слэнгавы тэрмін, які абазначае падробку, фальсіфікацыю. У дачыненні да сродкаў масавай камунікацыі пад фэйкам разумеюць навіну, якая не мае нічога агульнага з праўдай, падробку навіны.

**СТЭРЭАТЫПЫ** ў медыях працуюць як ўстойлівыя коды, якія даюць аўдыторыі хуткае, агульнае ўяўленне аб тым ці іншым чалавеку або групе людзей, асабліва датычна іх класавай, расавай ці этнічнай прыналежнасці, гендару, сэксуальнай арыентацыі, сацыяльнай ролі ці прафесіі. Стэрэатыпы ствараюць спрошчаную карціну рэальнасці і небяспечна падсілкоўваюць сацыяльныя забабоны і няроўнасць у грамадстве.

**ПРАПАГАНДА** – загадзя спланаванае і мэтанакіраванае распаўсюджванне інфармацыі для ўздзеяння на думку ўсяго грамадства ці іншай мэтавай аўдыторыі. Прапаганда распаўсюджваецца праз розныя медыя, каб сфарміраваць абраны вынік грамадскай думкі.

Эфектыўнымі сродкамі ў дасягненні медыяадукацыйных мэтаў з’яўляюцца:
- аналіз і параўнанне медыятэкстаў, распавядаючых аб адной гістарычнай падзеі (тэкст падручніка, інтэрв’ю сведкі, дакументальная хроніка, урывак мастацкага фільма);
- выбар і абгрунтаванне тэзісаў, якія з пункту гледжання навучэнцаў дакладна адлюстроўваюць мэты стваральнікаў таго ці іншага медыятэксту (напрыклад, улётак падчас выбарчай кампаніі);
- аналіз навіны аб адной падзеі, пададзенай па розных каналах медыя (тэлебачанне, радыё, прэса, сацыяльныя сеткі);
- параўнанне артыкулаў у Вікіпедыі пра адну і тую ж падзею ці персону на розных мовах, стварэнне і рэдагаванне артыкулаў па гісторыі Беларусі на розных мовах;
- вывучэнне спісу папулярных фільмаў/тэлеперадач у пэўны час (тлумачэнне іх рэйтынга);
- сваё агучванне ўрыўка экраннага медыятэксту (параўнанне з арыгіналам);
- вывучэнне і параўнанне загалоўкаў і рубрык розных газет у вызначаны дзень ці перыяд;
- праца з сямейным архівам фота, паштовак, лістоў (малая гісторыя ў кантэксце вялікай);
- аналіз фрагмента фатаграфіі (плаката, рэкламнага постэра) з пункту гледжання таго, што там адбываецца і яго суаднясенне з цэлым медыятэкстам;
- праца з жанравымі стэрэатыпамі (сюжэтнымі схемамі, тыповымі сітуацыямі, персанажамі, мімікай і жэстамі, адзеннем, прадметамі, месцам дзеяння і г.д.);

- параўнанне загалоўкаў медыятэкстаў, у якіх выкарыстоўвалася адна і тая ж фатаграфія;
- аналіз і параўнанне тэкстаў і ілюстрацый падручнікаў гісторыі розных часоў пра адну падзею, асобу (ці розных краін пра падзею, асобу).

Падсумуем: сістэматычнае выкарыстанне медыятэкстаў (і асабліва, стварэнне ўласных медыяпрадуктаў) падчас навучання гісторыі і грамадазнаўству спрыяе павышэнню цікавасці вучняў да гістарычных падзей і разумення сучасных тэндэнцый развіцця грамадства, успрыманню гісторыі ў кантэксце пэўнай гістарычнай эпохі, асэнсаванню плюралізму думак, поглядаў і інтэрпрэтацый, разуменню медыяманіпуляцый, станаўленню грамадзянскай культуры асобы.

## Галоўны прыярытэт – навучанне настаўнікаў

Прыёмы і метады фарміравання медыяінфармацыйнай граматнасці вельмі запатрабаваныя настаўнікамі гісторыі і грамадазнаўства, аб чым сведчыць іх колькасць сярод удзельнікаў медыяадукацыйных семінараў у НІА, АПА, абласных інстытутах развіцця адукацыі. За апошні год для гісторыкаў і грамадазнаўцаў у НІА распрацаваны праграмы навукова-практычных семінараў “Медыяадукацыйны падыход ў выкладанні гісторыі і грамадазнаўства ў школе”, “Праца з медыятэкстамі (фатаграфія, плакат, карыкатура і інш.) на ўроках гісторыі і грамадазнаўства”, “Праца з медыятэкстамі (кіно, відэа, рэклама) на ўроках гісторыі і грамадазнаўства”.

Па выніках праведзеных міжнародных семінараў з удзелам чэшскіх медыяпедагогаў у 2013–2014 гг. для беларускіх настаўнікаў гісторыі і грамадазнаўства ў рамках праекта “Грамадзянская адукацыя для беларускіх школ” быў выдадзены дапаможнік “Преподавание новейшей истории в школе”[41], які ўтрымлівае метадычныя рэкамендацыі для працы з фота, фільмам, інтэрв’ю сведкаў гістарычных падзей і вельмі запатрабаваны беларускімі педагогамі.

У цяперашні час рыхтуецца да выдання метадычны дапаможнік для настаўнікаў гісторыі і грамадазнаўства “Медыятэксты на ўроках гісторыі і грамадазнаўства”, дзе будзе надавацца асаблівая ўвага праблемным аспектам працы з кантэнтам на лічбавых платформах, вэб-сервісам як інструментам стварэння медыятэкстаў і сеткавай камунікацыі.

2.8.

# ШКОЛЬНЫ КІНАКЛУБ ЯК АДУКАЦЫЙНАЯ МЕДЫЯПЛЯЦОЎКА

*Міхась Кудзейка*

Велізарны пласт інфармацыі, культуры, ведаў змяшчае экраннае мастацтва: кіно, тэлебачанне, відэа, новыя медыя (заснаваныя на кампутарных тэхналогіях). Валодаючы спецыфічнымі якасцямі, медыятэксты экраннага мастацтва спрыяюць узнікненню эфектаў саўдзелу і суперажывання з героямі і фарміруюць ацэначнае стаўленне. Экраннае мастацтва нас выхоўвае, навучае, развівае, забаўляе, але пры гэтым і маніпулюе намі. Багацце забаўляльных праграм, фільмаў, перадач прытупілі крытычную свядомасць асобы, дазволіўшы медыя кіраваць яе паводзінамі, фарміраваць светапогляд і нават навязваць меркаванне.

Кіно – гэта асаблівы свет. Жыццё любога з нас праходзіць пад знакам кіно. Кожны можа па жаданню (у кінатэатры ці дома) “выключыцца” з будняў і перанесціся ў іншую рэальнасць – экранную. Навошта? Мы хочам ведаць як мага больш новага – новых людзей, новыя факты. Экран пашырае наш кругагляд. У нас моцная смага да прыгажосці, а таленавіты фільм – кандэнсат прыгожага. Кіно, як і літаратура, выклікае эмоцыі: яно прымушае злавацца, радавацца, перажываць, транслюючы сапраўдныя каштоўнасці і ўзоры паводзін. Дзякуючы сваёй выключнай рэалістычнасці, фільмы здольныя служыць надзвычай уплывовай на навакольную рэчаіснасць мадэллю. Падчас прагляду мы можам забываць, што сюжэт фільма арганізаваны, ідзе гульня акцёраў і экранная рэчаіснасць становіцца для нас як бы фізічнай рэальнасцю. Экран дорыць нам непараўнальнае адчуванне: мы так захапляемся відовішчам, што непрыкметна для сябе апыняемся сярод экранных герояў, пачынаем жыць іх жыццём, думаць як яны. Мы схільныя ўспрымаць фільм як фрагмент уласнага жыцця, параўноўваючы жыцце герояў са сваім уласным, у думках ставячы сябе “на іх месца”, пераймаючы іх манеры і дзеянні.

Такім чынам, фільмы могуць быць прачытаныя як тэксты. Унікальнасць кінатэкстаў у тым, што тыя “цаглінкі”, якія змяшчае кінатэкст, – гэта прыдуманыя аўтарам знакі, якія выкарыстоўваюцца, магчыма, упершыню ў жыцці, і іх прачытанне патрабуе кожны раз новага падыходу. Менавіта таму пасля чытання кінатэкста кожны глядач пераказвае яго сюжэт па-свойму. У адрозненні ад сюжэту літаратурнага тэксту, гэты сюжэт складаецца з малюнкаў, якія рухаюцца на экране, і з гукаў, якія льюцца з дынамікаў. Сюжэт

у кінематографе – складаная структура, якая не абмяжоўваецца сумеснымі дзеяннямі персанажаў. Для яго фарміравання таксама важна, каб арганічна аб'ядналіся выразныя сродкі ўнутранай кадравай прасторы, ракурсу камеры, аптычныя эфекты для здымкі аб›ектаў, гукавыя эфекты і яшчэ мноства розных тэхнічных элементаў, якія глядач часта не аб'ядноўвае, але менавіта яны ствараюць цэласнасць убачанага намі сюжэту. Кіно не мае універсальнай адзінкі мовы і ўніверсальнай яго трактоўкі. Кожны кінавобраз глядач успрымае і трактуе па-свойму, індывідуальна, але пры гэтым абапіраецца на асноўныя выяўленчыя сродкі кінамастацтва.

Выхаваўчае ўздзеянне фільма і эстэтычнае развіццё гледачоў – узаемазвязаныя праблемы. Праца з мастацкім фільмам у школе дапамагае навучэнцам спазнаць законы кінамастацтва, спрыяе развіццю вобразнага і крытычнага мыслення, адкрываючы тым самым шырокія гарызонты прыгожага ў мастацтве і жыцці. На вялікі жаль, сучасная адукацыйная сістэма не прадугледжвае ў навучальным працэсе вывучэнне кіно як разнавіднасці мэдыяў ці як віду мастацтва. Часовыя рамкі ўрока не дазваляюць выкарыстоўваць медыятэкст ігравога кіно ў поўным аб'ёме і таму, часцей за ўсё, педагог на ўроках выкарыстоўвае толькі фрагменты кінакарцін.

Патэнцыйнай магчымасцю знаёмства і далучэння школьнікаў да кінамастацтва валодае выхаваўчая работа, калі педагог актыўна выкарыстоўвае кінаматэрыялы на класных, інфармацыйных гадзінах, пры арганізацыі пазакласнай і пазашкольнай работы. Прыкладам такой адукацыйнай пляцоўкі можа быць кінаклуб, арганізаваны на ўмовах аматарскага аб'яднання.

Такім чынам, кінаклуб – аматарскае аб'яднанне, асноўнай задачай якога з'яўляюцца прагляды і калектыўныя абмеркаванні фільмаў, вывучэнне кінамастацтва. На думку С.М. Пензіна, кінаклубны рух – з'ява шматзначная: гэта адна з распаўсюджаных формаў кінаадукацыі, самадзейная крытыка, “займальнае” і “практычнае” кіназнаўства, бюро прапаганды на грамадскіх пачатках, спосаб зносін і правядзення вольнага часу. Калі падсумаваць усе “ролі”, апынецца, што галоўнае прызначэнне кінаклуба – эстэтычнае выхаванне людзей усіх узростаў сродкамі кінамастацтва. Прычым клуб як самадзейнае аб'яднанне гледачоў падахвочвае іх да самаразвіцця. У аснове клубных праграм ляжаць два прынцыпы: вывучэнне кінамастацтва і навучанне кінамастацтвам[42].

Давайце разгледзім магчымасці выкарыстання кінаклуба як сродка арганізацыі медыяадукацыйнай пляцоўкі на базе ўстановы адукацыі Ва ўмовах арганізацыі адукацыйнага працэсу сучаснай школы мы можам разглядаць стварэнне кінаклуба або аб'яднання кінаклубаў як нетрадыцыйную форму рэалізацыі выхаваўчай работы школы. Школьныя кінаклубы могуць стварацца на аснове і з улікам узросту, вы-

хаваўчых мэтаў і інтарэсаў удзельнікаў адукацыйнага працэсу: дзіцячы, падлеткавы, бацькоўскі, сямейны, педагагічны і інш.; сацыяльна-прававы, экалагічны, асветніцкі і інш.; арткіно, фэнтэзі, экранізацыя класічнай літаратуры і інш.

У рамках арганізаваных аб'яднанняў становіцца магчымым рашэнне шматлікіх адукацыйных мэтаў і задач, звязаных з медыяадукацыяй, асветай, выхаваннем, сацыялізацыяй, зносінамі, арганізацыяй вольнага часу, далучэннем да культурнай спадчыны. Эфектыўная работа аб'яднанняў магчымая толькі на аснове ўліку асноўных прынцыпаў арганізацыі: нефармальных адносін, бяспекі, рэгулярнасці, актуальнасці, даступнасці і адкрытасці.

Схематычна магчымасці аб'яднанняў кінаклубаў як медыяадукацыйнай пляцоўкі паказаны на малюнку (гл. малюнак. Медыяадукацыйная пляцоўка)

Малюнак 3. **МЕДЫЯАДУКАЦЫЙНАЯ ПЛЯЦОЎКА**

**АБ'ЯДНАННЕ ШКОЛЬНЫХ КІНАКЛУБАЎ**




**КІНАФЕСТЫВАЛІ**



Выкарыстанне кінаклуба як дыскусійнай пляцоўкі актуальна на пачатковым этапе стварэння медыяадукацыйнай прасторы школы. Немэтазгодна зводзіць яго працу толькі да прагляду і абмеркавання кінатэкстаў. Важным элементам медыяадукацыі з'яўляецца далучэнне да творчай дзейнасці, заснаванай на ўменні самастойна ствараць медыяпрадукт: эсэ, рэкламу, публікацыю, водгук, сцэнар, відэаролік і многае іншае. Правільна арганізаваная праца кінаклуба дазволіць арганізатарам вывучыць інтарэсы ўдзельнікаў, вызначыць магчымасці і перспектывы развіцця гэтага медыякірунка, далучыць удзельнікаў да самастойнай і сумеснай творчай дзейнасці. І тады ў рамках работы кінаклуба становіцца магчымай арганізацыя аб'яднанняў па інтарэсах, звязаных з ідэяй рэалізацыі медыяадукацыі. Так, на аснове інтарэсаў вучняў, настаўнікаў і бацькоў можа быць арганізавана школьная газета, якая будзе асвятляць пытанні, звязаныя з працай кінаклуба, навінкамі кінапракату, захапленнямі, меркаваннямі ўдзельнікаў медыяпраектаў. Сучасныя камп'ютарныя тэхналогіі дазваляюць арганізаваць выпуск газеты (часопіса) не толькі ў выглядзе насценнай, але і друкаванай ці электроннай версіі.

Адукацыйная ўстанова – гэта саюз педагагічнага калектыву, вучняў і іх бацькоў, а поспех любога саюза залежыць ад актыўнага ўзаемадзеяння яго ўдзельнікаў. Эфектыўнасць работы школы ўзмацняецца праз стварэнне адзінай інфармацыйнай адукацыйнай прасторы. Адным з інавацыйных элементаў такой прасторы можа выступаць уласнае школьнае тэлебачанне, якое здольна забяспечыць рашэнне адукацыйных задач. Школьнае тэлебачанне – гэта, у першую чаргу, навучальны праект, галоўнай мэтай якога з'яўляецца не атрыманне "эксклюзіўнага тэлевізійнага прадукта", а стварэнне адзінай інтэрактыўнай віртуальнай інфармацыйнай прасторы, якая ўзмацняе інтэграцыю педагогаў, вучняў і бацькоў. Галоўнымі стваральнікамі школьнага тэлебачання павінны стаць самі навучэнцы, якія валодаюць ведамі тэлевізійнай журналістыкі і ўменнямі працы з тэлеапаратурай і праграмным забеспячэннем. Таму ў школе важна стварыць дзіцячае аб'яднанне, у рамках якога будуць праводзіцца заняткі па розных аспектах тэлевізійнай працы.

Дзіцячая анімацыйная студыя можа расхінуць свае дзверы ва ўмовах пазакласнай гуртковай работы, дзе з вучнямі будуць працаваць не прафесійныя мастакі-мультыплікатары, а педагогі-аматары, апантаныя ідэяй стварэння ўласных мультфільмаў. У такой студыі дзеці атрымаюць магчымасць пазнаёміцца з анімацыяй як відам мастацтва, атрымаць бясцэнны вопыт стварэння анімацыйных фільмаў на аснове паперы, пластыліну, падручных матэрыялаў і мастацкіх малюнкаў[43].

Арганізацыя і правядзенне школьных фестываляў дазволіць убачыць, вызначыць, ацаніць эфектыўнасць работы студый, гурткоў, клубаў, аб'яднанняў і падвесці вынікі творчай працы за пэўны прамежак часу. Арганізацыя агульнашкольных або міжшкольных кінафэстаў ўяўляе сабой медыясвята, дзе ёсць

арганізатары, гледачы, удзельнікі, знакамітыя госці, пераможцы і ўзнагароды. Кінафэсты могуць мець розны фармат і насіць розны характар. Гэта могуць быць фестывалі-прагляды кінафільмаў на пэўную тэматыку, па пэўнай праблеме, прысвечаныя тварам тых ці іншых вядомых рэжысёраў, творчай дзейнасці папулярных акцёраў. Прагляд кожнага фільма павінен суправаджацца сустрэчамі з цікавымі людзьмі, спрэчкамі і дыскусіямі. У рамках фестывалю могуць праходзіць паседжанні дыскусійных клубаў, працаваць майстар-класы, арганізоўвацца конкурсы эсэ і крытычных артыкулаў, водгукаў. У правядзенні кінафэстаў могуць аказаць дапамогу і стаць актыўнымі ўдзельнікамі бацькі, прадстаўнікі мясцовага тэлебачання, радыё, работнікі культуры, кінапракату.

Найбольш высокі ўзровень рэалізацыі ідэі медыяадукацыі ў школе можа быць паказаны і ацэнены на кінафэсце самадзейнага кіно. Удзельнікамі фестываля могуць быць вучні іншых школ горада, раёна. Тыя з іх, якія захапляюцца вытворчасцю кліпаў, рэкламы, кароткаметражнага кіно (створанага з дапамогай гаджэтаў), анімацыйных фільмаў могуць не толькі прадэманстраваць сваю прадукцыю, але і ажыццявіць публічнае выступленне, арганізаваць і правесці майстар-класы. Звычайна правядзенне фестывалю звязана з вялікай падрыхтоўчай працай: распрацоўкай палажэння аб фестывалі, адборам фільмаў, арганізацыяй выступаў вядучых, выпускам афіш да фільмаў, правядзеннем сустрэч з аўтарамі-удзельнікамі, арганізацыяй работы журы, правядзеннем конкурсу, выбарам лепшых фільмаў, узнагароджаннем пераможцаў[44]. Выдатна, калі актыўнымі ўдзельнікамі і арганізатарамі гэтых фестываляў з’яўляюцца самі дзеці, прадстаўнікі кінаклубаў.

У сучасным свеце экранныя медыятэксты “чытаюць” амаль сто працэнтаў школьнікаў, студэнтаў, дарослых, але часцей з пазіцыі забавы, з мэтай арганізацыі цікавага вольнага часу. І гэта звязана, на нашу думку, не з абыякавасцю сучаснага чалавека да сапраўднага кіна- і тэлемастацтва, а з недастатковым узроўнем медыякультуры ў грамадстве: патрабаванняў грамадства да культуры чалавека ў галіне медыя; патрабаванняў да медыя як сродку выхавання асобы.

Усведамляючы важнасць і каштоўнасць экраннага мастацтва ў фарміраванні асобы, узнікае неабходнасць рэанімаваць яго выхаваўчы, развіваючы, навучальны патэнцыялы на ўзроўні сістэмы адукацыі, традыцый сям’і, патрэбаў самога чалавека.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Калегі, калі вы, чытаючы кнігу, дайшлі да гэтых радкоў, то ёсць падставы меркаваць, што медыяадукацыя вас зачапіла. Пры гэтым, напэўна, узроўні гэтай "зачэпкі" могуць быць рознымі:

1 простая цікавасць да новага;
2 цікавасць, разуменне актуальнасці і каштоўнасці медыяграматнасці;
3 дадаткова да названага – валоданне тэрміналогіяй;
4 жаданне паспрабаваць прымяняць у працы з дзецьмі тыя або іншыя метады і сродкі медыяадукацыі;
5 жаданне паглыбляцца ў тэму, стаць самому аўтарам сваёй методыкі медыяадукацыі вучняў.

Аўтары спадзяюцца, што Вы наблізіліся да пятай прыступкі. У гэтым выпадку пажадана імкнуцца да ўдзелу ў семінарах, дыстанцыйных курсах, чытання адпаведнай літаратуры, вопытна-эксперыментальная работы.

І яшчэ важна: авалодаўшы практыкай медыяадукцыі, далучайце да яе сваіх калег. Разам можна зрабіць больш.

# НАТАТКІ

1 Асобе ў грамадстве важна ўмець апрацаваць, ацаніць і выкарыстаць імпульсы, якія паступаюць з навакольнага асяроддзя, што, ў сваю чаргу, ўсё больш патрабуе здольнасці апрацаваць, ацаніць і выкарыстаць сігналы, атрыманыя з медыя. Медыя становяцца важным сацыялізуючым фактарам, маюць значны ўплыў на паводзіны асобы і грамадства, і таму важна развіваць здольнасць "жыць з медыя".

2 ХАЛПЕРН, Д.: *Психология критического мышления – СПб.*: Издательство «Питер», 2000. – 512 с.

3 Шматмоўны сайт аб глабальнай адукацыі.
*Рэжым доступу: http://monda.eu/be*

4 ГЕЙМАН, Н.: Почему наше будущее зависит от чтения?
*Рэжым доступу: http://fit4brain.com/7524*

5 Педагогические аспекты формирования медийной и информационной грамотности.
*Рэжым доступу: http://iite.unesco.org/pics/publications/ru/files/3214708.pdf*

6 БРОЗО, У. ДЖ.: Веб-квесты: учимся, исследуя первоисточники // Перемена, том 7, № 1.- 2006

7 *Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/metoda/media/9232*

8 ЛАБАНАВА, Т., СЯРГЕЕВА, С., МАЦКЕВІЧ, Т.: Выкарыстанне відэаматэрыялаў у навучальным працэсе і выхаваўчай працы.
*Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/videobook.pdf*

9 SCHEIBE, C., & ROGOW, F.: *The teacher's guide to media literacy: Critical thinking in a multimedia world.* Thousand Oaks, CA: Sage/Corwin, 2012

10 Матэрыялы дыстанцыйнага курса па медыяадукацыі.
*Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/moodle/mod/page/view.php?id=28*

11 Медыйная і інфармацыйная граматнасць: праграма навучання педагогаў.
*Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/node/13501*

12 Медыяадукацыя: Еўрапейскія практыкі і беларуская рэчаіснасць.
*Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/node/14752*

13 Канечне, тут ідзе гаворка не толькі аб асваенні гатовай інфармацыі, але і (у многіх выпадках галоўным чынам) аб разуменні і, калі магчыма, асваенні працэса пошуку, стварэння, распрацоўкі і крытычнага аналізу навыкаў рэканструкцыі аб'ектыўнай рэальнасці ў свядомасці школьнікаў.

14 У гэтым выпадку гаворка ідзе аб спрашчэнні сутнасці гэтага артыкула. Спадар былы прэзідэнт Вацлаў Клаўс, аднак, у гэтым пытанні прытрымліваецца ранейшых поглядаў, зараз ужо не як грамадскі дзеяч.
15 За выключэннем англійскай, якая выкладаеца ў школе, інфармацыю на іншых мовах шукалі нашы вучні з замежжа - грэкі, украінцы, рускія і г.д..
16 Той факт, што я працую на кафедры педагогікі, якая  навучае дырэктараў школ, іх намеснікаў або настаўнікаў-практыкаў, якія гэтыя функцыі хочуць укараняць, дае мне нямала магчымасцяў пазнаёміцца з падзеямі ў школах амаль па ўсёй нашай краіне.
17 СОКОЛОВ, А. В.:Общая теория социальной коммуникации: Учебное пособие. — СПб.:  Изд-во Михайлова В. А., 2002 г. — 461 с.
18 ЖУРИН, А.И.: Интегрированное медиаобразование в средней школе / А.А. Журин. – 2-е изд. (эл.). – М.: БИНОМ Лаборатория знаний, 2013. – 405 с.
19 АГАФОНОВА, Ю.А.: Роль школьных изданий в формировании медиа- и информационной грамотности современных школьников // Ю.А. Агафонова // Медиаобразование 2014: Сб тезисов и статей Всероссийской научно-практической конференции (с международным участием) «Медиаобразование 2014. Региональный аспект 7 октября-9 октября 2014 г.» / Под редакцией И.В. Жилавской, Е.А. КАРЯГИНОЙ. М.: РИЦ МГГУ им. М.А. Шолохова, 2014. – 360 с. – С.96-103.
20 TELLA S.: Medianykypäivänkoulutuksessa.
*Anelectronicfiles: http://www.helsinki.fi/~tella*
21 ИВАНОВ, В.В., ЗАЙЦЕВА, С.А.: Этические проблемы формирования информационной культуры. [Электронный ресурс].
*Рэжым доступу: http:// www.viu-onlin.ru / science / publ / bulletin7 /page9.html*
22 Кодекс Республики Беларусь об образовании / Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь [Электронный ресурс]. - 2015.
*Рэжым доступу: http://www.pravo.by/main.aspx?guid=6361*
23 Концепция непрерывного воспитания детей и учащейся молодежи / Национальный образовательный портал [Электронный ресурс]. – 2015.
*Рэжым доступу : http://adu.by/?p=7769*
24 ЗАПРУДСКИЙ Н.И.: Миссия школы как управленческая инновация / Кіраванне ў адукацыі, 2008. - № 6.
25 Цифровое обучение. Каталог навыков медиа и информационной грамотности.
*Рэжым доступу: http://ifapcom.ru/files/News/Images/2013/mil_cat_rus.pdf*
26 Медийная и информационная грамотность: программа обучения педагогов.
*Рэжым доступу: http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/unescocurr_mil_russian.pdf*

27 СТРЭДЛІНГ, РОБЕРТ: Мультыперспектыва ў выкладанні гісторыі. Рада Еўропы 2003.
*Рэжым доступу: http://www.coe.int/t/dg4/education/historyteaching/Source/Notions/Multiperspectivity/MultiperspectivityEnglish.pdf*

28 Вавроўшка, Пётр. Шчаслівыя дзеці акупантаў.
*Рэжым доступу: http://www.rozhlas.cz/radiozurnal/reportaze/_zprava/838832*

29 Ваенны ўчастак Ральско 1968-1991: Савецкая армія ў рэгіянальнай калектыўнай памяці і яе афіцыйны вобраз.
*Рэжым доступу: http://www.archiv.prirodniskola.cz/expedice/ralsko2013/2013-vojensky-prostor-ralsko,%20sovatska-armada-v-regionalni-kolektivni-pameti-a-jeji-oficialni-program.pdf*

30 СТРАДЛИНГ, Р.: Многоаспектный подход в преподавании истории: пособие для учителей, 2003 // [Электронный ресурс].
*Рэжым доступу: http://www.coe.int/t/dg4/education/historyteaching/Source/Notions/Multiperspectivity/MultiperspectivityRussian.pdf*

31 Маецца на ўвазе дзейны вучэбны дапаможнік па гісторыі Беларусі для 10 класа (Новік, Я. К. Гісторыя Беларусі, 1917-1945 гг., 2012)

32 ВЯЧОРКА, В.: Дапытлівы юнак спытаў.// Наша адукацыя: Матэрыялы круглага стала / рэд. В.Вячорка.– Мінск, 2014. – С.98.

33 САДОЎСКІ, П.: Грамадазнаўства ў нашых школьных падручніках. Форум па якасці школьных падручнікаў. *Рэжым доступу: http://adu.by/forum/viewtopic.php?f=17&t=130*

34 Тамсама.

35 ПОЛОННИКОВ А., БАРЧЕНОК А.: К вопросу о кризисе современного белорусского образования // Альтэрнатывы ў адукацыі: Зборнік артыкулаў. – Мінск: ТБШ, 2012. – С.14.

36 Республиканский координационный план мероприятий дополнительного образования педагогов на 2016 год.
*Рэжым доступу: http://www.academy.edu.by/files/sem-konf%202016/Koord%20plan%202016.pdf*

37 Вучэбныя праграмы па вучэбных прадметах для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання і выхавання. XI клас (базавы ўзровень). — Мінск: НІА, 2016, — С.135.

38 Медыятэкст – ад лац.  medium+textus “сродкі, пасярэднікі + тканіна; сспляценне, сувязь, спалучэнне”) — паведамленне, тэкст любога медыйнага віду і жанру. Імклівае развіццё з пачатку XX стагоддзя сродкаў масавай камунікацыі (медыя) выклікала з’яўленне новых разнавіднасцей тэкстаў, звязаных з кінематографам, радыё, тэлебачаннем, відэа, інтэрнэтам, мабільнымі тэлефонамі і г.д.

39 ШЕЙБЕ, С., РОГОУ, Ф.: Медіаграмотність. Критичне мислення у мультимедійному світі. Підручнік для вчителя / Сінді Шейбе, Фейз Рогоу / перакл. з англ. С. Дьома; за загал. ред. В.Ф. Іванова, О.В. Волошенюк. – К., 2014. – С.84.

40 Цытуецца па: Фёдоров, А.В. Медиаобразование будущих педагогов. – Таганрог: Изд- во Кучма, 2005. – С.72.
41 ВАВРОВА, Т.: Краткое пособие по преподаванию новейшей истории. / Т. Ваврова, Ч.Пыха; Составитель: П. Данек. – Прага, 2015. – 43 с
42 ПЕНЗИН, С. Н.: Кино и эстетическое воспитание: методологические проблемы / С.Н. Пензин. - Воронеж, 1987.
43 ЗАЙЦЕВ А.Я.: Создание мультфильма на уроке. Последовательность этапов работы. *Рэжым доступу: http://festival.1september.ru/articles/644398*
44 БАЖЕНОВА, Л. М.: Медиаобразование школьника (1-4 классы): пособие для учителя / Л.М. Баженова. - М., 2004.

**КНІГА ВЫЙШЛА ДЗЯКУЮЧЫ ПАДТРЫМЦЫ:**




TRANSITION
Ministry of Foreign Affairs of the Czech Republic

**МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ Ў СУЧАСНАЙ ШКОЛЕ:**
**ЗБОРНІК НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫХ АРТЫКУЛАЎ**

Т. Ваврава, М. Запрудскі і інш. Пад нав. рэд. М.І. Запрудскага. – Мінск, 2016. 91 с.

Укладальнік: П. Данэк

Аўтары: І. Буторына, І. Бэнеш, Т. Ваврава, М. Запрудскі, М. Кудзейка, А. Лазіцкая, Т. Мацкевіч, Я. Найберт, А. Палейка, А. Радзевіч, І. Трунда, У. Фойст

Навуковы рэдактар: М. Запрудскі

Карэктар: А. Лазіцкая

Дызайнер: З. Плоцрава

Рэцэнзенты:

А. Беляева, дацэнт кафедры філасофіі культуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат філасофскіх навук

А. Палоннікаў, намеснік дырэктара Цэнтра праблем развіцця адукацыі Галоўнага ўпраўлення вучэбнай і навукова-метадычнай работы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт

Усе правы захаваныя. Поўнае або частковае выкарыстанне публікацыі магчыма толькі з пісьмовага дазволу ўладальніка аўтарскіх правоў.

Asociace pro mezinárodní otázky ( AMO )
Žitná 27/608, CZ 110 00 Praha 1
Tel.: +420 224 813 460
info@amo.cz, www.amo.cz
© AMO 2016